## *ПРА АЎТАРА*



Раткевіч Аляксандр (Алесь) Аляксандравіч, краязнаўца, пісьменнік, нарадзіўся 24 чэрвеня ў 1957 годзе ў вёсцы Чарвякі (цяпер Сакалоўка) Хаценчыцкага сельсавета, што на Вілейшчыне. Жыве на Маладзечаншчыне. Аўтар шматлікіх featureнатэмных артыкулаў, якія друкаваліся ў розных выданнях. На краязнаўчую тэму выдаў асабістыя кнігі: «НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ», 2018 год.; і «ПА ДРУГІ БОК МЯЖЫ», 2019 год. А таксама суаўтар першага гістарычнага зборніка «ВІЛЕЙСКІ ПАВЕТ» (ваенная тэматыка).

## *Ад аўтара*

*Другая сусветная вайна для мяне вельмі балючая тэма. І пагэтаму ў чарговы раз хочацца нагадаць нашым нашчадкам, што вайна гэта не толькі ўзнагароды, ордэны, медалі ды зоркі герояў, а яшчэ шматмільённыя чалавечыя страты, вайна – гэта зруйнаваныя гарады і мястэчкі, холад і голад, нявінна пралітая кроў і смерць ні ў чым непавінных жанчын, старых, юнакоў і немаўлят. Патрэбна, каб наша моладзь ведала і памятала пра тых, каму мы абавязаны сённяшнім мірным і блакітным небам над галавой. Пагэтаму прапаноўваю вашай увазе кнігу, у якой хачу расказаць з чым сутыкнуліся і праз якія пакуты ваеннага ліхалецця прайшлі нашы землякі ў мінулым стагоддзі. А спачатку, пакуль пойдзе дэталёвая гаворка пра патрыётаў і абаронцаў нашай бацькаўшчыны, хачу нагадаць, у якіх маляўнічых беларускіх мясцінах яны нарадзіліся і чым знакамітыя гэтыя мясціны ўсяму свету.*

## *БЫЛЫ МАЁНТАК ГАНУТА І ЗАБЫТЫЯ ЯЕ АБАРОНЦЫ*

Вёскі Красніца і Трапалава калісьці ўваходзілі ў склад маёнтка Ганута, пра які і пойдзе далей гаворка. А спачатку зазірнём у далёкі час яго заснавання.



Сяргей Мік.Ганчар

Вось як апісваў гэтыя мясціны краязнаўца, былы дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея Ганчар Сяргей: "Маёнтак Ганута мае даўнюю і вельмі багатую гісторыю. Па-першае, гэта адзін з самых прыгожых маёнткаў Вілейшчыны, які ўяўляў сабой велічны палац і гаспадарчы двор, што быў пабудаваны ў 1765 годзе вядомым італьянскім архітэктарам у стылі барока. Па-другое, з маёнткам Ганута звязана імя аднаго з самых вядомых у свеце беларусаў — Міхала Клеафаса Агінскага, кампазітара, палітычнага дзеяча, аўтара знакамітага паланэза "Развітанне з Радзімай".

Назва мясцовасці і самога маёнтка ўжо знікла з карты Вілейскага раёна і цяпер яе можна сустрэць толькі ў гістарычных дакументах ці вусных размовах мясцовых людзей, якія па-даўняму кожны жнівень імкнуцца папасці на гануцкі фэст,

што ладзіцца па сённяшні дзень у гонар святой Ганны. Фэст на Ганну – так называлі і называюць гэта свята ў Ручыцы, падчас якога праводзіцца і служба ў царкве, і збіраецца шмат гандляроў салодкімі пеўнікамі і іншымі прысмакамі. А раней у гэты дзень яшчэ пад вечар наймалі музыкаў і ладзілі танцы “на дуброве” (месца перад царквой). Маёнтак Ганута размяшчаўся на сутоках рэчак Гануткі і Нарачанкі, што ўпадае ў Вілію. Зараз на месцы старадаўняй сядзібы размяшчаецца сучасная вёска Ручыца, старажытная царква, а побач парэшткі панскага млына, бровара, дзве капліцы 1765 года. Дзякуючы вяртлявай рачулцы Ганутцы, атрымаў сваю назву маёнтак і сядзібна-паркавы ансамбль Ганута, які (як і іншыя мясцовыя тапонімы), балцкага паходжання. Слова “ганута” азначае “сцерагчы”, “пасвіць”. Тут, магчыма, праходзіла раней мяжа паміж балцкімі плямёнамі і Полацкім княствам. Сядзіба Ганута вядомая з 1501 года, калі належала князям Гальшанскім. Гаспадары маёнтка змяняліся даволі часта, мяркуючы толькі па дакументах, з 1501 па 1599 год правы на Гануту пераходзілі і да Пацаў, Осцікаў, Садоўскіх, Сангушак, Славенскіх, Зяновічаў і іншых шляхецкіх радоў. З 1723 года ўладальнікам Ганути стаў Казімір Коцел, стараста маркаўскі. Маёнтак пазней перайшоў да яго дачкі Разаліі, жонкі Казіміра Ігнацiя Агінскага, старасты пшэвальскага і бабінавіцкага. Пасля іх смерці ў 1738 годзе, а яны не мелі нашчадкаў, іх маёнткі Ганута і Маладзечна былі запісаны брату Казіміра Тадэвушу Францішку, які з’яўляўся сенатарам і кашталянам троцкім. Тадэвуш Францішак Агінскі шмат сродкаў і асабістага часу траціў на дабрачынныя справы, будуючы храмы ў сваіх уладаннях, у тым ліку ў Маладзечне, Ганупе і Залессі. Па архіўных дакументах нам вядома, што ў 1763 годзе Тадэвуш Агінскі ўзвёў на тэрыторыі сядзібы Ганута драўляны касцёл, які атрымаў статус філіяльнага пры парафіі з цэнтрам у мястэчку Войстам (цяпер Смаргонскі раён). 29 кастрычніка

1778 года храм быў консекраваны пад тытулам Святой Ганны (па іншых узгадках — Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны). Па апісаннях гэтага храма вядома, што касцельная званіца размяшчалася другім ярусам над уваходнай брамай, а на прылягаючай тэрыторыі месцілася і “шпітальная хатка”. Вядома, што некаторы час Тадэвуш Францішак Агінскі жыў у Ганудзе, якая стала яго апошняй рэзідэнцыяй. Адсюль да канца свайго жыцця ён вёў перапіску са Станіславам Аўгустам Панятоўскім, каралём Рэчы Паспалітай, з якім быў у сяброўскіх адносінах. Пасля смерці Тадэвуша Агінскага Ганута перайшла да яго малодшага сына, а з 1814 года — да пляменніка сына, Міхала Клефаса Агінскага.



Міхал Клеафас Агінскі

Пачынаючы з 1801 года, Міхал Клеафас стала жыве ў сваім маёнтку Залессе, а праз трынаццаць год да яго пераходзіць і Ганута, што выкарыстоўвалася ім як летняя рэзідэнцыя, у якой пэўны час знакаміты кампазітар нават жыў. У вольны час Агінскі любіў бываць у Ганудзе, якая знаходзілася ў 10 кіламетрах ад Залесся ўверх па Віліі. Тут, у Ганудзе, пастаянна дзейнічала карцінная галерэя, па святах з навакольных мясцін з’язджаліся знатныя госці, ладзіліся балі і канцэрты. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што менавіта ў Ганудзе незадоўга да свайго ад’езда з Беларусі Міхал Клеафас Агінскі напісаў шчырую шчымлівую мелодыю знакамітага паланэза “Развітанне з Радзімай”,

бо дакументальнага пацверджання, што гэты твор з’явіўся ў Залессі, не знойдзена. Па інвентары 1814 года ў Гануце быў пабудаваны чатырохколавы млын з крупярняй, а таксама дом млынара і новы мост. Пасля ад’езду з Беларусі Міхала Клеафаса Агінскага з 1823 года некаторы час гануцкі маёнтак пуставаў. Пра гэта ў свой час пісаў і вядомы пісьменнік Ігнацій Ходзька з Дзевятней, наведаўшы тыя мясціны. Але пасля вяртання з Фларэнцыі жонкі Міхала Агінскага Марыі Нэны ў Залессе Ганута была перададзена пад падзел крэдыторам і адышла да сястры кампазітара Юзэфы, якая была замужам у другі раз за Лапацінскім. Яе сын Ян параднiўся з родам Ржэвуцкіх, што пазней сталі валодаць Ганутай, пры якіх сядзібны палац быў рэканструяваны і зноў набыў сваю былую веліч. Спачатку гаспадаром Ганута быў Лямберт Ржэвуцкі, а пасля яго смерці маёнтак перайшоў па спадчыне да яго сына Валенса. Менавіта Валенса Ржэвуцкі дабіўся для Ганута статуса мястэчка, каб можна было атрымаць больш эканамічных прэферэнцый у гандлі.

У 1890 годзе на мясцовых могілках у Гануце была пабудавана драўляная капліца, якая з’яўлялася помнікам народнага дойлідства. Цэнтральны квадратны зруб быў накрыты 4-схільным дахам і завяршаўся вежачкай пад 2-схільным дахам. Бакавыя вертыкальна ашаляваныя сцены былі прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Аднолькавыя па памерах прытвор і апсіда былі накрыты 2-схільнымі дахамі. На жаль, гэта капліца згарэла ў 80-я гады мінулага стагоддзя. У 1891 годзе ў Гануце была адчынена і царкоўна-прыхадская жаночая школа для 70 дзяўчынак. Тут дзейнічала таксама школа пісьменнасці і мясцовае двухкласнае народнае вучылішча. У 1912-1913 гадах у ім настаўнічаў Рыгор Шырма, будучы арганізатар Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы і народны артыст СССР.

У канцы XIX стагоддзя маёнтак Ганута перайшоў ад Івана Валенсавіча Ржэвуцкага да Тадэвуша Валовіча, а затым да яго сына Ежы (Юрыя). Шляхціч Тадэвуш Валовіч быў інжынерам па адукацыі і часта працаваў у розных месцах, а тут, у сядзібе, пастаянна жыла яго жонка. У гады Першай сусветнай вайны каля Ганути праходзіла лінія фронту, і гаспадары пакінулі сваю сядзібу. Падчас Свянцянскага прарыву ў 1915 годзе Ганута на кароткі тэрмін апынулася ў руках немцаў, а ў палацы размясціўся нямецкі штаб. Адступаючы, немцы вывезлі з Ганути ўсе каштоўнасці, і яна страціла сваю былую веліч. У гэты час быў часткова разбураны сам палац, а старажытны парк і сад амаль знішчаны. Пасля адступлення немцаў Ганута надоўга заставалася ў прыфрантавой паласе рускай арміі. Тут панавала разбурэнне, і толькі на рэчцы Ганутка каля панскага млына была ўзведзена новая дамба-плаціна, аб чым сведчыць фотаздымак з альбома, які захаваўся ў архівах народнага пісьменніка Беларусі Янкі Купалы, бо інжынерам-будаўнікам гэтага маста быў родны брат жонкі Янкі Купалы Вікенцій Станкевіч. Зусім апусцела Ганута  да 1921 года, але праз два гады, у 1922 годзе, калі маёнтак належаў Леанардзе Валовіч, сядзіба зноў стала аднаўляцца, бо была перададзена арандатарам. Вядома, што ў гэтыя гады аканомам маёнтка быў ручыцкі селянін Іван Мацюлька, якога ў 1939 годзе арыштавалі і асудзілі на 8 гадоў.

У гады Вялікай Айчыннай вайны на гэтай тэрыторыі асаблівых баёў не адбывалася, але па загаду “зверху” ў 1943 годзе шматлікія панскія сядзібы знішчаліся па ўсёй тэрыторыі Беларусі, у тым ліку была спалена і Ганута. А пасля вайны з часам былі разабраны і сцены палаца разам з некаторымі ацалелымі гаспадарчымі пабудовамі на цэглу. Так маёнтак Ганута быў канчаткова знішчаны. Ганукцая сядзіба не захавалася, аб яе вонкавым выглядзе сёння можна меркаваць толькі па захаваўшыхся фотаздымках і вядомай акварэлі 1877 года

знакамітага мастака Напалеона Орды. Не захаваўся і сам тапонім Ганута, сёння паселішча называецца Ручыца, па назве суседняй вёскі, спалучанай з тэрыторыяй былога маёнтка.




Мінула шмат гадоў з часу росквіту сядзібы. Не стала палаца, але гістарычны каларыт Гануты передаюць дзве каплічкі, пабудаваныя ў маёнтку за межамі парка ў формах позняга барока з элементамі ракако. Каплічкі служылі акцэнтамі даляглядаў, візуальна падкрэсліваючы кампазіцыйную завершанасць сядзібы, добра аглядаючыся з любой яе часткі.  Так, шаноўныя сябры, на вялікі жаль, няма ўжо таго, што будавалася рукамі нашых продкаў. Адно разбурылася часам, а іншае зруйнавалася рукамі чалавека. Але не ўсе руйнавалі, шматлікія гэтую спадчыну ад ворага абаранялі, не шкадуючы нават сваіх жыццяў.

## *ЗАБЫТЫЯ ГЕРОІ ВАЙНЫ*

Мамай Антон Рыгоравіч нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Красніца (Ганута) Вілейскага райна, у шматдзетнай сям'і сялян-лесасплаўшчыкаў. Скончыў чатыры класы польскай школы. У 1936 годзе Антона прызвалі стралком у 21 пяхотны полк Войска Польскага, а ў 1937-ым быў звольнены ў запас.


МАМАЙ АНТОН РЫГ.

Адразу пасля службы Антон шмат часу надзяляў сплаву лесу па Віліі ў Прыбалтыку. Вілейскі павет быў памежны, таму сюды часцяком наведваліся савецкія агенты з прапагандысцкімі заклікамі за савецкую ўладу. Антон уступіў ў падпольную арганізацыю КПЗБ. Сплаўляючы лес у Вільню, ён паведамляў у цэнтр падполля розныя звесткі. А на зваротным шляху дастаўляў на Вілейшчыну палітычную літаратуру і агітацыйныя лістоўкі. 17 верасня 1939 года на Вілейшчыну прыйшла савецкая ўлада. У снежні гэтага ж года партыя накіравала Антона ў Маскву на вучобу кіруючых кадраў на чыгунцы. Вясной 1940 года ён з дыпломам вярнуўся на Вілейшчыну і адразу быў прызначаны дзяжурным на чыгуначнай станцыі Залессе, дзе працаваў да самага пачатку вайны.

## *Вайна*

Калі 22 чэрвеня 1941 года Гітлер напаў на СССР, то ўжо ў гэты дзень водгукі вайны данесліся і да Красніцы. На трэці дзень фашысты былі ўжо пад Смаргонню. А ўжо на наступны, яны поўным ходам гаспадарылі па ўсёй Смаргоншчыне і Вілейшчыне. Праз некаторы час Антон Рыгоравіч па загаду падпольнага парткамітэта ўладкаваўся да немцаў на працу змазчыкам вагонных калёсных пар на чыгуначнай станцыі Залессе. Вельмі хацелася неяк нашкодзіць фашыстам. Але, маючы вопыт падпольнай барацьбы, стараўся не выдаваць сябе лішні раз без загаду падполля і камандавання партызанскага атрада імя Суворава, з якім Антон меў сувязь. Хіба што толькі наўмысна недакручваў змазачныя пробкі вагонных колаў. Такім чынам, не адзін нямецкі эшалон пусціў пад адхон Антон Мамай. На той час ён меў мянушку Антон Вялікі. Фашысты шукалі партызан-дыверсантаў у раёнах крушэння цягнікоў, але безвынікова. Немцы нават і не здагадваліся, што гэтыя дыверсіі маглі рыхтавацца на саміх станцыях.



Мамай Алеся

Неяк восеньскім вечарам 1942 года да Мамаёў у Красніцу завітаў незнаёмец. Ён прадставіўся членам Мінскага падпольнага парткамітэта і назваўся Васілём Кузьмічом Сарокіным. Для большага даверу расказаў пра дзейнасць Антона і што Мінскаму падпольнаму парткамітэту гэта добра вядома. Сарокін паведаміў, што ён залічаны ў склад пятай групы падполь-

на-дыверсійнага атрада Сарокіна, і трэба рыхтавацца да пасады дзяжурнага па станцыі. Праз некалькі дзён так і адбылося. На новым месцы Антон павінен быў збіраць інфармацыю пра чыгуначныя перавозкі. Усё, што ўдавалася сабраць, ён перадаваў сваёй маці, 60-гадовай Мамай Алесі, якая дастаўляла разведданныя ў суседнюю вёску Трапалава. Там жылі далёкія сваякі, Мамай Канстанцін Дзмітрыевіч (1886 г.н.) і яго сыны з сем'ямі, Аляксандр (1907 г.н.) і Іван (1908 г.н.), якія дзейнічалі ў партызанскай брыгадзе імя К. Я. Варашылава. (Усе яны, акрамя Івана, трагічна загінулі 29.11.1942 г.). Іван цудам застаўся ў жывых, бо перадаваў партызанскім сувязным інфармацыю, прынесеную Алесяй. Атрад Сарокіна, у склад якога ўваходзіў наш Мамай Антон, забяспечваў разведданнымі шматлікія партызанскія атрады і злучэнні, у тым ліку і знакамітую дыверсійную партызанскую спецбрыгаду «Дзядзі Дзімы» Давіда Киймаха, галоўная база якой месцілася ля вёскі Бабры на Лагойшчыне. Але было і шмат запасных. Адна з іх — у Трылесені, ля Залесся.



МАМАЙ АНТОН З ВАЛЯНЦІНАЙ

### *Вяселле і барацьба ў бярлозе ворага*

У 1942 годзе Антон узяў шлюб з дзяўчынай з вёскі Сукневічы, маладыя павянчаліся ў Смаргонскай царкве. Пасля вяселля засяліліся ў службовую кватэру пры чыгуначнай стан-

цыі. Гэта быў пакойчык на першым паверсе шматкватэрнай двухпавярхоўкі. Праз нейкі час маладыя пераехалі ў большую кватэру ў суседнім аднапавярховым доме. Гэтыя дамы захаваліся і да нашых дзён. Антон дзяжурыў на станцыі і выконваў загады падполля. А Валянціна вяла гаспадарку і вязала шкарпэткі ды рукавіцы для партызан. Па ўсё гэта прыходзіла з Красніцы Алеся, маці Антона, і адносіла па прызначэнню. А калі ў маі 1944 года пачалася фашысцкая блакада на партызан, выйсці з Залесся было практычна немагчыма. Карнікі і іх прыслужнікі кантралявалі ўсе дарогі. Вышуквалі падпольшчыкаў і партызанскіх сувязных. Неўзабаве фашысты, атрымаўшы данос ад мясцовага здрадніка, западозрылі Антона ў яго сувязі з партызанамі. Сталі за ім сачыць і праз некалькі дзён Антон і яго сябра Кавака (ці то прозвішча, ці то мянушка) былі схоплены фашыстамі якраз падчас усталявання магнітнай міны пад вагонам з боепрыпасамі. Абодвух арыштавалі і вывезлі ў Мінскае гестапа. У той час ў Сукневічах фашысты, сагнаўшы ўсіх жыхароў вёскі на выган, да лазні, пад пагрозай знішчэння дапытваліся: дзе партызаны  і хто з імі звязаны? Пра партызан і сувязных ведала шмат жыхароў, але ўсе маўчалі і чакалі смерці. Раптам да немцаў звярнуўся іх перакладчык, жыхар Сукневічаў Міхаіл Страшынскі, аднакласнік Антонавай жонкі Валянціны. Ён добра ведаў нямецкую мову і, нейкім чынам, здолеў запэўніць немцаў, што сярод вяскоўцаў няма партызан. Фашысты паміж сабой перамовіліся і загадалі ўсім жыхарам разысціся па сваіх хатах і не выходзіць. Але, як толькі немцы з'ехалі, жыхары Сукневічаў і прылеглых хутароў пакінулі свае дамы і сышлі далей ад небяспекі. Міхаіл Страшынскі тым часам  кінуўся на хутар да бацькоў Валянціны і з парога выкрыкнуў: « Дзядзька Пеця, вашага зяця Антона немцы арыштавалі! Ляціце ратаваць Валянціну!» Пятро запрог каня і паімчаў у Залессе. Валянціна, убачыўшы на парозе бацьку, нічога не магла

зразумець. Пятро прамовіў толькі: «Уцякаем». Дабраўшыся да хутара і крыху супакоіўшыся, ён расказаў дачцэ, што яе муж арыштаваны. Валянціна зайшлася ад плачу. Яна не верыла ў тое, што не ўбачыць больш мужа, а іх будучае дзіця не адчуе бацькавай любові і ўвагі. Жыла надзеяй, але цуд не адбыўся ні праз месяц, калі прыйшло вызваленне, ні праз тры, калі ў жніўні нарадзілася іх Галінка. Але вернемся ў канец мая таго страшэннага і ў адначассе вызваленчага 1944-га года.


Хутар Страшынскіх

Пётра Страшынскі вырашыў не сыходзіць з хутара. Дый ісці не было куды. Паўсюль ішла блакада. Пятро падрыхтаваў для Валянціны схованку на гарышчы, у якой Валянціна і адседзіла да дня вызвалення 4 ліпеня 1944 года, калі прагналі фашыстаў са Смаргоншчыны. Як толькі ў Сукневічы прыйшлі першыя савецкія салдаты, Пятро з Валянцінай адразу падаліся ў Залессе з надзеяй. А раптам там чакае Антон? Але ў кватэры нікога не сустрэлі. Рэчы былі параскіданыя па пакоі, падлога засыпана пер'ем ад падушак, зрашэчаных кулямі. З патаемнага месца Валянціна забрала дакументы Антона. Суседзі распавялі, што каб у той дзень Пятро затрымаўся на хвілін 15, то Валянціну таксама схапілі бы немцы. Пасля яе ўцёкаў фашысты шчыльна акружылі прывакзальныя пабудовы і жылыя дамы. Павыганяўшы жыхароў на вуліцу пад аховай, дапытваліся, дзе падзелася жонка дзяжурнага па станцыі? Але ўсё дарэмна: ніхто нічога не ска-

заў. Ад суседзяў стала вядома, што Антона і двух яго сяброў з Алянца выдаў мясцовы паліцай. Падзякаваўшы суседзям, Страшынскія падаліся ў Сукневічы.

### *Усё жыццё чакала каханага з вайны*

Валянціна ўсё чакала ў спадзяванні, што яе Антон вернецца. Чакала, гадавала дачку Галінку і шукала хоць якія-небудзь звесткі пра свайго Антона. Штодзённая праца, амаль без адпачынку, выматвала Валянціну. Але не гледзячы на стомленасць, як толькі ў яе паяўляўся які-небудзь вольны дзянёк, Валянціна яго скарыстоўвала на пошукі звестак пра свайго Антона. Хацелася даведацца: як быў арыштаваны і куды падзеўся? Калі загінуў, то дзе ён пахаваны, каб было куды прынесці кветкі і ўкленчыць над яго магілкай. Куды толькі не хадзіла і не ездзіла ды каму толькі не пісала — усё безвынікова. Ніхто не бачыў, ніхто не чуў, ніхто не ведаў, нідзе не лічыўся. Быццам бы чалавека ўвогуле ніколі не было на свеце, а не тое, што ён змагаўся з ворагам і аддаў жыццё за Радзіму. Пошукі пачалі даваць хоць нязначныя вынікі на прыканцы 50-ых гадоў, толькі пасля таго, як Валянціна Пятроўна, з меўшымі ўжо на руках пацвярджаючымі распіскамі былых партызан, звярнулася да Героя Савецкага Саюза, былога камандзіра партызанскай брыгады



Мамай Валянціна

“За Савецкую Беларусь” Андрэя Іванавіча Валынца. Ён даслаў запыт у Дзяржаўны партыйны архіў, адкуль выдалі даведку аб удзеле Мамая Антона ў падпольнай і партызанскай дзейнасці. У 2003 годзе ў кнізе “ПАМЯЦЬ” Вілейскага раёна быў абнародаваны спіс падпольшчыкаў з атрада Васіля Кузьміча Сарокіна, у якім у складзе пятай групы лічыцца і наш МАМАЙ АНТОН РЫГОРАВІЧ, што дзейнічала ў Залессі. Вось гэты спіс: ***«К лету 1943 года, подпольная организация В.К. Сорокина включала около 30 человек, объединённых в шесть групп. Многие члены организации работали на сплаве леса.***

***1. Группа Павла Степановича Насекайло (д. Ручица): Семён Иванович Желток (д. Красница), Григорий Фёдорович Мамай, брат жены С.И. Желтка (д. Мамаи), Пётр Васильевич Сопач (д. Засковичы) и Владимир Яковлевич Мейсак (д. Оленец).***

***2. Группа Ивана Митрофановича Субоча (д. Осиновичи): семья Малиновских: Ольга Васильевна и её сыновья Михаил Григорьевич, комсомолец, и Аркадий Григорьевич; племянник Ольги Васильевны, Михаил Ефимович Малиновский, Яков Якимович Волынец, муж второй сестры И.М. Субоча, Иван Иванович Субоч; Василий Михайлович Возьняк, с хутора Мирончики.***

***3. Группа Василия Алесандровича Булыго (Заозерье) состояла предположительно из двух человек. Вторым был Александр Путырский из деревни Красный Берег.***

***4. Группа Бронислава Станиславовича Икановича (д. Сосенка). Через эту группу организация в 1942-1943 гг. была связана с партизанской бригадой «Дяди Васи», бригадой “Народныя мстители” (командир В.Т. Воронянский) Известно что связной этой группы была Мария Пахомовна Погудо (Вилейка).***

***5. Группа Ивана Емельяновича Горбацкого (д. Залесье): Антон Григорьевич Мамай и Пётр Дмитриевич Козел.***

*6. Группа Ильи Яковлевича Иокова (Вилейка), работав-шего начальником земельного отдела районной управы и являвшегося кандидатом в члены ВКП(б) с 1940 года: Николай Алексеевич Ажгиревич, землеустроитель отдела райуправы; Леон Петрович Сапешко, начальник общего отдела райуправы; Михаил Яковлевич Фиоктистов, начальник финансового отдела райуправы; Иосиф Иосифович Бекач, начальник земельного отдела Куренецкой волосной управы; Иван Алексеевич Сырокваш, секретарь Куренецкой волосной управы; Михаил Николаевич Наркевич, солтыс по Вилейке.*


Сарокін В.К. знізу справа

*Главной задачей организации была разведка: сбор информации о движении по железной дороге (Полоцк-Молодечно и Молодечно-Вильно) в пунктах Куренец, Вилейка, Барсуки и Залесье; о состоянии немецких гарнизонов в пунктах: Вилейка, Куренец, Залесье, Порса, Холопы, Любань, Нарочь, Коловичи, Костевичи и других местах, где появлялись войска противника; об агентах гестапо. Подпольная организация В.К. Сорокина действовала на Вилейщине более двух лет».*

Хачу больш падрабязней спыніцца на існаванні гэтай арганізацыі і яе членах. На вялікі жаль, пасля перамогі над ворагам, падпольная арганізацыя Сарокіна, дакладна невядома з якой падставы, савецкім урадам не была прызнаная баявой адзінкай. Быццам бы ў яе дзейнасці падчас вайны, не праяўлена значнага патрыятызму. Хаця шматлікія яе члены, у тым ліку і кіраўнік В.К. Сарокін, былі адзначаныя баявымі ўзнагародамі. А іншыя члены арганізацыі, увогуле паклалі свае жыцці на алтар перамогі, праявіўшы пры гэтым мужнасць,патрыятызм і нязломную стойкасць на допытах у гестапаўскіх засценках, як наш герой, Мамай Антон Рыгоравіч. Мала таго, пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, асобныя члены арганізацыі былі арыштаваныя і асуджаныя як здраднікі Радзімы. Гэта: І.А. Сыракаваш, (рэабілітаваны ў 1967 годзе); М.Я. Феактыстаў (рэабілітаваны ў 1960 годзе). А вось Л.П. Сапешка не патрапіў пад рэабілітацыю. На зварот Вілейскага музея аб рэабілітацыі Л.П. Сапешка, Пракуратура БССР адмовіла, спаслаўшыся на бяздоказнасць праяўлення Л.П. Сапешка патрыятызму ў барацьбе з ворагам.

### *Прасцей было сказаць, што нас не было*

За справядлівасць і гонар сваёй арганізацыі і яе членаў В.К. Сарокін змагаўся да апошніх сваіх дзён. У чэрвені 1981 г. ужо цяжка хворы Васіль Кузьміч пісаў свайму сыну: ***«С большим трудом я закончил комментарии к книге «Партизаны Вилейщины» И.Ф. Климова и Н.Е. Гракова. В книге в основном правильно отражены этапы борьбы партизан Вилейщины. Конечно, не всё отражено и не все отражены на страницах этой книги. Об этом сами авторы во введении к книге говорят так: «Естественно, авторам хотелось рассказать или хотя бы упомянуть обо всех участниках партизанской борьбы на Вилейщине. Они того заслужили. Но для этого понадобилась***



Сарокін Васіль Кузьміч

***бы не одна книга. Можно надеяться, что со временем появятся новые книги о партизанах Вилейщины...» Мне кажется, принижение нашей организации объясняется тем, что в трудную минуту мы мало чувствовали поддержку — куда легче теперь сказать, что нас не было. Но против фактов не пойдёшь. Тебе, как сыну, заявляю, что я сделал для Родины всё, что мог, отдал все силы и здоровье. Перед партией, перед Родиной моя совесть чиста».***

Нако-о-о-лькі шчыры і да глыбіні душы кранальны ліст! І гэта не красамоўныя выказванні звычайнага чалавека, гэта крык душы сапраўднага камуніста і патрыёта сваёй Радзімы. Менавіта толькі на такіх людзях і трымалася савецкая ўлада. Бо толькі яны заўжды і паўсюдна былі першымі і сваім асабістым прыкладам вялі за сабой цэлыя массы. І я больш чым упэўнены, што нават перад самай сваёй канчынай, Васіля Кузьміча не пакідала мара вярнуць з забыцця, калі не баявую яго арганізацыю,то хаця бы імёны баявых яго сяброў. І на сённяшні дзень адно з іх вяртаецца вось ў гэтай кнізе і не толькі ў ёй. Я маю на ўвазе галоўнага героя гэтага артыкула, выпадковасць дапамагла вызначыць прыкладнае месца гібелі Мамая Антона Рыгоравіча.

Вось што калісьці мне распавядаў краязнаўца з Краснага Харытон Аляксандр: «Нейк надвячоркам у апошнія дні мая 1944 года я не памятаю ўжо чаго спусціўся ў канец свайго падворка да Ушы. Магчыма па ваду для ежы, бо ў той час вада ў рэчцы была чыстая, вадзіліся ракі і нават стронга. І тут раптам бачу прама па рэчышчы ідзе знямоглы чалавек. Левая рука, перавязаная вышэй локця, абвісала, як вяроўка. Хоць і быў невялікі, — кажа Аляксандр, — але не спужаўся. Па-першае, паранены чалавек быў без зброі, а па-другое, за тры гады вайны ўсяго прыйшлося пабачыць, дый самому смерць не раз у твар дыхала. Падышоўшы бліжэй, чалавек папрасіў дапамагчы яму. Прыйшла маці і яшчэ хтосьці з суседзяў, каб дапамагчы параненаму чалавеку выбрацца на бераг. На свой страх і рызыку схавалі яго ў хляўчуку. Перавязалі, пакармілі і распыталі: хто ён і адкуль тут узяўся ў самым цэнтры нямецкага гарнізона? Паранены, назваўшыся Аляксандрам, распавёў наступнае: «Яго і яшчэ 15 зняволеных немцы на машыне везлі быццам бы ў Маладзечанскі канцлагер. Але здарылася так, што машына, якая вязла палонных, перад Красным чагосьці прыпынілася. Палонныя, быццам бы па камандзе, у імгненне пазбавіліся ад двух нямецкіх канвіраў і ўсе гуртам кінуліся на ўцёкі. Матацыклетная ахова адкрыла па ўцекачах неверагодна моцны кулямётны агонь, які не пакідаў нікому шанцу на паратунак». Аднак Аляксандру пашчасціла выратавацца. Ён, нейкім чынам, здолеў дабегчы да рэчкі. Высокія і абрывістыя берагі маленькай рэчачкі Ушы захавалі жыццё нашаму герою. Забіўшыся пад падмыты яе бераг, Аляксандр перасядзеў аблаву. Як усё супакоілася, пачаў паціху прабірацца па рэчышчы да мястэчка ў спадзяванні на выратаванне. А як яму ўдалося дзве вярсты па рэчцы ды яшчэ з перашкодамі дабірацца да падворка Харытонаў, ніхто не пытаўся. Пра сябе ён расказаў, што пад Смаленскам трапіў у палон. Паўгода прабыў у Мінскім лагеры,

з якога яго і іншых палонных і перавозілі ў Маладзечна. Сярод тых 15 зняволеных мала хто быў яму вядомы. Пазнаёміцца паспеў толькі з адным чалавекам, якога напярэдадні адпраўкі прывезлі ў лагер моцна закатаванага, як ён казаў з Мінскага гестапа. Чалавек быў высокага росту і моцнага целаскладу. Быў апрануты ў форму чыгуначніка. І назваўся ён Мамаём Антонам з лесу." У гэтым ўрывачку з майго артыкула Галіна Антонаўна Мамай (дачка Антона Рыгорыча) заўважыла вельмі многа падабенства таго Мамая Антона да яе таты. І з гэтым меркаваннем складана не пагадзіцца. Яно, на самой справе, не выключэнне таго, што той палонны Аляксандр не зусім дакладна зразумеў свайго сябра, які хутчэй за ўсё прадставіўся, што ён з Залесся, а не "з лесу". «Бо падабенства вельмі блізкае таго Мамая да нашага, — кажа Галіна Антонаўна, — і прыкладны час гібелі таксама супадае — 29 мая 1944 года». Хутчэй за ўсё яно так і застанецца як ёсць, бо ўдакладніць і даведацца больш падрабязна ўжо няма ў каго. На вялікі жаль, пасля цяжкай хваробы мой аднадумца і сябар Харытон Аляксандр пакінуў нас, сышоўшы ў Свет іншы.

У 2019 годзе быў ўсталяваны помнік ахвярам мінулай вайны ў вёсцы Асавец (што каля Краснага). Сярод 48-мі загінулых яе жыхароў, значыцца і прозвішча МАМАЙ АНТОН РЫГОРАВІЧ. Ушанаваць памяць Мамая А.Р. разам з загінулымі сваімі землякамі вырашыў вясковы сход. А пазней, сумеснымі намаганнямі



грамадства і Залескаўскага сельвыканкама, была ўсталявана мемарыяльная дошка на станцыі “Залессе” на доме, дзе жыў і змагаўся падчас акупацыі наш Мамай Антон. Тым самым мы аддалі яму даніну памяці ў прыклад нашым нашчадкам: «НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ І НІШТО НЕ ЗАБЫТА І ШТО ПАМЯЦЬ АБ ЗМАГАРАХ З ВОРАГАМ — НЕЎМІРУЧАЯ».

## *ІХ НЕМАГЧЫМА ЗАБЫЦЬ*

За працягам тэмы звязанай з Залессем, я рушыў на Вілейшчыну ў Красніцу (Асіпавічаскага с/савета), а з яе ў суседняе Тапалава ў пошуках звестак пра Івана Мамая, былога партызанскага сувязнога, франтавіка. Якому падчас вайны Алеся Мамай і яе нявестка Валянціна прыносілі разведдадзеныя ад дзяжурнага па чыгуначнай станцыі Залессе, падпольшчыка Антона Мамая, закатаванага фашыстамі 29 мая 1944года.


МАМАЙ АЛЯКСАНДАР І СЯРГЕЙ

У Трапалаве мне паведамілі, што Іван Мамай падчас вайны страціў не толькі хату, але і ўсю сваю сям'ю. А калі вярнуўся з фронту, праз нейкі час сышоў за Віллю на Алянецкія хутары ў прымы. Дзе зараз жывуць яго сыны, Сяргей Іванавіч і Аляксандр Іванавіч. А сустрэўся я з імі зусім неспадзявана. Праязджаючы па Алянецкай вуліцы, я заўважыў двух мужчын, якія рухаліся на мотаблоку ў спадарожным мне накірунку. І калі я запытаў у іх, як мне адшукаць сыноў Мамая Івана…? Я пачуў нечаканы адказ, які здзівіў і абрадаваў не толькі мяне, але і тых мужычкоў, якія і апынуліся тымі людзьмі, каго я шукаў. Гэты выпадак якраз адпавядае той самай пагаворцы: “Свет цесны”!

Пасля хуткага знаёмства гутарка наша зацягнулася надоўга, бо была вельмі цікавая для абодвух бакоў. Сабраць поўную інфармацыю пра трагічны лёс героя гэтага апавядання, за адзін раз было проста немагчыма. Прыйшлося наведваць родных Івана Мамая яшчэ і яшчэ. Вось што яны мне распавялі пра сваіх продкаў, пра іх трагічны жыццёвы шлях, спадарожнікамі якога былі страты і знаходкі, гора і радасці. Малая радзіма Мамаёў — гэта Вілейшчына, вёсачка Трапалава, якая з прадвеку як і Красніца, уваходзіла ў склад маёнка Ганута. Старэйшы сын Івана Мамая, Сяргей (1947 г.н), паслужыў мне галоўным расказчыкам і кансультантам рода Мамаёў. Дзядуля Сяргея Іванавіча, Мамай Канстанцін Дзмітрыевіч нарадзіўся ў 1886 годзе ў Красніцы, пра якую ўжо згадвалася вышэй, Асіпавічаскага с/савета, што на Вілейшчыне. Ён ўжо ў сямнаццацігадовым узросце, авалодаў сямейнай дынастыяй лесасплаўшчыкаў. А ў дваццаць год ажаніўшыся, купіў невялікі кавалак зямлі, зарослы драбналессем, у канцы суседняй вёсачцы Трапалава ( гэтага ж с/савета), каля Вяллі, на Высокім беразе. Расцерабіўшы дзялянку, тут жа і пабудаваўся.

У 1907 годзе ў сям'і першым з'явіўся на свет Аляксандар, праз год — Іван, а пасля — Сяргей і Андрэй. Самай апошняй накрадзілася дачка Таццяна. Гаспадар сплаўляў лес па Віллі ў Прыбалтыку, а гаспадыня з дзецьмі вяла няхітрую і бедную гаспадарку. Таму што на сіпяку расцяроба, амаль што нічога не хацела расці. Падрастаючыя хлопцы далучаліся да бацькоўскага промыслу, сплаву лесу. У сярэдзіне 30-ых гадоў, яшчэ юнакамі Сяргей з Андрэям, разам са старэйшымі братамі ўключыліся ў падпольную барацьбу супраць польскага панавання. Яны, займаючыся сплавам лесу, выконвалі рознага роду заданні падпольнай арганізацыі КПЗБ (Камуністычная партыя Заходняй Беларусі).

### *Падполле пад Польшчай*

Браты Мамаі з Вілейкі ў Вільню дастаўлялі савецкую прапагандысцкую інфармацыю для друку. А адтуль прывозілі ўжо надрукаваныя палітычныя брашуры і ўлёткі, з заклікамі ў падтрымку савецкага ладу. На вялікі жаль, у 1936 годзе польская выведка пачала падазраваць Сяргея, Андрэя і іншых местачкоўцаў ў шпіянажы на карысць СССР. Узнікла пагроза арышту, і таму Сяргей з Андрэям вымушаны былі пакінуць Радзіму. Яны сышлі праз загадзя падрыхтаванае “акно” на савецка-польскай мяжы, у раёне памежнай з Лагойскім раёнам, вёскі Боркі. Толькі пераход той абярнуўся для ўцекачоў трагедыяй. Савецкае НКУС чамусьці іх, савецкіх агентаў, звінавацiла ў шпіянажы на карысць палякаў. І вось вынік: ***“Мамай Андрей Константинович, 1919 г.р, Арестован в 1936 г. Приговорен: тройка при УНКВД по Дальстрою 30 апреля 1938 г., обв.: контрреволюционная вредительская деятельнасть. Расстрелян 8 мая 1938 г. Реабилитирован 7 декабря 1960 г.***

***Мамай Сергей Константинович. Родился в 1916 г., д. Трепалово Вилейского р-на Минской обл.; белорус; образование н/начальное; крестьянин, единоличное хоз-во. Проживал: Минская обл., Вилейский р-н, д. Трепалово. Арестован 19 июня 1936 г. Приговорен: ОСО 4 октября 1936 г., обв.: 68, 120 УК БССР агент польской разведки. Приговор: 5 лет ИТЛ. Реабилитирован 29 апреля 1966 г.”*** Дачка Таццяна ў свае гады пайшла працаваць на ставы пана Ежы Валовіча, дзе ўпраўляючым быў Ілля, таксама з Мамаёў . Іван у 1924 годзе Вілейскай прызыўной камісіяй быў залічаны ў 21 пяхотны полк Войска Польскага. Адслужыўшы ў свой час у гэтым палку тэрміновую службу, вярнуўся ў сваё Трапалава, дзе і працягнуў працу па сплаву леса. У пачатку саракавых гадоў, ажаніўся з дзяўчынай Зоськай з вёсачкі Капішча. А праз нейкі час і

брат Аляксандар, адслужыўшы тэрміновую службу ў Войску Польскім, (у тым самым палку, што і брат Іван) таксама прывёў у бацькоўскую хатку нявестку Юльку. Месца ўсім знайшлося. Нават калі пачалі з'яўляцца адзін за другім дзеткі, ніхто не скардзіўся на цеснату. Жылі вельмі дружна, фарміруючы агульны сямейны бюджэт.

## *Другая сусветная вайна*

Наступіўшы 1939 год усім прынёс жыццёвую напружанасць. Калі яшчэ годам раней размовы пра вайну былі рэдкасцю, то зараз пра яе непазбежнасць казалі ўжо паўсюль і на поўным сур'ёзе. Польскія асаднікі распачалі распрадаваць па таннаму кошту сваю зямлю ды маёмасць і з'язджаць у глыбіню Польшчы. Ставы, на якіх працавалі жанчыны нашых Мамаёў, пан Ежы Валовіч зусім танна прадаў свайму ўпраўляючаму Мамаю Іллі. А калі гітлераўская Германія, 1 верасня таго ж году напала на Польшчу, польская ўлада распачала вайсковую мабілізацыю, пад якую трапіў і Мамай Іван. Мабілізаваных давязлі да Вільні. А там пераапрануўшы ў абмундзіраванне і ўзброіўшы, навабранцаў пачалі хуткімі тэмпамі рыхтаваць да бая-



МАМАЙ КАНСТАНЦІН
З ДАЧКОЙ ТАЦЦЯНАЙ

вых дзеянняў. Спачатку было не зусім зразумелым, чаму менавіта тут пад Вільняй, патрэбна капаць акопы і будаваць ваенныя абарончыя ўмацаванні, а не дзесьці там, пад Варшавай, дзе ідуць крывапралітныя баі з фашыстамі? І толькі як было ўсё падрыхтавана для сустрэчы з ворагам, камандзір палка на пастраенні адкрыў сваім жаўнерам сакрэт, дагэтуль незразумелай падрыхтоўкі. Было абвешчана, што полк са дня на дзень чакае ворага не з Захаду, а з Усходу. І што гэта не фашысты, а Чырвоная Армія, якая мае намер распачаць ваенныя дзеянні супраць Польскай краіны. Улічваючы складзеныя абставіны і тое што ў палку сярод мабілізаваных, галоўным чынам, жаўнеры-беларусы, ім далі магчымасць выбару. Тыя хто не здолее аказваць супраціў чырвонаармейцам, сярод якіх ёсць іх браты па крыві, могуць здаваць зброю і сыходзіць дадому. Іван выбраў сыход з палка і яму ў гэтым ніхто не пярэчыў. За суткі дабраўся ў сваё Трапалава, а ўжо на наступны дзень, 18 верасня ў Ганусе аб'явілася новая савецкая ўлада. Змена якой адбылася без адзінага стрэлу, а не тое што з ваеннымі дзеяннямі, якіх людзі чакалі з вялікім страхам. Мірнае жыццё ў гэтых мясцінах працягвалася без асобых напружанняў і гвалту. Калі не лічыць толькі таго, што ў Мамая Ільі савецкая ўлада экспрапрыіравала ставы, якімі Ілья так і не паспеў нацешыцца. Ставы былі пераарганізаваныя ў рыбгас, а іх былога ўжо ўладальніка саветы прызначылі загадчыкам гэтай гаспадаркі. Працаваць сюды прыйшлі і Іван з Аляксандрам, бо сплаў лесу па Віллі спыніўся. Толькі пачалі пакрыху прызвычайвацца да новай улады, як наступіў чэрвень 1941 года, які ўварваўся ў жыццё людзей з разрывамі бомбаў, гарматнымі кананадамі ды кулямётнымі чэргамі. Неспадзяваны напад фашыстаў на СССР, не даў магчымасць савецкім уладам як мае быць арганізаваць нават ваенную мабілізацыю ваеннаабавязаных. Таму з самага пачатку вайны з Трапалава і з навакольных вёсак амаль што ніхто

не патрапіў на фронт. І ўжо 26 чэрвеня ў Ганусе, змяніўшы савецкую ўладу, акупанты пачалі ўводзіць свой, новы нямецкі парадак. І вяскоўцы, каб выжыць (хочаш не хочаш),а вымушаны былі яму падпарадкоўвацца.



МАМАЙ АЛЯКСАНДР

Першы год пад акупацыяй прайшоў у параўнанні з наступнымі больш-менш спакойна. Трапалава — вёсачка невялічкая з сямі сялянскіх хілых падворкаў не вельмі прыцягвала немцаў, бо пажывіцца ў тутэйшай бядноце не было чым. Жыхары жылі толькі за кошт неўраджайных невялікіх кавалачкаў зямлі, лясных дарункаў ды падпрацоўкі на ставах.

Неспакойнае жыццё для Мамаёў распачалося з 42-га. Неяк вясной гэтага года, Іван з братам Аляксандрам, праязджаючы на кані па лясной сцяжынцы, заўважылі завісшы на сушцы-сасне парашут, на стропах якога цяляпаўся вялікага памеру мех. Азірнуўшыся вакол, мужчыны вырашылі праверыць, што ім Бог паслаў. Хуценька спілавалі сасну з нечаканай знаходкай, парашут сабралі і захавалі пад кучай галля. Пасля ўзвалілі груз на воз і далі дзёру ў вёску. Каб ніхто не ўбачыў, знаходку дахаты не павезлі, а пакінулі ў сваёй лазні, якая знаходзілася воддаль ад вёсачкі. Увечары, распакаваўшы мех, Іван з Аляксандрам зразумелі, што груз хутчэй

за ўсё належыць савецкім дыверсантам. Бо ў ім мужчыны знайшлі правіянт і рацыю. Страх авалодаў усебакова. Патрэбна было тэрмінова прымаць нейкае рашэнне. Не маглі дадумацца: што рабіць? “Во ўліплі дык уліплі, — кажа Аляксандар. — Калі правіянт (сухары, соль, махорка, крупы і іншае) можна смела захоўваць (спаслаўшыся на базар) пакуль скарыстаецца. А вось што рабіць з рацыяй…? Захаваць — немцы знойдуць, растраляюць. Выкінуць у Віллю — калі даведаюцца савецкія дыверсанты таксама растраляюць. А яны то дакладна будуць яе шукаць…” Прыкінуўшы і так і гэтак, вырашылі аднагалосна, адвезці мяшок назад у лес да парашута. Але ж зараз уначы, на кані ехаць у лес таксама небяспечна. Бо грукат і скрып колаў будзе чутны на другім канцы вуліцы. І несці ў руках груз вагай каля цэнтнера не па сіле. Выйсце знайшлі. Каб знаходку было лягчэй даставіць назад у лес, яе падзялілі па-брацку. Палову правіянта пакінулі сабе, а астатні з рацыяй склалі назад у мех. Не паспелі патушыць лучыну і ўзяць груз у рукі, як раптам у лазню ўварваліся ў зялёнай вопратцы ўзброеныя людзі. З перапуду ў Івана і Аляксандра падкасіліся ногі. І толькі тады, як пачулі рускую гутарку, крыху адышлі ад шоку. Усё ж не немцы, таму і з’явілася нейкая надзея на добры сыход справы. На дзіва, гэтыя людзі нічога ў нашых герояў не дапытваліся, спыталі толькі, ці развязвалі яны мяшок? Пачуўшы адказ, што не паспелі, ваенныя загадалі трымаць язык за зубамі. Пры гэтым папярэдзілі, што яны праз нейкі час вернуцца. Пасля чаго хуценька сышлі з лазні, разам з “падарункам нябесным”. Ачуняўшы ад перажытага, Іван з Аляксандрам рушылі дахаты, увогуле забыўшыся пра прыхаваны правіянт. Толькі назаўтра пра яго ўспомнілі. Сярод “трафейных” прадуктаў харчавання, соль была самай каштоўнай. Пасля таго выпадку не прайшло і тыдня, як неяк надвячоркам у дзверы хтосьці пагрукаў. На Іванава пытанне: “Каго там у такі час носіць нячыстае?” Адказалі

караценька: “Свае”. Калі “свае” зайшлі ў хату, то Іван сярод начных “гасцей”, распазнаў  аднаго з лазні. “Госці” без нахабнасці папрасілі чаго-небудзь перакусіць ды апаласнуцца ў лазенцы, калі ёсць магчымасць. “Так, ёсць, — адказаў Іван, — лазня яшчэ цёплая, хадзем, адразу памыецеся, пакуль кабеты вячэру падрыхтуюць”.

Пасля водных працэдур, госці і гаспадар уселіся за накрыты стол. Знайшоўся і кілішак, які паскорыў больш бліжэйшае двухбаковае знаёмства. Як высветлілася, гасцямі, на самой справе, апынуліся савецкія разведчыкі-дыверсанты. І той мяшок з грузам, належыў менавіта ім. Толькі атрымалася так, што Іван з Аляксандрам на хвілінку раней за гаспадароў напаткалі знаходку. Дыверсанты заўважылі іх, але каб не “засвечвацца”, вырашылі проста прасачыць куды іх “маёмасць” паедзе, каб пасля ціхенька забраць. З ускрайку лесу да лазні, у якой Іван з братам пакінулі мех, было метраў сто пяцьдзясят, таму было ўсе добра бачна, што каля яе адбывалася. А далей, што адбылося, нам ужо вядома. Пасля застолля і дамоўленасці на супрацоўніцтва  госці сышлі па сваіх справах.

### *Патрызанскі сувязны і сямейная трагедыя*

Пасля той сустрэчы з разведчыкамі, Аляксандар пайшоў у партызанскі атрад імя К.Я. Варашылава, а Іван стаў сувязным гэтага атрада, а дом кансператыўнай падпольнай кропкай. Праз Івана перадавалі разведдадзеныя іншыя сувязныя, у тым ліку і Алеся Мамай, а пасля яе нявестка Валянціна. Іван тыя звесткі перадаваў альбо праз Аляксандра, альбо сам адносіў партызанам у лес ва ўмоўленае месца. Іншы раз тыя прыходзілі самі, каб адным махам  памыцца ў лазні і пакарыстацца рацыяй, якая часцяком захоўвалася ў прыбанніку пад падлогай. Вось гэта рацыя і загубіла сям’ю Івана і ўсіх яго родных. Цудам выратвалася родная Іванава сястра. А падставай гібелі парты-

занскай сям’і паслужылі данос нейкага здрадніка і знойдзеныя немцамі адпрацаваныя батарэйкі ад рацыі, непрадбачна выкінутыя партызанамі ў лазневую печку. 29-га лістапада 1942 года, на гэтую вёсачку наляцелі немцы і іх памагатыя. У той дзень Іван быў сышоўшы па справах у вёску Мамаі. А ўсе астатнія з сям’і Мамаёў, як звычайна дома завіхаліся паўсядзённай працай. Аляксандр у той дзень толькі прыйшоў з атрада для сустрэчы са стрыечным братам Уладзімірам. Яны спакойна вялі паміж сабой нейкую гутарку, калі заўважылі на пад’ездзе да вёскі немцаў на матацыклах і ўласаўцаў на падводах. Усе жыхары вёскі ў паніцы пачалі разбягацца хто куды толькі мог. Аляксандр з Уладзімірам, загадалі жанчынам з дзяцьмі і дзеду Кастусю ўцякаць з хаты праз падворак на Віллю. Каб даць магчымасць сем’ям схавацца і затрымаць немцаў, Аляксандар схаваўся на сваім падворку. А яго сястра Таццяна з Уладзімірам, каб таксама адцягнуць увагу на сябе, шпарка рушылі па вясковай вуліцы ў бок ставаў. Немцы адразу заўважылі ўцекачоў і рушылі ў дагонку за парай. Але тыя ўмудрыліся ад немцаў уцячы, схаваўшыся на ставах ў трыснягу. Немцы з паўгадзіны шукалі ўцекачоў, але безвынікова. Таццяна з Уладзімірам былі ўпэўнены, што іх родным хапіла часу збег-


МАМАЙ УЛАДЗІМІР

чы ў лес. Ды і Аляксандар з аўтаматам не даў бы іх у крыўду. Але здарылася вельмі страшнае…

Вярнуўшыся на наступны дзень у вёску, перад імі і Іванам адкрылася жудасная карціна трагічнай гісторыі мінулага дня. Ім стала вядома, што калі карнікі ступілі на падворак Мамаёў, Аляксандар сустрэў іх аўтаматнымі чэргамі. Але праз хвілін пяць усё скончылася. Нямецкі снайпер смяротна параніў Аляксандра. Карнік з чырвона-сіня-белай павязкай на рукаве дастрэліў ледзь жывога Аляксандра. Пасля чаго распачаліся вобшукі сядзібы. А калі ў лазні фашысты знайшлі схаваўшыхся Іванавых родных, то карнікі з яе вывелі толькі жанчын Зосю і Юлю, жонак Івана і Аляксандра. А дзеда Канстанціна з чатырма дзяўчынкамі Івана і Аляксандра зачынілі ў лазні, аблілі яе сцены бензінам і запалілі на вачах матуль. Гэтую карную аперацыю, галоўным чынам, выконвалі рускамоўныя карнікі ў нямецкай форме з чырвона-сіня-белымі шаўронамі (падобна што з РВА(РОА)). Пасля арыштаваную сястру Уладзіміра Ніну, Зосю і Юлю пад муламі шмайсераў пагналі быццам бы на допыты ў Вілейскую турму. Але як высветлілася пазней,жанчын да Вілейкі тыя звяры не давялі. Бо вясной 1943 года, на лясістым беразе Віллі, непадалёк ад "перавоза" былі знойдзены астанкі трох загінуўшых жанчын. Іх апазналі па  вопратцы, якая на іх была моцна парваная, што паказвала на гвалтоўную смерць жанчын.Іван з Уладзімірам пахавалі  сваіх жанчын там жа, на могілках у Хатуцічах. А дзеткам іхнім і дзеду Канстанціну брацкай магілкай стаў падмурак лазні. Сёння на тым месцы растуць пяць бяроз самасевак (Божскі помнік па нявінназагінуўшых). Тады Іван, слухаючы расповяды суседзяў стаяў як акамянелы каля сваёй сядзібы, ад якой засталося  адно папялішча, а ад родных толькі чырвоныя пацеркі дачушкі, знойдзеныя на месцы іх пакутнай гібелі. Прыхапіўшы з ўцалелай дрывотні рыдлёўку ды  пілу з сякерай, у непамерным горы, з

пакалечаным сэрцам і з крыўдай у душы, ад трагічнай страты ўсіх сваіх родных, Іван падаўся ў прыбярэжны забалочаны лясны масіў, далей ад чалавечых вачэй. На пагорку сярод густога ельніку збудаваў зямлянку ў надзеі, што яго тут ужо ніхто не патурбуе. Ні немцы, ні людзі, ні партызаны, бо нікога не хацелася бачыць і чуць. Але не прайшло і тыдня, партызаны ўсё ж знайшлі яго сховішча. Хочаш–не хочаш, а падпарадкоўвацца ім вымушаны быў, інакш маглі б і шпіёнства прыпісаць. З таго часу Іванава зямлянка стала перавалачнай базай. Перапраўляў партызан то на адзін,то на другі бераг Віллі. Перадаваў звесткі сувязных партызанам, а ад іх загады сувязным. Валянціна таксама ў гэту зямлянку часта прыносіла разведдадзеныя ад свайго Антона.



МАМАЙ ІВАН

А калі ў маі 1944-га года распачалася фашысцкая блакада на партызан, сувязь з Залессем рэзка абаравалася. Як пазней высветлілася з-за правала Залесскай падпольнай групы. Не гледзячы на правалы падпольных груп, у Івана спраў не паменшала. Ён працягваў перапраўляць праз Віллю партызанаў-дыверсантаў, якія добра ведалі сваю справу, дзейнічалі рашуча і смела. Імі што дня на чыгунцы здзяйсняліся дыверсіі, ад выбухаў якіх, іншы раз зямля ўздрыгвала нават ажно тут, за Віллёй. Ціхімі вечарамі былі чутны і далёкія кананадныя выбухі, якія сцвярджалі словы партызанаў, што Савецкае войска ўжо па белару-

скай зямлі гоніць гітлераўцаў на Захад. Шостага ліпеня, Вілейшчына і Смаргоншчына была вызвалена ад нямецкіх захопнікаў. Сваё лясное сховішча, разам з партызанамі, пакінуў і наш галоўны герой гэтага апавядання Мамай Іван. Іван Канстанцінавіч спачатку падаўся да родных у Красніцу, а пасля вярнуўся ў Трапалава да стрыечнага брата Уладзіміра. З якім, не чакаючы павесткі, рушылі ў Вілейскі ваенкамат. 17 ліпеня яны былі накіраваныя ў 132 стралковы полк, які ўваходзіў у склад Другога Беларускага фронту. У якасці стралкоў прайшлі з баямі Прыбалтыку, Усходнюю Прусію. Прымалі ўдзел у штурме Кёнегсберга і фарсіраванні Одэра. Іван быў двойчы паранены. Узнагароджаны медалём “За перамогу над Германіей” і ордэнам “ВАВ 1 ступені”. А пазней у 1954 годзе яшчэ адна баявая ўзнагарода знайшла нашага героя. Івану Канстанцінавічу быў ўручаны баявы медаль “За адвагу”. З вайны Іван вярнуўся восенню 1945 года, а Уладзімір — з ордэнам і без рукі крыху раней, улетку.


МАМАЙ ТАЦЦЯНА

Да гэтага часу, Трапалава відавочна змянілася да лепшага. Зруйнаванае аднаўлялася, ды зарослыя за тры ваенныя гады агароды былі па-гаспадарску распрацаваныя. Толькі Іванаў падворак з зарослым падмуркам ад спаленай фашыстамі яго хаты, усім нагадваў трагедыю 1943 года,

пра якую распавядалася вышэй. У той дзень, калі Іван вярнуўся ў сваю вёсачку, да яго падворка сабраліся ўсе аднавяскоўцы, каб падтрымаць Івана і раздзяліць паміж сабой яго душэўны боль і гора. Кожны з іх быў гатовы прытуліць да сябе гэтага мужнага чалавека. Але Іван, стоячы на месцы гібелі сваёй сям'і, моцна сціскаючы ў жмені пацеркі дачкі, дзякуючы ўсім, адмовіўся. Магчыма таму, што не хацеў нікому надакучаць сваёй замкнёнасцю, якая авалодала ім пасля той трагедыі. А магчыма і свае слёзы не хацелася паказваць нікому, якія ад успамінаў па родных, не высыхалі на яго вачах усё жыццё, якое спынілася ў 1996 годзе. Іван засяліўся ва ўцалелай сваёй зямлянцы, на Высокім беразе. Працаваць пайшоў на ставы, якімі так і працягваў заведваць нязменны Ілья Мамай. (У нашы дні, гэта вялізны рыбгас "ГРЫЦАВА"). З вясны 1946 года Іван распачаў аднаўленне сваёй уласнай гаспадаркі. І ўжо праз год, на месцы спаленай фашыстамі бацькоўскай хаты, паўстаў зруб. Распрацаваў Іван і зямлю каля сваёй сядзібы. Цяжкавата было аднаму, хоць выбар і быў вялікі, але з кім-небудзь звязваць сябе ў сямейных адносінах не было ніякага жадання, бо боль душэўны не даваў супакаення.

### *Стварэнне новай сям'і*

Змены жыццёвыя прыйшлі зусім нечакана і нягадана. Неяк аднойчы ў чарговы раз Іван завітаў да каваля Анопа ў Алянец серп падладзіць. Кузня Анопа мясцілася пры самай дарозе Смаргонь-Маладзечна. Яна была старадаўняй і на працягу стагоддзяў, пераходзячы ў спадчыну з пакалення ў пакаленне, выконвала абавязкі прыдарожнага сэрвісу. Аноп тую кузню атрымаў ва ўласнасць ад свайго дзеда яшчэ ў запольскія часы. І пакуль калгасы не арганізавалі статус прыватніка, Аноп не страчваў, хаця кузня ўжо і не была яго ўласнасцю. Не пазбаўляліся гэтага статуса і заможныя сяляне, якіх называлі аднаасобнікамі.

Вось у гэтай кузні і сустрэў калісьці заможную сялянку, былую ўласніцу 7-мі гектарнага палетка воранай зямлі і 10-ці гектараў сенакоса Мейсак (Гісіч) Ніну Іванаўну з Алянецкіх хутароў. Мужа яе, Івана, падчас вайны ў Залессі немцы закатавалі за сувязь з партызанамі. Жанчыне з трымя дзецьмі ў адзіночку справіцца з такой вялікай гаспадаркай сілы не хапала. Таму яна больш карысталася наёмнай. Вось і на гэты раз ёй таксама для гаспадаркі спатрэбіліся мужчынскія рукі на дзень-другі і яна спытала ў Анопа: ці мае ён каго на ўвазе. Той і параіў Івану дапамагчы жанчыне. Іван не адмовіўся і адразу з работадацельніцай пайшлі на іх хутар. Не паспеў Іван з гаспадыняй ступіць на падворак, як раптам ім насустрач з гвалтам: “Та-та, татачка!” — кінуўся шасцігадовы Нінін сынок Ванька. Ад такой нечаканасці Іван Мамай на нейкі момант страціў прытомнасць.



Уладзімір,Іван,матуля Ніна,Сяргей, Валера - кастрычнік 1957 год.

Ачуняў толькі тады, калі ўчэпіўшагася за яго шыю мальца ужо трымаў на руках. Абодва Іваны заліваліся слязьмі шчасця і радасці. Так і застаўся Іван Мамай на гэтым падворку і не толькі ў якасці гаспадара, але і таты. Аддаўшы свой недабудаваны дом у Трапалаве сваёй сястрэ Таццяне і яе мужу Дзям’яну, зрабіў спробу адрадзіць Мейсакову гаспадарку буйнарагатай жывёлы са свінарнікам. Але 1949 год унёс свае карэктыроўкі.

Уся 17-ці гектарная зямля з гаспабудовамі і інвентаром адышла пад калгас. Працаваць у калгасе Іван не меў вялікага жадання. Таму скарыстаўшы магчымасць, сышоў у Залессе на чыгунку, на якой і адпрацаваў да самай пенсіі. Да траіх Ніниных

дзетак — Таццяны, Уладзіміра і Івана, дадаліся яшчэ двое сумесна нажытых — Сяргей і Валерый. Ніну Іванаўну вельмі рана, у 1957 годзе з жыцця забралі сухоты, пасля чаго ўся нагрузка па выхаванню дзетак лягла на Івана Канстанцінавіча. І толькі абдуманныя размеркаванні працоўных абавязкаў сярод усіх членаў сям'і, па ўзрастковых здольнасцях і фізічнай магчымасці, давалі станоўчыя вынікі. Іван Канстанцінавіч, каб зарабіць лішнюю капейку, без выходных штодня хадзіў на працу. Старэйшыя дзеткі завіхаліся па гаспадарцы, сярэднія даглядалі малодшых. Але як бы там не было, усё адно ў сям'і не хапала жаночых рук, матулінай цеплыні і пяшчоты. У 1960 годзе на сваім жыццёвым шляху Іван Канстанцінавіч сустрэў маладую, прыгожую і дабрэйшай душы жанчынку, якая апынулася Іванавай зямлячкай таксама з Вілейшчыны Кізік Любоў Васільеўна 1925 – 2020 г.г.. Нарадзілася яна ў вёсцы Ярмолічы, што непадалёк ад Гануты. Тут яна сустрэла вайну, на прыканцы якой выйшла замуж. Але дзецьмі не паспелі абзавясціся, таму што замужжа было зусім кароткім. Муж памёр ад атручэння шайморамі (блінамі з перамезлай гнілой бульбы).


Мамай Любоў Васільеўна

Пасля вайны Любоў Васільеўна ў пошуках лепшага жыцця з'ехала на будоўлю ў Вільнюс. У 1959 вярнулася дадому і ўладкавалася ў Смаргоні на хлебапякарню. А жыла ў Алянцы ў стрыечнай сястры Сарокі Валянціны, дзе і пазнаёмілася

з Іванам Канстанцінавічам. А цераз нейкі час, прыняла яго прапанову стаць яго жонкай і матуляй яго дзеткам. У 1961 годзе ў іх з'явіўся на свет сынок, якога нараклі Аляксандрам, у гонар загінуўшага дзядзькі. Усе шасцёра дзетак выраслі, вывучыліся і выйшлі ў людзі дастойнымі грамадзянамі краіны, таму што ў іх выхаванні быў закладзены падмурак шчырасці, дабрыні і ўдзячнасці да сваіх родных і спагады да іншых.

### *З любоўю і пяшчотай да дзядулі*

Дзеці і ўнукі Івана Канстанцінавіча і Ніны Іванаўны, з душэўнай цеплынёй, шчырым сэрцам, любоўю і пяшчотай шануюць памяць пра сваіх родных. І гэта шчырая праўда. Калі малодшая ўнучка Кацярына хадзіла ў школу, класны кіраўнік прапанаваў вучням напісаць сачыненне на вольную тэму, каму што найбольш дарага і найбліжэй да сэрца,то яна напісала яго наступнага зместу: ***"Война... Сколько горя, мучений и слёз принесла она белорусскому народу. Сколько погубила молодых жизней. Почти в каждой семье война оставила свой неизгладимый след. Не обошла она стороной и семью моего дедушки, Мамая Ивана Константиновича. Родился Иван Константинович 1908 году, в деревне Трепалово, Вилейского района в трудолюбивой крестьянской семье. До войны он со своей семьёй (жена и две дочери) жил в родительском доме. Там же проживали его родные сестра Татьяна и брат Александр с семьёй. Родительский дом был не большой, но "В тесноте, да не в обиде". Жили дружно, радовались подрастающим детям, трудились в поле, на огороде, вели хозяйство. Заветной мечтой дедушки было построить собственный дом. Но все планы перечеркнула война. Деревня Трепалово, со всех сторон окружена лесом. Во время войны в лесах начали создаваться партизанские отряды. Жители деревни помогали партизанам: дава-***

*ли одежду, продукты, передавали ценную информацию. Не раз фашистские каратели приезжали в деревню Трепалово. Они хотели узнать о партизанах, запугивали местных жителей, грозились расправой. Но партизанское движение становилось всё активнее. Партизаны не давали фашистам покоя. Однажды захватчики, в очередной раз нагрянули на деревню. Кто-то донёс, что дедушка помогает партизанам. В это время нашего дедушки не было дома. Каратели сначала подожгли дом и убили брата Александра. Потом дедушкиного отца Константина с четырьмя внуками закрыли в бане и сожгли заживо,на глазах их матерей, жён дедушки Ивана, его брата Алесандра и сестры дроюродного брата Владимира. После всего каратели-власовцы угнали женщин в Вилейку, где и убили. Когда дедушка вернулся домой, он увидел жуткую картину, которую не смог забыть всю жизнь. Вместо дома и бани, лежали кучи пепла и дымящиеся угли. В пепле лежали красные бусы его дочери. Бедный наш дедушка, как только его сердце смогло выдержать увиденное?! После освобождения Вилейщины, в июле 1944 года Иван Константинович был призван в Советскую Армию. Воевал сначала на 1-ом Белорусском фронте, а с сентября на 2-ом Белорусском в составе 132-го пехотного стрелкового полка, в качестве стрелка. В атаку дедушка всегда шёл в первых рядах, он мстил за убитых и сожжённых живыми родных. А ещё были минуты отчаяния, вспоминал, что дома его никто не ждёт, да и дома нет. Потому он воевал, смело двигаясь навстречу пулям. В одном из сражений пуля попала в левую грудь и застряла в партсигаре обшитом сукном из шинели. Два раза дедушка был ранен, в январе 1945 года около города Торна в Польше в левую руку и в марте 1945-го, при переправе через Одер в голову. День великой Победы*

*9-го мая дедуля встречал в госпитале. За храбрость и мужество Иван Костантинович награждён медалями “За отвагу” и “За победу над Германией”, а также орденом “ВОВ 1 степени”. Вернувшись с войны, дедушка создал новую семью и жил в деревне Оленец Сморгонского района. Работал на ж. д. Молодечно. Вырастил и воспитал троих родных сыновей и троих деток усыновлённых. С детства приучал их к труду, быть сочувственными к чужой беде, добрыми, честными и всегда помогать людям. Любил он и нас, внуков, а их у него шестеро. Любимый праздник в нашей семье День Победы. За столом собиралась вся семья: дедушка, три сына с жёнами, три внука и три внучки. Дедушка садился во главе стола и с волнением делился с нами воспоминаниями о боевых походах и фронтовых товарищах. А когда мы, рассматривая медали дедушки, спрашивали его: “Дедушка, ты герой?” На что он отвечал: “Нет, внучата, я не герой. Я только исполнял свой долг перед Родиной, перед убитыми отцом, женой и сожжёнными детьми. Герои те, кто остался лежать в земле далеко от родных мест и кто замучен в концлагерях.” Когда наступала осень, дедушка часто грустил, о чём-то думал. Однажды я увидела дедушку, который сидел на скамейке и смотрел на красные гроздья*



унучкі,КАЦЯ і ЛЕНА.2005г

*калины. По его старенькой морщинистой щеке скатывались слёзы. Тогда я не понимала почему дедушка плачет, глядя на ягоды калины. Прошло много лет. Я выросла и стало понятно, что ягоды калины напоминали моему дедушке-герою, те красные бусы дочери, сожжённой заживо фашистами. Он не мог забыть своих близких. На том месте, где случилась трагедия, выросло пять берёзок. Вот уже 8 лет как нет моего дедушки. Он похоронен на кладбище деревни Залесье Сморгонского района. Я часто хожу на могилку к дедуле. Каждый раз ухаживая за могилкой, я вспоминаю его рассказы и думаю, какую тяжёлую жизнь прожил мой дедушка и сколько ему пришлось пережить?! В память о нашем герое ВОВ остались партсигар-спаситель, простреленный фашистской пулей и "колун" — это такой топор, привезённый с Германии."*

Вось якое кранальнае сачыненне, пра свайго дзеда Івана напісала ў 2004 годзе Кацярына Мамай, малодшая яго ўнучка. З якой цеплынёй і пяшчотай дзяўчынка распавяла пра свайго любага дзядульку! Радкі гэтыя, чытаць без слёз проста немагчыма. Але яны не толькі сум наводзяць, яны запэўніваюць у тым, што памяць пра франтавіка будзе жыць вечна.

## *ДВА ТРАГІЧНЫЯ ЛЁСЫ, ЗЛІЛІСЯ Ў АДЗІН*

У Маладзечненскім раёне, непадалёк ад Краснага, ёсць вёска Асавец. Яна, як і ўсе іншыя вёскі, у свае часы будавалася бліжэй да балота, якое карміла, а калі прыйдзецца, то служыла жыхарам паратункам ад варожага нашэсця.




Пітной вадой вяскоўцаў забяспечвала невялічкая рэчачка Вярэдаўка, якая брала пачатак з крынічных вытокаў у паўвярсты на поўдзень ад вёскі. Яе вузенькае рэчышча пралягала акурат паўз асаўлянскіх агародаў, а далей, пятляючы вёрст восем балотнымі нетрамі, злучалася з такой жа невялічкай Альхімаўкай. І ўжо пасля ўтварэння адзінага рэчышча, у вярсце за Верадовам, яны сваёй вадой папаўнялі больш буйную рэчку Ушу. На сённяшні дзень з некалі моцнай крыніцы, адкуль Вярэдаўка брала пачатак, з зямлі выбіваецца ледзь прыкметны струменьчык чысцюткай вадзіцы, якая ўжо цераз сотню метраў паглынаецца глебай. Пагэтаму вытокі Вярэдаўкі адступілі за вярсты дзве па цячэнню на поўнач. І здарылася

гэта ў 60-ых гадах мінулага стагоддзя, калі распачалася ўсеагульная меліярацыя Беларускіх балот, што цалкам змяніла звыклае жыццё жыхароў Асаўца. Штосьці знайшлі, а штосьці згубілі беззваротна. Як, да прыкладу сваю рэчачку, ад рэчышча якой засталася толькі невялікая лагчынка. Але затое ў вярсце ад Асаўца быў пабудаваны торфабрыкетны завод, а для яго рабочых быў пабудаваны пасёлачак. Так, у 1955 годзе з'явілася новае геаграфічнае паселішча — Чысць. А як тарфяныя запасы скончыліся, то завод на прыканцы 80-ых быў зачынены. Затое на яго месцы ў 1986 годзе,пасля Чарнобыльскай трагедыі,была разгорнута будоўля завода буйнапанэльнага домабудавання. І ўжо праз два гады завод выпусціў першыя двухкватэрныя панэльныя домікі для перасяленцаў з забруджанай чарнобыльскай зоны. Гэты завод стварыў працоўныя месцы не толькі ўсім асаўлянам, але тысячам перасяленцаў, якім тут жа і будавалася жыллё. І ўжо праз нейкіх дзесяць год завод КПД, развіўся да будаўнічага ААТ холдынгу "Забудова", а некалі маленькая вёсачка Чысць пераўтварылася ў пяцітысячны пасёлак. Што не толькі выратавала Асавец ад вымірання, а, наадварот, паспрыяла яго развіццю. Зараз гэтая вёска, як і сам пасёлак Чысць мае еўрапейскі выгляд. Сама гісторыя вёскі ўтрымлівае шмат чаго цікавага і пазнавальнага, пра што немагчыма і нельга забываць. Гаворка далей пойдзе пра падзеі мінулага стагоддзя, якія маюць самыя непасрэдныя дачыненні да Асаўца і яе жыхароў.

### *Лідзія Мушавец*

Сёлета жыхарцы вёскі Асавец Чысцінскага сельсавета Мушавец (Літвінчук) Лідзіі Дарафееўне споўнілася 97 год. Доўгі жыццёвы шлях яе і лёс, як і ўсіх беларусаў яе пакалення, вельмі цяжкі і складаны. Праз што і праз якія іспыты выпала прайсці гэтай жанчыне, яна нават ворагу не жадае. Не глед-

зячы на амаль стогадовы ўзрост, Лідзія Дарафееўна адчувае сябе бадзёра, але ўсё адно ў яе расповядах пра мінулае адчуваецца хваляванне. Падчас гутаркі са старажыхаркай я шмат чаго даведаўся з яе жыцця, але не на столькі на колькі хацелася бы. А справа ў тым, што ў меру сваёй сціпласці, яна не вельмі ахвотна прыдавала значэнне менавіта сваёй асобе, а ўсё больш іншым. Нярэдка на тое альбо іншае пытанне адказвала пытаннем: "А што я, што мне...? Я вытрымлівала, бо была моцнай і рухавай ды ў дадатак яшчэ камсамолкай, а вось іншым было цяжэй!" Гэта яна мела на ўвазе шматлікіх сваіх родных і тых з кім сустракалася ў жыцці і несла сама з вялікім сумленнем і шчырасцю свой жыццёвы крыж. Пагэтаму, каб мець больш поўную карціну і больш дакладныя звесткі пра гэту жанчыну, я рушыў на яе малую радзіму ў пошукі жывых сведкаў даваенных часоў.


МУШАВЕЦ(ЛІТВІНЧУК) ЛІДЗІЯ Д.

Нарадзілася Лідзія Дарафееўна ў 1924 годзе на Палессі, у вёсцы Заводны Востраў, Мазырскага раёна, Махнавічаскага сельсавета. Толькі вось яе вёсачцы ў параўнанні з Асаўцом, на шмат менш пашчасціла, можна нават сказаць не пашчасціла. Заводны Востраў з позніх паселішчаў беларускага Палесся. Якое паявілася на геаграфічнай мапе толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Вось дэмаграфічны шлях развіцця Заводнага Вострава з пачатку і да сённяшніх дзён:

**1870 год — 18 рэвізійных душ.**

**1908 год — 22 падворкі, 108 жыхароў.**

**1917 год — 281 жыхароў.**

**1925 год — 53 падворкі.**

**1940 год — 76 падворкаў, 396 жыхароў (без уліку рэпрэсаваных у 1937 годзе).**

**1959 год — 234 жыхароў (згодна перапісу).**

**2004 год — 34 гаспадаркі, 48 жыхароў.**

На сённяшні дзень у Заводным Востраве зарэгістравана 12 сялянскіх падворкаў, у якіх прапісана па аднаму жыхару. І то з іх толькі палова пражывае стала, а астатніх на зіму дзеці забіраюць у горад. На вялікі жаль, праіснаваўшы ўсяго паўтара стагоддзя, вёска адмірае разам з апошнімі сваімі жыхарамі і ўжо бліжэйшым часам папоўніць спіс зніклых вёсак Беларусі. Вось такі марны лёс напаткаў малую радзіму Лідзіі Дарафееўны. А карані яе цягнуцца з-пад Белай Царквы, суседняй Кіеўскай вобласці. У яе дзядулі, Літвінчука Андрэя Маркавіча, быў зямельны надзел у сяле Зубаўшчына, Васілеўскага ўезда, Кіеўскай губерніі. Тую зямлю дзед Андрэй на прыканцы дзевятнаццатага стагоддзя атрымаў ў спадчыну ад бацькі. Сям'я разрасталася і ўжо на самым пачатку дваццатага стагоддзя дзед ужо меў восем сыноў: Якаў-вялікі, Сцяпан, Віктар, Ілья, Аляксандар, Якаў-малы, Дарафей, Дзяніс ды дзве дачкі: Яўгенія і Серафіма. Дзеці падрасталі, набіралі мужыцкую сілу, толькі рэалізаваць яе на поўніцу не хапала зямлі. Пяцігектарны кавалак зямлі для такой вялікай кагорты тое, што нічога. А купіць не было за што. Тое, што можна было ўзяць з гэтай зямлі, ледзь хапала на самае неабходнае для існавання. Зямля ў тых мясцінах была пладародная, таму і каштавала вельмі дарага, далёка не кожнаму па кішэні. У той час паміж Украінай і Беларуссю не існавала ніякай міждзяржаўнай мяжы, таму што ў 1793 годзе, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, адышлі

пад Расейскую імперыю. Дзякуючы бесперашкоднай міграцыі, дзед Андрэй прадаў за добрыя грошы сваю зямлю ў Зубаўшчыне і ў 1903 годзе ўсім сваім родам перабраўся на беларускае Палессе, дзе зямля каштавала зусім танна.

## *Новая Радзіма*


ЛІТВІНЧУК ДАРАФЕЙ АНДР

За тыя грошы, якія выручыў за гаспадарку на Радзіме, Дзед Андрэй набыў 25 гектараў дзікай зямлі, забалочанай і зараслай драбналессем, у невялікім паселішчы з назвай Заводны Востраў. На той час Мелішкавічаскай воласці, Мозырскага ўезду, Мінскай губерніі. Згодна мясцовых легенд гэтае паселішча сярод бязмежных Палескіх балот з’явілася прыкладна ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя. А заснавальнікам яго быццам бы быў нейкі заможны граф Шульскі, сасланы расейскім царом-імператарам за якуюсьці правіннасць перад ім. Высяленец абаснаваўся на адным з узвышшаў сярод балот, якое было падобным больш да вострава, таму што амаль круглы год да яго з усіх бакоў падступала вада. Спачатку граф пабудаваў на востраве смалакурню, а пасля печ па вытворчасці дрыўеснага вугля. Справы ішлі нядрэнна, прадукцыя карысталася попытам, таму павялічваўся яе аб’ём. Але з-за бездарожжа ўзнікла праблема з яе вывазам, на гэтак званую “вялікую зямлю”. Невядома па ініцыяты-

ве таго графа ці каго іншага, але ў 1880 годзе каля графскага Вострава, які ўжо называлі Заводным, пралягла чыгунка-вузкакалейка ад Махнавіч ажно да прыстані ў Балажэвічах. У той час для перавозкі па ёй графскага вугля і прадукцыі са смалакурні, а таксама лесу, скарыстоўвалі цяглавую конскую сілу. Да засялення Заводнага Вострава родам Літвінчука ў гэтым паселішчы налічвалася толькі з паўдзясятка двароў, насельніцтва якога, галоўным чынам, працавала ўсё на тых жа графскіх заводзіках. Літвінчукоў тыя прадпрыемствы не цікавілі, бо былі сялянскага складу. Пагэтаму яны адразу ж, не марудзячы часу, акрамя будоўлі жытла, узяліся скопам за распрацоўку сваёй зямелькі пад будучыя палеткі. Раскарчоўка і няхітрая прымітыўная меліярацыя адымала шмат часу. Але працавітасць і мэтанакіраванасць прыносіла свае станоўчыя вынікі. За год было ўжо шмат зямлі падрыхтавана пад сяўбу і частка яе ўжо дала першы ўраджай.


Род Старавойтава Дзяниса Алякс.1946г

У 1905 годзе ў Заводны Востраў з украінскай Зубаўшчыны перабраліся колішнія суседзі Літвінчукоў, шматдзетныя Старавойтавы з 10-цю дзеткамі. Яны таксама тут набылі каля двух дзясяткаў гектараў балотнай зямлі і некалькі гектараў лесу. Што і дапамагло іх таксама вялікаму роду хуткімі тэмпамі пабудавацца. Заводны Востраў відавочна ажывіўся. Перасяленцы працавалі не пакладаючы рук, пераўтвараючы палескае балота пад пасяўныя палеткі. Час ішоў, а разам з ім хлапчукі мужнелі, а дзяўчаткі станавіліся прыга-

жунямі-нявестамі. Так паступова нашчадкі ўкраінскіх перасяленцаў пераджаніліся, галоўным чынам, паміж сабой. Напрыклад, удзельнік японскай вайны ў Манджурыі і Першай сусветнай Дзяніс Старавойтаў стварыў сям'ю з Літвінчуковай Яўгеніяй. У якой у 1922 годзе паявіўся на свет хлопчык Мікола, будучы знакаміты скрыпічны майстра. А каму пары не выпала, то яны іх пазнаходзілі сабе ў суседнім Забалацці. Адзін з сыноў Літвінчука Андрэя, Дарафей 1895 г.н., узяў сабе ў жонкі Бегляк Алену Філімонаўну. У 1924 годзе менавіта ў іх і нарадзілася галоўная гераіня гэтых нататкаў, Лідзія Дарафееўна Мушавец (Літвінчук). Такім чынам, у паселішчы колькасць жыхароў хутка павялічвалася. Ужо ў 1917 годзе ў Заводным Востраве насельніцтва дасягнула амаль трохсот чалавек. Пасля кастрычніцкага ўзброенага перавароту ў Расеі ў Заводны Востраў прыйшла савецкая ўлада.

## *Калектывізацыя*

Абвешчаныя новыя эканамічныя пераўтварэнні (НЭП) кардынальна змянілі жыццё сялян. Гэтыя змены першапачаткова давалі вельмі добры стымул развівацца сялянскім гаспадаркам. Рупліўцы рацыянальна скарыстоўвалі крэдыты ад маладой савецкай улады. Што ім дазволіла хутка стаць на моцныя ногі. Ужо ў пачатку дваццатых гадоў у Заводным востраве выдзеліліся дзве моцныя гаспадаркі з наёмнай працоўнай сілай. Жыхары адной паловы вёскі працавалі ў гаспадара Макрэцкага, а другая палова ў Савіцкага. Новаспечаныя савецкія памешчыкі сялян у заробку не крыўдзілі. За што сярод іх мелі павагу. Але наступіў трыццаты год, савецкая ўлада абвясціла НЭПу вайну і разгарнула ў сельскай гаспадарцы павальную калектывізацыю, якая ахапіла ўсю краіну саветаў. У Заводным Востраве заможныя сялянскія гаспадаркі Макрэцкага і Савіцкага савецкая ўлада абвясціла кулацкімі. Гаспадары не пагад-

зіліся з такім сваім статусам і адмовіліся добраахвотна і тым больш бясплатна перадаць усё нажытае ў калгас. І як вынік праз нейкі час на Заводны Востраў наляцела конніца чырвоных казакаў. Сялян, якія абаранялі Савіцкага і Макрэцкага адразу ж арыштавалі. Саміх жа гаспадароў разам з сем'ямі дэпартавалі за Урал. А зямля і ўся нерухомасць была экспрапрыіравана на карысць калгасу. У Заводным Востраве ніхто з сялян не гарэў жаданнем развітвацца назаўсёды са сваёй палітай крывёй і потам зямелькай. Але саветы паставілі сялян перад выбарам... Альбо ўступаеш у калгас, з яго туманнай светлай будучыняй, ахвяруючы яму ўсе свае палеткі з коньмі і сельгаспрыладамі, альбо застаешся аднаасобнікам з невыносна вялікім падаткаабкладаннем. Нейкі час паміж сабой, паразважаўшы ды параіўшыся, сяляне пагадзіліся на першае. У выніку з добраахвотна-прымусовай сялянскай згоды за іх лік у 1930 годзе ў Заводным Востраве быў створаны калгас імя Розы Люксембург. Арганізацыйныя калгасныя справы вядзення калектыўнай працоўнай дзейнсці жадалі чакаць лепшага. Гадавыя вынікі былі непрыбытковымі. Сяляне за калгасную валюту (працадзень) нічога не атрымлівалі. З кождым годам узрастала незадавальненне сялян, якія працуючы ў калгасе ледзь выжывалі. Ратаваў толькі свой агарод, кароўка ды прыродныя дары (ягады, грыбы). Толькі тыя незадавальненні шматлікім вяскоўцам абярнуліся трагедыяй. У 1937-1940 гадах у Заводным Востраве НКУСаўцамі было рэпрэсавана больш за 60 сялян, якія зніклі бясследна. На конт гэтага, сярод насельніцтва існуюць розныя меркаванні: адна з версій, што ўсіх арыштаваных як польскіх шпіёнаў і ворагаў савецкай улады, тройкі растралялі ў старадаўнім падземным праходзе, які злучаў бераг Прыпяці з адным з манастыроў недалёк ад Мозыра. Рэпрэсіі закранулі, галоўным чынам, тых хто меў польскія, чэшскія, заходнеўкраінскія карані. Ды і карэнных таксама, хто не хаваў свайго крытычна-

негатыўнага стаўлення да савецкай улады . Нашых галоўных герояў, пра якіх ідзе гаворка, Бог мілаваў. Лідзія Дарафееўна ў 1939 годзе скончыла Махнавічскую сямігодку і ў гэтым жа годзе паступіла ў Мазырскае настаўніцкае вучылішча. Годам раней гэтае вучылішча скончыла і старэйшая сястра Лідзіі, Варвара, якая на той час ужо працавала настаўніцай у Брагінскім раёне. Мазырскае настаўніцкае вучылішча рыхтавала настаўнікаў пачатковых класаў. Для поўнай падрыхтоўкі, каб атрымаць дыплом патрэбна было прайсці тры курсы навучання. У праграме кожнага з іх была ўключана абавязковая для ўсіх студэнтаў паслякурсавая месячная ваенная падрыхтоўка (ГТО – готов к труду и обороне). Гэта падрыхтоўка для Лідзіі не была выключэннем, пасля II курса навучання ў 1941 годзе.

## *Пачатак вайны*

Ваенныя зборы кожны раз праводзіліся ў лясным спецлагеры непадалёку ад Мозыра. У той трагічны год, як распачалася вайна, зборы якраз заканчваліся. Лідзіі Дарафееўне той летні і сонечны дзень 1941 года запомніўся на ўсё жыццё. Менавіта ад яго, 22 чэрвеня, у яе пайшоў адлік зусім іншага жыццёвага часу, жудаснага і трагічнага. Памятае, як у той дзень апоўдні кіраўніцтва лагера пастроіла ўсіх навучэнцаў на пляцоўцы і абвясціла пра гора і бяду, якая напаткала ўсю краіну. Ваенны палітрук згадаў пра ўсеагульную мабілізацыю і загадаў усім юнакам тэрмінова накіроўвацца ў ваенкамат. Не гледзячы на тое, што дзяўчатам было прапанавана вяртацца дадому, але тыя не хацелі адставаць ад хлопцаў і прасіліся добраахвотнікамі ў войска. Фронт дзяўчатам быў адмоўлены, а вось прыняць ўдзел у эвакуацыі горада ваенком нават папрасіў. Лідзія з сяброўкамі некалькі дзён дапамагалі на станцыі ваенным і цывільным адгружаць у вагоны дакументацыю, стратэгічнае абсталяванне ды сем’і партапаратчыкаў і дзяр-

жаўнага кіраўніцтва. Як толькі з пастаўленай задачай больш-менш справіліся, Лідзія падалася да роднай хаты. Спачатку дабралася да Ельска, ад якога да Заводнага Вострава патрэбна было пяшком перабрацц дваццаць сем вёрст. Але ёй падобныя пераходы былі не ў першыню і ўвайшлі яшчэ з маленства ў прывычку. Не паспела зайсці ў хату, як на парозе паявіўся старшыня калгаса і загадаў тэрмінова ісці прымаць вясковую краму, у якой працаваў стрыечны брат Лідзіі Мікола Старавойтаў.


Старавойтаў М.Дз.1945г.

Прыём крамы адбыўся чыста сімвалічна, за пару хвілін. Мікалай проста перадаў Лідзіі толькі ключы і адразу сам падаўся ў ваенкамат. З Заводнага Вострава за некалькі дзён мабілізавалі ў савецкае войска ўсіх ваенаабавязаных. Пасля чаго вёска відавочна парадзела, адразу стала малалюднай. Такая з'ява ў вёсцы ўжо была раней, у 37-ым годзе, пасля рэпрэсій. Але пасля тых падзей, да вайны насельніцтва вёскі папоўніла чалавечыя страты і налічвала ўжо чатыры сотні жыхароў. Тэма вайны не сыходзіла з вуснаў жыхароў Заводнага Вострава. Усіх авалодаў страх і невядомасць. Ніхто не мог прадказаць, што дзень заўтрашні можа прынесці. У кожным двары ўсе, хто як мог, рыхтваліся да прыходу ворага. Рыхтавалася, канешне, і мясцовая ўлада. З мужыкоў, якія ўжо па ўзросту не падлягалі мабілізацыі, сабралі брыгады для эвакуацыі на Усход буйнарагатай жывёлы, коней, авечак. І не толькі калгасных статкаў, але і з сялянскіх падвор-

каў. Для вядзення гаспадаркі сялянам дазвалялася пакінуць толькі адну карову на двор, кабана і тры авечкі. Аднаго каня на дзесяць двароў альбо аднаго быка на пяць. Усе сабраныя статкі,створаныя брыгады пагоншчыкаў, мусілі пераганаць на ўсходні бераг Прыпяці. Толькі,як распавядалі мне Лідзія Дарафееўна і яе стрыечная сястра Марыя Дзянісаўна Старавойтва, на той бераг Прыпяці далёка не ўся жывёла была перагнана. Справа ў тым, што калі пасля нямецкіх авіяналётаў якія-небудзь масты і ўцалелі праз раку, то яны былі забіты ваеннай тэхнікай. Пагэтаму ўсе статкі вымушаны былі пераганяць на другі бераг проста ў плаў. Жывёла ў вадзе пачынала панікаваць і штурхаць адна адну, у выніку знямоглая жывёла адна за адной станавілася ахвярай Прыпяці. Асабліва гінулі авечкі. Больш з калгасу вывозіць не было чаго. Тэхнікі ён ніякай не меў і зярна таксама. Бо жыў ад восені да восені. А тым часам у Махнавічах быў створаны партызанскі атрад, у які і быў залічаны загадчык крамы Мікалай Старавойтаў, родны брат вышэйзгаданай Марыі і стрыечнай сястры Лідзіі.

### *Сакрэтная эвакуацыя крамы*

Праз некалькі дзён пасля таго, як Мікалай перадаў Лідзіі ключы ад крамы, неяк надвячоркам яе наведалі двое незнаёмцаў. Назваўшыся прадстаўнікамі ўлады, яны паручылі Лідзіі як камсамолцы выканаць сакрэтнае заданне ваеннага значэння. Для гэтага ёй патрэбна было ў начны час, каб ніхто не мог убачыць, вывозіць з крамы ўсё, што ў ёй было: ад запалак, солі, макаронаў да цвікоў і нават паперы. Усё гэта патрэбна было дастаўляць у лес і рухацца толькі па вызначаным маршруце, які і давядзе Лідзію да канспeратыўнага месца. Для выканання гэтага задання чужынцы пакінулі каля крамы парку коней і сказалі дзяўчыне пароль для пастоў, якія будуць сустракацца ёй на ўказаным маршруце. Лідзію адразу агарнуў гонар, што

менавіта ёй, а не каму іншаму даверылі такую сакрэтную справу. Але ў адначассе сямнаццацігадовую і худзенькую дзяўчынку авалодаў страх з думкамі: “А ці спраўлюся? Ці хопіць сілы загружаць мяшкі з соллю ды макаронамі альбо тыя скрыні з цвікамі? Ці хопіць смеласці адной па цемры ў лес ехаць,у якім ваўкоў можна было спаткаць на кожным кроку?” Але адступаць было нельга, бо загад ёсць загад і яго патрэбна было выконваць, як мае быць, па-камсамольску і згодна ваеннай падрыхтоўцы савецкага (ГТО). І Лідзія сябе пераканала ў тым, што гэта заданне для яе вельмі лёгкае ў параўнанні з тым, з якім людзі ідуць на смерць дзесьці там удалечыні, на франтах сусветнай вайны з праклятым фашызмам. Але як бы дзяўчына не намагалася, яе слабенькія ручкі проста фізічна не здолелі ўзваліць на воз трохпудовыя мяшкі з соллю, цукрам, макаронамі ды скрыні з цвікамі. Нехаця прыйшлося “рассакрэчвацца” перад роднымі, якім і без яе ўжо было вядома, як і ўсім вяскоўцам, што крама падлягае “эвакуацыі”, толькі не на ўсход, а ў лес. І дзіўнага ў гэтым няма, таму што палеская вёска не была бы палескай, калі б у ёй магчыма было бы аднаму суседу ад другога штосьці прыхаваць ды не ўмець язык за зубамі трымаць. Прыцемкам да крамы, каб падсабіць Лідзіі і яе тату Дарафею загрузіць падводу таварам, падышлі вяскоўцы-юнакі ды сталыя мужыкі. Гуртом справіліся так хутка, што прыйшлося яшчэ і чакаць пакуль прышарэе, каб захаваць “сакрэтнасць” задання, якое яшчэ ў дзень ужо было не сакрэтным. Як толькі час падышоў, падвода з грузам, прыкрытым зверху свежавысушаным сенам, у суправаджэнні хлопцаў рушыла па вясковай вуліцы ў бок гаю. За ваколіцай, хуценька развітаўшыся, далей па ўказаным маршруце Лідзія паехала ўжо адна. Патрэбна было спяшацца, каб на досвітку дабрацца да месца прызначэння ў Ружын лес. Чым далей Лідзія ад’язджала ад вёскі і чым бліжэй станавіўся лес,тым больш яе прабіралі дрыжы-

кі ад страху перад шэрымі ляснымі звяругамі. Звычайна ў такія гадзіны іхнія завыванні былі добра чутныя нават у вёсцы, а тут нейкая цішыня. Але Лідзія, перамагаючы страх, рухалася ў абраным напрамку, а думкі тым часам круціліся ў галаве верацяном: “Чаму ж іх сёння не чуваць? А можа яны не выюць таму,што ўжо дзесьці тут, каля самага воза крадуцца за ёй, ляскочачы зубамі, як на сваю ахвяру і падбіраюць зручны момант для атакі? А ў цемры такой ці можна што ўбачыць? А пачуць тым больш,бо ад хвалявання сардэчны не стук, а грохат вушы закладае.” І тут раптам страхі ўсе разагналі спакойныя паводзіны коней. Лідзія ўспомніла, што коні ваўка за вярсту чуюць. Значыць страхі яе былі дарэмнымі, пасля чаго страх і хваляванне на нейкі час адступілі. Пры ўездзе ў лес, калі сэрца ў грудзях зноўку пачало часціць, аднекуль з цемры, як гром сярод чыстага неба, прагучаў загад: “Стой хто ідзе?!” Ці то ад нечаканасці, ці то ад страху перад ваўкамі, ці то ад радасці, пачуўшы чалавека, Лідзія ўскрыкнула так, што ажно коні ўбок шарахнуліся і спыніліся. Мужчынскі голас запытаў у Лідзіі пароль. А яна замест паролю: “У Забалацця еду, радні сена вязу! У Забалацця еду, радні сена вязу!” — і гэтак разы чатыры паўтарыла. Зразумелі вартавыя, што дзяўчына моцна перапалоханая і што гэта тая, якую яны чакаюць. Супакоіўшы Лідзію, нагадалі ёй пароль і паказалі куды ехаць далей. І каб больш ужо нікога не баялася, яе будуць сустракаць іншыя вартавыя і ўказваць накірунак руху. Далейшы шлях з мноствам пастоў Лідзія ехала ўжо спакойна і без страху. Нават і не заўважыла, як скончылася караценькая ліпеньская ноч. На самым досвітку Лідзія ўжо была на месцы, на невялікім узвышшы, зарослым густымі векавымі хвоямі. Людзі ў цывільным, хутка разгрузілі тавар у падрыхатваныя склады-зямлянкі. Загрузілі Лідзіі на воз нейкіх дроў, карчоў і адправілі ў зваротную дарогу, за чарговым грузам. А тым часам пад’язджалі да склада іншыя, так-

сама гружоныя падводы. Да хаты Лідзія ехала ўжо смела, без страху, кажучы на пастах усім: "Да пабачэння". Бо ведала, што яшчэ не адзін раз прыйдзецца ёй ездзіць па гэтаму маршруту. Лідзія Дарафееўна ўжо не памятае колькі разоў ёй прыходзілася здзяйсняць падобныя падарожжы, але што больш тыдня і кожную ноч, то гэта дакладна. Спачатку са сваёй крамы вывезла ўсё пад чыстую, а пасля — з леспрамгасаўскай ды з суседняга Забалацця. Пасля выканання пастаўленай задачы, Лідзія далучылася да калгаснай працы. Патрэбна было прыбіраць паспелы ўраджай і за сябе і за тых, хто сышоў на фронт. У самым канцы ліпеня ў ціхую ноч ужо добра чулася прыбліжэнне фронту. Акупацыя стаяла ўжо на парозе і гэта ўсе добра ўсведамлялі нават без савінфармбюро. Пагэтаму кіраўніцтва калгаса загадала сялянам-калгаснікам разабраць з калгаснага двара ўвесь інвентар па сваіх падворках, на захоўванне да канца вайны. Сабранае калгаснае зярно таксама было сялянам загадана хаваць дома, да першага патрабавання.

## *Вораг на парозе*



У пачатку жніўня немцы ўжо былі ў Махнавічах, дзе адразу ўтварылі ваенны гарнізон. А дзесьці ў сярэдзіне месяца пад немцамі апынуліся Мазыр і Ельск. Кананада вайны хутка прыціхала, адыходзячы кудысьці далёка на Усход. Заводны Востраў і Махнавічы раздзяляюць тры вярсты. Але немцы ў Заводны

здолелі дабрацца толькі ў снежні месяцы, як балота цалкам замерзла. У даваенны Заводны Востраў дабрацца наземным транспартам можна было толькі ўлетку, як суха альбо зімой, як стане балота. Існаваў яшчэ і круглагадовы шлях-гэта па ўжо раней згаданай вузкакалейцы, пабудаванай тут у другой палове XIX стргоддзя. Цяпер яна не дзейнічала, таму што яе яшчэ да прыходу немцаў,галоўным чынам, разабралі і захавалі. Вось для аднаўлення гэтай вузкакалейкі, немцы і завіталі ў Заводны Востраў. Акупанты абшнырылі ўсе падворкі, прызначылі старасту вёскі, які павінен быў глядзець за парадкам і арганізоўваць вяскоўцаў на работы і ў першую чаргу на аднаўленне вузкакалейкі, якая пралягала непадалёк. У калгаснай канторы (былым маёнтку савецкага памешчыка Макрэцкага) размясцілася новая, нямецкая ўлада. Камендант і каля дзесятка добра ўзброеных нямецкіх салдат, у заданне якім уваходзіла ахова камендатуры і вузкакалейкі. На той час партызаны пакуль што не праяўлялі значнай актыўнасці ў барацьбе з акупантамі, пагэтаму апошнія адчувалі сябе поўныя гаспадарамі. Але калі ўжо казаць шчыра, то спачатку гэтыя гаспадары да насельніцтва ставіліся больш патрабавальна, а не агрэсіўна і безніякага гвалту. Толькі нямецкі кантроль у Заводным хутка скончыўся. Ужо ў пачатку Новага года, партызаны знянацку наляцелі на камендатуру і парашылі ўсіх немцаў разам з іх камендантам. Немцы больш сюды доўгі час не наведваліся. А разам з тым і ўсе аднаўленчыя работы на вузкакалейцы спыніліся. Жыхары Заводнага працягвалі паціху сваё вясковае ізаляванае ад усяго свету жыццё. Рыхтаваліся да пасяўной і далей суседняга Забалацця не высоўваліся. Таму што пасля партызанскага разгрому нямецкай камендатуры, гэтыя вёскі немцы занеслі ў спіс партызанскіх, а жыхары якіх аўтаматычна перайшлі ў разрад партызанскіх пасобнікаў. У акупантаў паселішчы з такім статусам, нярэдка падлягалі поўнаму зніш-

чэнню разам з жыхарамі. З Заводнай шмат хто, пачынаючы з шаснаццацігадовых юнакоў і заканчваючы мужыкамі сталага ўзросту, каму пад сілу яшчэ было трымаць зброю ў руках, запісаліся ў партызанскія атрады, якія былі раскватараваны па вёсках. Праводзіць баявыя дзеянні было вельмі небяспечна.



Была вялікая рызыка падставіць насельніцтва, таму што немцы па слядах беспамылкова маглі бы адшукаць месцазнаходжанне партызан. Рабіліся толькі невялікія нарыхтоўчыя вылазкі па набыццю ўзбраення, медыкаментаў і іншых жыццёванеабходных рэчаў і то падчас моцных завірух. Наступіўшая вясна, дадала вяскоўцам шмат клопатаў. Пасяўная ад сялян заўжды ў мірны час патрабавала вялікіх намаганняў, а тут ваенны. Але ж вайна-вайной, а сеяць трэба, бо галадамор страшней вайны. Хто-хто, а ўкраінцы-перасяленцы пра яго ахвяры на Украіне ў пачатку 30-ых гадоў ведалі не па чутках. Была галадуха ў той час і на Мазыршчыне, але не ў такіх жудасных, як на Украіне маштабах. Хутка пасеяцца не атрымоўвалася, моцна не хапала цяглавай сілы. А тыя паўдзясятка каней ды некалькі пар быкоў, якія былі пакінутыя сялянам пасля эвакуацыі ўсіх астатніх на Усход, не вельмі рабілі надвор’е. Вяскоўцы жывёлу ўпрагалі ў плугі, а ў бароны ўпрагаліся самі. Гэтак і сеялі, бо больш нічога не заставалася. Дзесьці ў другой палове мая 42-га, галоўным чынам. усеяліся. І тым часам паводка сышла і на балотах грэблі сталі праходнымі. Пра якія ведала толькі мясцовае насель-

ніцтва. Партызаны пакінулі вясковыя кватэры і сышлі на свае летнія лесабалотныя базы, да якіх можна было дабрацца толькі па тых самых патаемных грэблях. Па адной з іх Лідзія Дарафееўна ў самым пачатку вайны і вывозіла тавары з сельпоўскіх крамаў на ўзвышша сярод балот. У Заводным Востраве засталіся толькі бабулі з дзядулямі, жанчыны з дзецьмі, ды дзяўчаты маладыя. Немцы, даведаўшыся пра тое, што насельніцтва партызанскіх вёсак засталося фактычна без абароны, распачалі карную аперацыю па зняволенні працаздольнай моладзі для адпраўкі ў Германію. Акцыя да Заводнага Вострава, дайшла (як сцвярджае Лідзія Дарафееўна) якраз у той час, як чарніцы ў лесе ўжо паспявалі. Наляцелі акупанты на досвітку. А каб ніхто не здолеў пакінуць вёску, яе напярэдадні акружылі шчыльным ланцугом з мясцовых паліцаяў, у тым ліку і ўкраінскіх. А гэты ланцуг падстрахоўвалі з дзесятак нямецкіх кулямётчыкаў з кулямётамі, расстаўленых па перыметру вакол вёскі. Немцы з паліцаямі абшнырывалі ўсе падворкі па выяўленню падыходзячых ім людзей. Не забіралі толькі цяжарных жанчын і ў каго былі на руках немаўляты. А ўсім астатнім, у тым ліку Лідзіі Дарафееўне і яе пляменніцы Вользе Ігнатаўне Літвінчук (1925 г.н.) далі пятнаццаць хвілін, каб сабраць з сабой лыжку, кубак ды ежу на тры дні і выйсці на вясковую вуліцу. Калі людзі сабраліся, немцамі было абвешчана, што яны накіроўваюцца ў Ельск на трохдзённую работу, для будавання стратэгічнага аб'екту. Пасля чаго калона пад узмоцненнай аховай пешшу рушыла ў бок горада. Без перадышкі праз дваццаць пяць вёрст людзі, стомленыя ўшчэнт, дайшлі да месца прызначэння. Калона спынілася каля нейкага доўгага і высокага ў метры тры дасчатага плоту, па якім зверху быў нацягнуты калючы дрот. Усе, успрыняўшы гэтую пабудову за той самы ваенны аб'ект, якому патрэбны працоўныя рукі, уздыхнулі з палёгкай, што нарэшце яны тут змогуць адпачыць і перакусіць спакой-

на. А як толькі вароты адчыніліся, вяскоўцы замест будаўнічай пляцоўкі ўбачылі тысячы такіх жа як яны. Гэта быў спецлагер для часовага ўтрымання зняволеных перад адпраўкай ў Германію. Пацягнуліся доўгія дні і ночы ў чаканні невядомага далейшага лёсу. Прайшоў амаль тыдзень, хатняя ежа ўжо даўно скончылася, а з боку акупантаў, акрамя іржавай вады, нічога больш не давалася. Бывала перападала якая-небудзь скарыначка хлеба альбо жменька недаспелых чарніц, ад новапаступаючай партыі будучых гастарбайтэраў. А таксама за кошт перадачак ад родных зняволеных. Усе зняволеныя і ўдзень і ўначы знаходзіліся пад адкрытым небам. Спалі прама на зямлі, прыціскаючыся адзін да аднаго. Хоць чэрвеньскія ночы былі і цёплыя, але не на столькі, каб у сне не прабіралі дрыжыкі. Усе былі апранутыя па-летняму, бо ніхто не разлічваў на падобныя ўмовы ўтрымання і доўгатэрміновую “камандзіроўку”, якая для Лідзіі і Вольгі зацягнулася больш як на трохгадовы тэрмін. Неяк адным днём, сёстры пачулі воклічы іх прозвішчаў, якія даносіліся з-за другога боку плоту. Калі яны падышлі бліжэй, то ўбачылі свайго дзядзьку Іллюка. Ён з сям’ёй жыў і працаваў на лесаперапрацоўчым прадпрыемстве ў Ельску. Як толькі да дзядзькі дайшлі чуткі, што з яго Заводнага Вострава ўсю моладзь, у тым ліку і пляменіц Лідку і Вольгу, немцы прыгналі сюды ў лагер, ён адразу падаўся ў пошукі, каб перадаць ім хоць якіх-небудзь харчоў ды цёплую вопратку. А калі будзе магчымасць, то і ўвогуле паспрабаваць вызваліць іх з лагеру. Сустрэча праз шчыліну ў плоце была хвалюючай і кароткай. Дзядзька Іллюк перакінуў праз верх лагернай агароджы падрыхтаваны шклунак з харчамі ды цёплымі рэчамі і паабяцаў, што выкупіць іх. На першым годзе вайны, такое было магчыма. Але не паспеў, бо на наступны дзень зняволеных партыямі па пяцьдзясят чалавек, пачалі адводзіць на чыгуначную станцыю для адгрузкі ў загадзя падрыхтаваныя, гэтак званыя кры-

тыя вагоны-цялятнікі. А тое, што вадзілі такімі малымі партыямі, немцы хутчэй за ўсё баяліся, што большую колькасць не змогуць забяспечыць аховай. Пагэтаму адгрузка працягвалася павольна, цэлыя суткі. Жанчын і мужчын загружалі ўсіх разам, па пяцьдзясят-восемдзесят чалавек у адзін вагон, пасля чаго дзверы ўслед зачыняліся звонку на жалезны засоў, каб ніхто не здолеў збегчы. Вагоны былі абсталяваныя толькі двума невялічкімі акенцамі з жалезнымі кратамі на іх. А дасчатая голая падлога служыла для “пасажыраў” і крэслам і ложкам. Пакуль стаялі, а пасля і на працягу ўсяго часу руху ўсім зняволеным, пад пагрозай растрэлу было забаронена пакідаць вагон, нават да ветру. Для гэтай мэты ў адным канцы вагона ў падлозе наўмысна была прарэзаная невялікая дзюрка, якая і служыла для “пасажыраў” прыбіральняй. У вагоне стаяў невыносны духмень, асабліва на прыпынках, пакуль паравоз загружаўся палівам ды вадой. Лягчэй было толькі падчас руху і ўначы. Сутачны харчовы рацыён на працягу ўсяго шляху, складаўся з невялікага кавалка хлеба і вады.

### *Асвенцым і Дахаў*




Калі прывезлі ў Польскі Асвенцым, зняволеным патрэбна было прайсці ўсебаковую медыцынскую камісію, у тым ліку і на венерычныя захворванні. Працэс медагляду

і прафілактычнай апрацоўкі быў канвеерны. Спачатку зняволеных, як жывёлу, не раздзяляючы па палавых прызнаках, прымушалі цалкам скідаць з сябе адзенне і вешаць яе на спецыяльныя кручкі, якія паціху рухаліся як канвеер у цагельні. Саміх жа людзей ахоўнікі накіроўвалі па вузкім праходзе, да гэтак званай лазні-труцілаўкі. А перад гэтым у кожнага зняволенага ўсе валасяныя пакровы пэцкалі вапнай. Ад якой скура невыносна пякла. Пасля "лазні" і агляду дактароў апраналіся ўжо ў прайшоўшае праз прудзілаўку, пратручанае яшчэ гарачае і нечым ванючае адзенне. На камісіі людзей дзялілі на групы. Адных пакідалі ў Асвенцыме, а Лідзію і Вольгу разам з іншымі зноў загрузілі ў вагоны і адправілі далей у Германію. На гэты раз нашых дзяўчат лёс закінуў ажно ў Баварыю, у канцлагер Дахаў, які раздзяляўся на лагер смертнікаў і працоўны лагер. Лідзіі і Вользе і на гэты раз пашчасціла, яны трапілі ў працоўны. Пасля паўторнай медкамісіі зняволеных змясцілі ў лагерны барак з нарамі. І толькі тут упершыню, праз трохтыднёвы шлях у чыгуначных "цялятніках", паелі нейкай аўсянай поліўкі. У Дахаве таксама доўга не затрымаліся. Ужо праз суткі Лідзію і Вольгу разам з іншымі зняволеннымі на машынах пераправілі ў Мюнхен. Але ўжо не ў лагер барачнага тыпу, а ў мураваны трохпавярховы будынак з шыльдай "Arbeitsamt" (працоўная біржа). Гэта было падобна да інтэрната працоўнай біржы. Тут зняволеных размяркоўвалі па працоўных аб'ектах горада (заводы, фабрыкі і іншыя сацыяльныя службы). На працу і з працы гастарбайтэры хадзілі ўжо не пад аховай (бо збягаць не было куды). Лідзія з Вольгай заўжды намагаліся трымацца разам і ім гэта кожны раз нейкім чынам удавалася.

### *Пасля лагера кароўнік выглядаў палацам*

Вось і адсюль з біржы іх абодвух забрала ў мястэчка Дайзенгофен (Deisenhofen) за 40 км ад Мюнхена старэйшая дачка

мясцовага bauera (баўэра) фермера-селяніна, Карла Мідермайера — фройлен Онэ. Жонку гаспадара звалі фраў Катрын. Другая малодшая дачка баўэра гаспадаркі, таксама як і маці, мела імя Катрын. А сын зваўся, як і бацька, Карл. У сувязі з тым, што гаспадарка Мідермайера знаходзілася далекавата ад Мюнхена, Лідзію і Вольгу прыпісалі да яе на сталае пражыванне. Гаспадарка была вялікая. У кароўніку стаяла трыццаць шэсць дойных кароў і чатыры вялікія быкі. Гэта не лічачы цёлак і цялят, якія ўтрымліваліся ў асобным будынку. Для апрацоўкі шматгектарных палеткаў у гаспадарцы мелася шасцёра коней, з усімі прыладамі да іх. Працоўны дзень у дзяўчат пачынаўся з чатырох гадзін раніцы, галоўны іх абавязк – кароўнік. За тры гадзіны патрэбна было пачысціць увесь кароўнік ад гною, вывозячы яго ўслед на вуліцу на тачцы-аднаколцы. Пасля ў сем гадзін — сняданак і ўжо а восьмай гадзіне ўсе работнікі і члены сям'і гаспадара, ішлі на працу ў поле. Дома заставалася толькі гаспадыня фрау Катрын. У яе абавязкі ўваходзіла прыгатаванне ежы на ўсіх у адным кацялку. У поўдзень — абед, і зноў у поле. Ад шаснаццатай і да дваццаць другой гадзіны Лідзія з Вольгай зноў прыступалі да чысткі і кармёжкі кароў. Пасля працы, вячэра і спаць, там жа на кароўніку ў тамбуры з сенам. І гэтак са дня ў дзень, кожны дзень і круглы год. Летам работа выматвала на нет. Узімку было крыху лягчэй, толькі таму што палеткі адпачывалі. Гаспадары з самага пачатку ставіліся да гастарбайтараў не зусім добра, без даверу. Упраўляючы нават іншы раз і бізун пускаў у ход да тых, хто лянаваўся працаваць. Былі і такія. Але працавітым палескім дзяўчатам гэта не пагражала. Яны цудоўна разумелі, калі лянавацца, то гэта толькі ў шкоду сабе. Пагэтаму яны ставілася да работы з поўнай адказнасцю і гаспадар Карл заўважыў іх працавітасць і шчырасць да сваіх працоўных абавязкаў. Праз год у Лідзіі і Вольгі з сям'ёй баўэра склаліся не толькі поўныя даверлівыя адносіны, а на-

ват сяброўскія. Фройлен Онэ была равесніца дзяўчатам, толькі фройлен Катрын на два гады маладзейшай за іх. За год усе гастарбайтары ўжо добра вывучылі нямецкую мову і маглі з лёгкасцю вясці дыялог з немцамі.

Лідзія Дарафееўна вельмі цікавая расказчыца і такой была ўсё жыццё. Не страціла яна гэтых здольнасцей і падчас сваёй зняволенай маладосці. Сям'я баўэра Карла Мідермайера цікавілася жыццём у СССР, беларускай прыродай, людзьмі і іх традыцыямі і Лідзія з задавальненнем ім распавядала пра ўсё з усімі падрабязнасцямі, што слухачоў вельмі захапляла. Глава гаспадаркі Карл нярэдка рабіў заўвагі, але больш дочкам, каб тыя сваімі пытаннямі не адрывалі ад працы Лідзію з Вольгай. Да гэтага часу яны звонку ўжо мелі выгляд сапраўдных фройлен. Аб гэтым паклапаціліся маладыя немкі, падзяліўшыся сваім гардэробам, і, безумоўна ж, толькі з дазволу самога баўэра Карла і фраў Катрын. Час ішоў, з жыццём на чужбіне змірыліся, але па начах сны не давалі забыцца пра Радзіму. Амаль кожную ночку сніўся любы Заводны Востраў, родныя, сяброўкі. Але сон быў вельмі кароткім, бо яго кожны раз на самым цікавым месцы абрываў упраўляючы ў чатыры гадзіны раніцы. Лідзія часцяком задавала сама сабе пытанне: "А чаму менавіта ў чатыры гадзіны патрэбна было падымацца на працу? А чаму не ў тры альбо ў пяць, а менавіта ў чатыры?" Лідзііа лічыла гэты ранні час сутак, часам д'ябла. Бо гэты час у яе лёсе пакінуў страшныя і трагічныя ўспаміны. Вайна з фашыстамі распачалася ў чатыры гадзіны раніцы. У самым яе пачатку, вывозячы тавары з крамаў на партызанскія базы, на якія яна павінна была кожны раз прыязджаць таксама ў чатыры гадзіны раніцы. У 42-ім немцы напалі на Заводны Востраў таксама ў чатыры гадзіны раніцы. Вось і ў Германіі на працягу трох гадоў і кожны дзень, праца на баўэра распачыналася ўсё з тых жа чатырох гадзін. Але, як не дзіўна, у 1945 годзе нейкім

красавіцкім днём таксама ў чатыры гадзіны раніцы сон Лідзіі і Вольгі абарваў не ўпраўляючы гаспадаркай, а грамыханне гамат і разрывы снарадаў. Страляніна даносілася з боку Мюнхена. Як пасля стала вядома, гэта горад штурмавалі амерыканцы, саюзнікі Чырвонай Арміі. Тое, што вайна хутка скончыцца, чуткі хадзілі ўжо раней, яшчэ ўзімку. Зняволеным пра гэта паведаміў сам баўэр Карл Мідермайер. Што гэта? Супадзенне? Містыка? Але што б гэта ўжо не было, толькі на гэты раз чатыры гадзіны раніцы для ўсіх вязняў, быў самым шчаслівым часам у іх жыцці. Галавакружыльную душэўную радась ад той страляніны і снарадных разрываў распавясці словамі — немагчыма.

### *Доўгачаканае вызваленне*

‘‘Таму што для ўсіх нас, гастарбайтараў, — кажа Лідзія Дарафееўна, — тая страляніна несла не смерць, а жыццё, вызваленне і вяртанне на Радзіму’’. У той дзень баўэр Карл гастэрбайтараў да працы не стаў прыцягваць. А сам, вывесіўшы на доме белы сцяг, толькі з сям’ёй рушыў у поле, бо сяўба была ў разгары. Сцягі ў мястэчку павывешвалі ўсе немцы на кожным доме, пасля таго, як яго без адзінага стрэлу, занялі амерыканцы. Яны папярэдзілі ўсіх жыхароў, калі на якім-небудзь доме не будзе белага сцяга, то той будынак вайскоўцы без ніякіх папярэджванняў, будуць закідваць гранатамі. Вось гэтак Лідзія з Вольгай сустрэлі вызваленне. А далей іх наперадзе яшчэ чакаў далёкі і доўгі шлях дадому. І пра гэта зараз па парадку. Праз два дні, калі страляніна адкацілася дзесьці далей, у мястэчка прыехаў трактар з доўгім прычэпам, каб адвезці савецкіх грамадзян у Мюнхен для адпраўку на Радзіму. Кіраваў трактарам такі ж самы савецкі гастарбайтар як і Лідзія з Вольгай. Па прыездзе ў Мюнхен, інтэрнат з якога іх забірала фройлен Оннэ Мідэрмайер тры гады таму, быў ужо напоўнены савецкімі вязнямі.

Нашым дзяўчатам знайшлося месца ў адным з пакояў, а каму не хапіла, месціліся ў калідорах. А вестыбюль будынка быў прыстасаваны пад сталовую, у якой упершыню за тры гады зняволення наядаліся ўжо ўдосталь. Амаль усе харчы былі амерыканскай вытворчасці: кансервы, тушонка, рыба, сялёдка, макаронныя вырабы і іншае. Але доўга тут не затрымаліся.


Літвінчук Лідзія Дараф.

Як толькі прайшла персанальная праверка кожнага з вязняў, пачалася сарціроўка. Хто быў прыдатны да вайсковай службы, забіралі ў Чырвоную Армію. А астатнія сталі чакаць адпраўкі ў СССР. Былі такія, якія не жадалі вяртацца ў саюз, але, галоўным чынам, толькі тыя, каго дома нішто і ніхто ўжо не чакаў. Адны страцілі сваіх родных яшчэ да вайны ў 37-ым, а ў іншых вайна забрала ўсё і ўсіх яшчэ ў самым яе пачатку. І пагэтаму тыя людзі падаліся ў амерыканскую зону. Праз нейкі тыдзень, забяспечыўшы вязняў на дарогу трохдзённымі харч-пайкамі, савецкая камендатура Мюнхена распачала адпраўку грамадзян на Радзіму. Не чакаючы аднаўлення чыгункі, былых вязняў з горада пачалі вывозіць на амерыканскіх тэнтованых “судыбекерах” на Усход, у бок Аўстрыі. У машынах, каб больш памясцілася, людзі ехалі стоячы. Праз кіламетраў дзвесце аўтакалона з былымі вязнямі, выехаўшы на больш шыро-

кую шашу, спынілася. Старэйшы калоны загадаў усім злазіць з машын і пастроіцца. Пасля чаго абвясціў, што машынам быццам бы патрэбна вярнуцца назад, каб вывезці астатніх былых вязняў, якія там засталіся. “А нам, — кажа Лідзія Дарафееўна, — сказаў пачакаць іх тут альбо рухацца паціху па шашы і паказаў накірунак, у які бок патрэбна ісці, каб патрапіць у прызначаны гарадок Н. І што ў тым гарадку для вязняў фарміруецца цягнік на Будапешт, адкуль усіх адправяць ўжо без перакладных прама ў савецкі Львоў.” Ваенны так соладка ўсё распавёў, што адразу пасля яго ад’езду калона без адпачынку з вялікай надзеяй і марай, да якой здавалася ўжо можна рукой дастаць, рушыла ў бок таго невядомага гарадка. З якога цягнік іх хутка давязе на Радзіму. Ішлі гадзіну, другую, трэцюю, а гарадка ўсё не бачна. Вось ужо і вечар агарнуў, а вакол толькі пазасяваныя палеткі ды лугі і не аднаго дрэўца, каб ад сонца прыхавацца. Не дасягнуўшы прызначанага гарадка і не дачакаўшыся машын з астатнімі вязнямі, людзі, змучаныя хадой, заначавалі прама пры дарозе. На ранку працягнулі свой шлях, толькі ўжо з прытухшымі надзеямі і марамі. Усім стала зразумелым чаму камендатуры спатрэбілася так тэрмінова вывозіць вязняў з Мюнхена? Бо на тое была сур’ёзная падстава, пераход савецкіх грамадзян на амерыканскую зону. І каб пазбавіць меўшых намер на пераход такой магчымасці, камандаванне вырашыла людзей проста,як мага хутчэй, вывезці з горада, на падкантрольную савецкім войскам тэрыторыю. Што і зраблі. Разачараванне – разачараваннем, але дадому дабірацца ўсё адно патрэбна.

### *Шлях на Радзіму*

Абмеркавалі і склалі найкарацейшы маршрут руху на Усход. За некалькі дзён шпацыру па шашы пакрытай галькай, чобаты на нагах амаль што ва ўсіх разваліліся. Добра што на дварэ стаяў чэрвень, і летняе цёплае надвор’е дазваляла пра-

цягваць свой шлях басанож уздоўж шашы. На пяты дзень, калі ўжо скончыліся ўсе харчы, змучаныя ўшчэнт людзі нарэшце дакалдыбалі да таго самага гарадка Н., пра які старэйшы аўтакалоны і казаў. Гэта быў нейкі ваенны Аўстрыйскі гарадок непадалёк ад Гальцбурга, на тэрыторыі якога размяшчаліся чатырохпавярховыя будынкі казарменнага тыпу. У якіх савецкая камендатура засяляла на часовае пражыванне былых вязняў перад адпраўкай іх у СССР. Казармы былі дабротнымі, з жалезнымі двух’яруснымі койкамі і матрасамі. Вялікая сталовая была ў асобным будынку. Кармілі ў ёй ужо намнога горш, як ў Мюнхіне. Але хапала, каб не галадаць. У гэтым гарадку сканцэнтравалася дзясяткі тысяч людзей у чаканні сваёй чаргі адпраўкі на Радзіму. Без працы і, увогуле, без ніякіх заняткаў дні цягнуліся вельмі марудна. За межы гарадка выходзіць забаранялася, таму што аўстрыйцы да савецкіх грамадзян былі настроены не з лепшага боку. Былі выпадкі і забойстваў вязняў, калі іх падчас крадзяжу аўстрыйцы лавілі на сваіх падворках. На прыканцы ліпеня дайшла чарга працягнуць шлях дадому і да Лідзіі з Вольгай. І ўжо праз тыдзень яны былі ў Будапешце. Тут зноў перавалачны лагер і зноў доўгія тыдні ў чаканні адпраўкі на савецкую тэрыторыю, ва ўкраінскі Львоў. Тут ўжо адчувалі сябе ў бяспецы. Адносіны балгараў да савецкіх вязняў былі вельмі дабрадушнымі. Ставіліся з паразуменнем і спачуваннем. Давалі вопратку, абутак, частавалі ўсім, што мелі. “Але ж і мы, — кажа Лідзія Дарафееўна, — не хацелі заставацца ў даўгу. З Вольгай дапамагалі балгарам прыбіраць ураджай вінаграда, за што тыя нават былі вельмі ўдзячныя нам за нашу шчырую працавітасць. Балгары прапанавалі не хадзіць у лагер, а пажыць у іх, пакуль там вырашаецца пытанне адпраўкі нас на Радзіму.”

Лідзія з Вольгай больш за два тыдні пражылі ў балгарскай сям’і. Дапамагалі ім па гаспадарцы, усё што толькі было

патрэбна. За тыя тыдні, пакуль жылі ў сям'і балгарына, вельмі зблізіліся. Гаспадар-балгарын, бачыўшы працавітасць беларусак, нават прапаноўваў заставацца на сталае жыццё, гарантуючы ім добрых кавалераў для стварэння сям'і. Прапанова была, безумоўна, цікавая, але душа і сэрца ірваліся на роднае Палессе, у свой Заводны Востраў. У родны куток, дзе нарадзіліся, дзе прайшло дзяцінства і юнацтва. Туды, дзе чакалі іх родныя таты з матулямі, браты і сёстры. Падзякаваўшы гаспадароў за гасціннасць, Лідзія з Вольгай развіталіся са сваімі балгарскімі сябрамі. Дзесьці дваццатага жніўня цягнік з нашымі дзяўчатамі крануўся з Будапешта на Украіну. І толькі напрыканцы месяца прыбыў у Львоў, які за час Другой сусветнай вайны напалову быў зруйнаваны. Тут Еўрапейскі стандарт чыгуначнай каляі сканчваўся і пераходзіў на савецкі, больш шырэйшы. І каб працягнуць рух далей па СССР, у вагонах патрэбна было чыгуначнікам замяніць калёсныя пары. На што спатрэбіліся цэлыя суткі. Ва ўсіх на душы была неабмежаваная радасць, што нарэшце ўжо дома, у СССР. І ў адначассе горкія слёзы залівалі твар ды сэрца разрывалася ад болю, гледзячы на камяны ад спаленых хат ды на зарослыя пустазеллем палеткі. Цягнік ішоў на Кіеў вельмі павольна. Ад нерухомасці зацякалі ногі і, каб іх крышку разварушыць, можна было на хаду без ніякай цяжкасці сысці з платформы і спакойна крочыць побач з ёй.


ВОЛЬГА і ЛІДЗІЯ ЛІТВІНЧУК 1945 ГОД

Вось з якой хуткасцю цягнік вёз дзяўчат з нямецкага палону. І хутчэй за ўсё падставай служыў дрэнны стан чыгункі, бо платформы падчас руху вельмі моцна разгойдваліся. Але, як бы там не было, паціху да Кіева так-сяк дабраліся.

А гэта ўжо лічы, што дома. Таму што Кіеўшчына для Лідзіі і Вольгі таксама былі любы сэрцу не менш, як і беларускае Палессе. Таму што родавыя карані іхнія бяруць пачатак менавіта адсюль. У дзяцінстве некалькі разоў гасцявалі ў сваіх родных пад Белай Цэрквай, у сяле Зубаўшчына. Ды і да свайго Заводнага Вострава ад Кіева заставалася ўсяго толькі сотні дзве кіламетраў. У крайнім выпадку на цяньці і сваім ходам можна было бы ўжо і прайсці. Але такое не спатрэбілася, бо ў бок Ельска шмат усялякіх цягнікоў ішло нават быў пасажырскі. А каб на яго патрапіць, кожны прыбыўшы з палону былы вязень, павінен быў прайсці абавязковы каранцін і падобную да нямецкай, прудзілаўку ад вашэй. Лідзія з Вольгай, каб не марудзіць часу прыладкаваліся на першы папаўшы грузавы, які быў загружаны жалезным ломам ад разбітай ваеннай тэхнікі. Гэты цягнік і давёз нашых дзяўчат да Ельска, нават перавёз кіламетраў дзесяць, бо зруйнаваны горад на той час быў непазнавальным у параўнанні з 1942-ім, калі Лідзія з Вольгай яго пакінулі.

Вярнуўшыся пешшу назад у Ельск, дзяўчаты ўзялі накірунак да роднай вёскі па разбуранай вайной вузкакалейцы. Гэта быў самы кароткі шлях да Заводнага Вострава. Усю дарогу пагрушшы ва ўспаміны, уяўляючы радасную і шчаслівую сустрэчу з роднымі, дзяўчаты быццам бы не ішлі, а на крылах ляцелі ў родны свой куточак. І якім было велізарным расчараваннем, як на даляглядзе, на месцы вясковых хат, тырчэлі толькі абгарэлыя камяны ад печак. А побач з імі дзе-нідзе паўставалі зрубы новага жытла. Усе мары пра лазню, чыстую бялізну ды мяккі ложак з падушкай у момант зніклі, як у тумане. Але не гледзячы на ўсе тыя жахі, якія пасля сябе пакінула вай-

на, сустрэча з роднымі адбылася не менш шчаслівай. Родныя Лідзіі, як і ўсе вяскоўцы,туліліся ў пабудаваным невялічкім склепе, на сваім жа падворку побач са спаленай хатай, у якім Лідзія іх і застала якраз падчас вячэры. Радасці ад сустрэчы не было мяжы ва ўсіх. І нічога дзіўнага гэтаму. Больш за тры гады не было нічога вядома не дзяўчатам пра родных, не родным пра іх. Пагэтаму і нагаварыцца не маглі некалькі дзён, запар. Лідзія распавядала пра сваё зняволенне на Нямеччыне, а родныя пра свае пакуты пад немцам. Лідзія Дарафееўна, каб не ўпусціць самых важных момантаў свайго жыцця, час ад часу спынялася і ў думках вярталася ў той далёкі і трагічны час. Яна па сённяшні дзень не можа адказаць адназначна, хто больш пакутваў падчас вайны? Яна ў зняволенні, на чужбіне, ці родныя на акупаванай лютым ворагам, Радзіме? Але кожны раз усе разважанні пра вайну сыходзілі да аднаго, што там і тут усё было адзіна. Усе хадзілі пад смерцю, якая ўсіх надчэквала на кожным кроку і ў любую хвілінку сутак. Лідзіі Дарафееўне ад родных стала вядома, што пасля таго, як у чэрвені 1942-га яе разам з Вольгай і іншымі вяскоўцамі немцы забралі на работы ў Германію, у вёсцы цэлы год было зацішша.

## *Заводны Востраў пад акупацыяй*



Акупанты баяліся сюды сунуцца, таму што Заводны Востраў цалкам кантраляваўся партызанамі. Але як толькі ў 1943 годзе, па ўсёй Беларусі фашысты разгарнулі маштабную блака-

ду супраць партызанскага руху, партызаны, каб захаваць сваю боездольнасць, вымушаны былі адысці на запасныя пазіцыі, у балотныя нетры. Таму што балотная дрыгва для немцаў, без мясцовых праваднікоў наземным шляхам была недасягальнай. А з паветра партызанскія базы надзейна захоўвалі густапаросшыя балотныя трушчобы. Ашалелыя ад свайго бяссілля адносна партызан, фашысты і іх прыслужнікі ўсю сваю неабмежаваную лютасць распачалі выплёсківаць на безабароннае мірнае насельніцтва. У ліпені 1943-га года на вёску наляцела нямецкая зондэркаманда і вялікі атрад уласаўцаў. “А можа бандэраўцаў?” — перапытаў я ў Лідзіі Дарафееўны. “Не ўласаўцаў, — адказала яна. — Па крайняй меры гэтак іх называлі ўсе вяскоўцы”. Ну ўласаўцы дык уласаўцы, якая ўжо розніцца? Усе яны былі забойцамі сваіх суайчыннікаў. Гэта на іх руках кроў тых, хто не здолеў у той дзень сысці з вёскі ў бяспечнае месца. Пакуль фашысты з разнамаснымі сваімі памагатымі акружалі Заводны Востраў, галоўным чынам, усе яе жыхары, загадзя папярэджаныя вясковай самаахowай, хуценька пакінулі сваё жытло. Засталіся толькі нямоглыя старыя. Азвярэлыя ад чарговай няўдачы фашысцкія нелюдзі, застаўшыхся старых і нямоглых адвязлі ў суседнія Рэмезы і загналі ў будынак, у якім ужо былі людзі. Будынак загадзя быў абкладзены саломай і абліты газай. І як толькі дзверы закалацілі цвікамі, эсэсавец кінуў пад сцяну факел. Будынак імгненна ахапіла полымем, у якім жыўцом былі спаленыя дваццаць шэсць жыхароў Заводнага Вострава і некалькі дзясяткаў чалавек з іншых вёсак. Знішчыўшы ні ў чым непавінных людзей, карнікі спачатку абрабавалі, а пасля спалілі ўсе вёскі, пакінуўшы пасля сябе адно папялішча. Жыхары Заводнага, якія ў той жудасны ліпеньскі дзень выратаваліся ад смерці, схаваўшыся ў лесабалотнай нетры, туліліся да зімы ў шалашах. Так, у шалашах, таму што выкапаць звычайную зямлянку не дазваляла забалочаная

мясцовасць. І толькі з надыходам маразоў перабраліся ў наземныя скляпы-зямлянкі, пабудаваныя з нятоўстых бярвенняў з выглядам двухсхільнага даху і засыпанага зверху пяском. Вось у гэтым жытле вяскоўцы перазімавалі зіму і дачакаліся вызвалення. Пасля чаго, выжыўшыя жыхары Заводнага Вострава, пачалі вяртацца ў спаленую датла вёску, услед перавозячы да сваіх сядзіб лясныя скляпы-зямлянкі. У такім якраз падчас вячэры і застала Лідзія сваіх родных, калі вярнулася з зняволення, а сярод іх яшчэ і "кватаранта" незнаёмца-вайскоўца.

Да гэтага часу калгас ужо набіраў тэмп свайго пасляваеннага адраджэння. Калгасная праца хоць і выматвала вельмі, бо не хапала працоўных рук і цягавай сілы, але ўсіх цешыў мір, спакой і вера ў лепшпую будучыню. Амаль што палова вясковага насельніцтва загінула падчас вайны, хто на фронце, хто ў партызанах, а іншыя сталі ахвярамі канцлагераў і крывавых блакад. Але не гледзячы на ўсе цяжкасці, Заводны Востраў паціху падымаўся з папялішча на ногі. І не толькі вёска з калгасам адраджаліся, аднаўляліся ляспрамгас, а разам з ім і вузкакалейка, якая ўсім была вельмі патрэбная. А для яе аднаўлення ў Заводны Востраў быў накіраваны ўзвод вайсковых чыгуначнікаў, якія жылі ў альтанках на канцы вёскі. Акрамя работы на чыгунцы, вайскоўцы ў вольны час не адмаўлялі ў дапамозе і калгаснікам.

## *Уладзімір Мушавец*

Адзін з іх, радавы Мушавец Уладзімір, узяў пастаяннае шэфства над сям'ёй інваліда Дарафея Сцепанчука, таты нашай Лідзіі Дарафееўны. Якога яна і застала сярод сваіх родных у самы першы дзень вяртання з чужбіны дадому. Уладзімір дапамагаў Дарафею, галоўным чынам, па цяслярскай справе. Гэтае рамясло яму было знаёма з дзяцінства, таму што нарадзіўся і вырас у сям'і селяніна з Заходняй Беларусі. Пасля знаём-

ства паміж Лідзіяй і Уладзімірам неяк адразу завязалася сяброўства. Але не паспелі як след разнаёміцца, Лідзію і яе сяброўку Вольгу як вязняў фашысцкіх лагераў выклікалі ў райцэнтр для рэгістрацыі. Гэтую рэгістрацыю патрэбна было зрабіць адразу ў дзень прыезда. Дзяўчаты ішлі ў Ельск моцна ўсхваляваныя, боязна было атрымаць яшчэ якое-небудзь пакаранне за тыднёвае спазненне, але хто ж ведаў тыя тэрміны рэгістрацыі? У аддзеле рэгістрацыі, пасля запаўнення адпаведнага бланку, ніхто нічога не сказаў. Толькі спыталі: ці мае хто якія прафесіі? Даведаўшыся, што Лідзія Дарафееўна перад вайной скончыла два курсы настаўніка пачатковых класаў, ёй загадалі зайсці ў Ельскі раённы аддзел адукацыі. У аддзеле, Лідзіі адразу ж выдалі накіраванне на працу настаўніцай пачатковых класаў у Двіжскую сямігодку. Вёска Двіжкі знаходзілася якраз на паўдарогі ў напрамку Заводнага Вострава. І калі на зваротным шляху яе праходзілі, Лідзія вырашыла зайсці ў школу, каб даведацца, калі ёй прыступаць да працы. Але не тут так было… Дырэктар школы патлумачыў: "Верасень ужо даўно на вуліцы, а настаўнікаў вялікі недахоп, няма каму вучыць дзяцей. Пагэтаму патрэбна неадкладна заступаць да сваіх абавязкаў. І не якіх супярэчнасцяў! — сказаў, як адрэзаў дырэктар. — Жытло ёсць, сталоўка ёсць, а дахаты


МУШАВЕЦ У.М. 1947 ГОД

ў нядзельку сходзіш.” Справа была сярод тыдня, але дзявацца не было куды. Загад ён і ёсць загад. А ў той час дысцыпліна была ваенная. За непадпарадкаванне начальству і да бяды было недалёка. Лідзія папрасіла сваю сястру Вольгу, якая яе надчэквала ў школьным двары, каб тая патлумачыла тату, чаму Лідзія да хаты раней нядзелі не прыйдзе.Тры першыя працоўныя дні праляцелі імгненна, бо яны цягнуліся амаль поўны светлавы дзень. А ў суботу, выходзячы пасля заняткаў са школы, Лідзія ў двары ўбачыла свайго сябра Уладзіміра. Ад нечаканасці, Лідзію ад хвалявання затрэсла як у ліхаманцы, ногі пачалі падкашвацца. Яна падбегла да Уладзіміра і сходу задала пытанне: “А што здарылася?! З татам што ці з матуляй?” А той спакойна адказвае: “Ды нічога… Вось за табой прыехаў.” Лідзія, уздыхнуўшы з палёгкай, адразу запытала, як і на чым ён прыехаў? Уладзімір не стаў нічога тлумачыць, спаслаўшыся на тое, што зараз яна сама ўбачыць. Так як Лідзіі збіраць з сабой не было чаго, то яна з Уладзімірам адразу падалася ў бок вузкаклейкі. Там іх надчэквала механічная дрызіна, на якой і прыехаў Уладзімір.


МАСТОК І ДАМБА БЫЛОЙ ВУЗКАКАЛЕЙКІ

Вузкакалейная чыгунка да таго часу была амаль адноўлена. Цягнік па ёй пакуль што не пускалі, але на дрызіне можна было ўжо ехаць. Маладыя сустракаліся кожны выходны, бавячы вольны ад службы час, заўжды разам. Лідзія шмат чаго даведалася

ад Уладзіміра пра яго малую радзіму і пра яго выпрабаванні вайной. І тады яна заўважыла, што лёсы іхнія маюць вельмі шмат падабенства. Гэта маладых зблiжала і яшчэ больш умацоўвала іх сяброўства. Дзесьці на прыканцы кастрычніка вузкакалейка вайскоўцамі была адноўлена і таксама быў паднятаы і пастаўлены на рэйкі нямецкі паравоз, які быў спушчаны з рэек Ельскім партызанскім атрадам на прыканцы 1942 года. Выканаўшы пастаўленую задачу, гэтая вайсковая часць, у якой праходзіў службу Уладзімір, памяняла месца сваёй дыслакацыі кудысьці пад Брэст. Нягледзячы на часовае разлучэнне, маладыя не гублялі аптымізму і веры на хуткую сустрэчу. Уладзімір служыў, а Лідзія вучыла дзетак і не толькі пачатковых каласаў, але ў дадатак вяла беларускую мову і літаратуру ў шостым і сёмым класах. Вучыла іншых і сама вучылася завочна на трэцім курсе ў Мазырскім настаўніцкім вучылішчы. Ад працоўнай загружанасці час пралятаў непрыкметна. Толькі позна ўвечары Лідзія магла крыху расслабіцца і адказаць на рэгулярныя лісты ад Уладзіміра. У якіх ён распавядаў пра свой лёс, пачынаючы яшчэ з-за польскага часу.

### *Ад сяброўства да кахання цераз ліставанне*

Лідзія з захапленнем па некалькі разоў перачытвала атрыманыя ад свайго сябра лісты, змест якіх з кожным разам усё больш і больш дапаўняў падабенства іх лёсаў, што і радніла маладыя сэрцы. З перапіскі Лідзія ўсё больш і больш даведвалася пра Уладзіміра. А менавіта тое, што ён з Заходняй Беларусі.

А нарадзіўся якраз у самы пераломны гістарычны час, пасля кастрычніцкага ваеннага перавароту ў Расійскай імперыі. У 1918 годзе, калі ў роднай вёсцы Асавец, ужо гаспадрыла кайзераўская Германія. А ў 1921-ым яе змяніла панская Польшча. Бацька Уладзіміра Міхаіл Іванавіч пасля вяртання з Першай сусветнай вайны моцна хварэў. І ў 1924 годзе, калі Уладзіміру




ішоў сёмы гадок, памёр ад сухотаў. Трохгадовае акопнае жыццё і газавыя нямецкія атакі зрабілі сваю чорную справу. Маці, Юсціна Яфімаўна, паднімала дзетак сама. Нават Уладзімір здолеў скончыць чатыры польскія класы. Рос працавітым, бо памятаў як яму, шасцігадоваму хлапчуку, яшчэ пры сваім жыцці тата тлумачыў пра цяслярскую справу. У пятнаццацігадовым узросце Уладзімір, як самы старэйшы сярод дзяцей, узваліў на свае юнацкія плечы абвязкі гаспадара. Зямлі мелі не шмат і толькі з яе пражыць было немагчыма, патрэбны былі іншыя падпрацоўкі. Праз некалькі год, як меншыя падраслі, Уладзімір уладкаваўся ў Маладзечне на хлебапякарню. Працуючы на ёй, Уладзіміру пашчаціла. Як першага верасня 1939-га года фашысцкая Германія распачала акупацыю Польшы, яго не мабілізавалі ў Войска Польскае. А таксама мінула ліха трапіць і на фінскую вайну ўжо ў складзе Чырвонай Арміі, якая пасля 17-га верасня цалкам авалодала Заходняй часткай Беларусі. На прыканцы 1940-га Уладзімір усё ж быў прызваны на вайсковую службу РСЧА. Ён быў залічаны ў будаўнічы батальён, які фармаваўся ў Вілейцы. У склад батальёна ўваходзілі, галоўным чынам, сяляне-аднаасобнікі. Беларусы складалі больш за дзве трацiны, а астатнія былі палякі, яўрэі, рускія, літоўцы, агульнай колькасцю каля тысячы навабранцаў. Камандны склад быў мабілізаваны з запаснікоў з Віцебскай вобласці.

Таму што афіцэрам-заходнікам з боку савецкага камандавання не было даверу. Сфармаваны, але не абмундзіраваны батальён адразу перакінулі на Беласточчыну на будоўлю “Лініі Молатава” ўздоўж мяжы з Усходняй Прусіяй. Праз паўтара месяца батальён знялі з будоўлі памежных збудаванняў і перакінулі за Ваўкавыск, у мястэчка Зельва, на будоўлю аэрадрома. Па прыбыцці на месца батальён нарэшце пераапранулі ў чырвонаармейскую форму, якая ў большасці апынулася непрыдатнай, але ў хуткім часе яе замянілі на новую з вайсковага склада, які знаходзіўся ў Зельвенскім былым млыне. Па прыбыцці на аэрадром батальён адразу прыступіў да сваіх абавязкаў. Спачатку будавалі баракі пад казармы, для прыбываючых атрадаў зняволеных і ваенных будаўнікоў з усходняй часткі Беларусі. А таксама для роты аховы НКУС, якія ахоўвалі як зняволеных, так і будаўнічую пляцоўку, на якой поўным ходам ішла будоўля. Аэрадром планавалася цалкам пабудаваць да восені 1941-га года.


ДАВАЕННЫ АЭРАДРОМ

У чэрвені месяцы ўжо была заліта бетонная ўзлётна-пасадачаная паласа, даўжынёй больш кіламетра і ў шырыню каля дваццаці метраў. Яе ўжо апрабавалі некалькі ваенных самалётаў, зрабіўшы на яе першыя пасадкі. 22-га чэрвеня ў нядзельку на ранку ў казармы ад мясцовых жыхароў дайшлі чуткі, што распачалася вайна. Ваеннаслужачым і зняволеным было загадана не пакідаць распалажэнне

баракаў. Бліжэй да поўдня кіраўніцтва будоўлі сабрала вольнанаёмных будаўнікоў на мітынг прама на ўзлётнай паласе. Падчас якога ў 12 гадзін дня па радыё В.М. Молатаў абвясціў аб вераломным нападзе Германіі на СССР. Мітынг яшчэ працягваўся, калі з-за леса на малой вышыні паказалася цэлая эскадрылля самалётаў. Людзі ў разгубленасці стаялі ў нерухомасці і назіралі, як самалёты з чорнымі крыжамі на крылах станавіліся ўсё бліжэй і бліжэй да іх. Апамяталіся толькі пасля таго, як фашысцкія лётчыкі адкрылі па мітынгоўцам кулямётны агонь. Народ, як па камандзе, пачаў разбягацца ў розныя бакі, шукаючы паратунку ад смерці. А самалёты, развярнуўшыся, зноў і зноў палівалі свінцом людзей. Асабліва дасталося тым, хто быў у дасчатых бараках, бо іх кулямётныя кулі прашывалі наскрозь, як іголкамі.

Пасля налёту кіраўнікам будоўлі, нейкім чынам, атрымалася звязацца з вышэйшым кіраўніцтвам у Баранавічах. Пасля даклада пра забітых і параненых роце НКУС паступіў загад пакінуць будаўнічую пляцоўку і ўзяць пад ахову стратэгічныя аб'екты ў мястэчку Зельва. А галоўнаму інжынеру загадалі працягваць будоўлю. Толькі будаваць не атрымалася, таму што над аэрадромам пастаянна кружыў нямецкі самалёт-разведчык (рама). І як толькі на паласе з'яўляліся будаўнікі, ужо праз некалькі хвілін на яе наляталі нямецкія знішчальнікі і кулямётнымі чэргамі заганялі ўсіх у бомбасховішча. Уначы фашысты таксама з паветра трымалі пад кантролем аэрадром. Над ім пастаянна завісалі на парашутах асвятляльныя ракеты, ад якіх было бачна, як днём. Паводзіны немцаў былі зразумелыя. Яны, такім чынам, намагаліся захаваць аэрадром для далейшага свайго выкарыстання. І ім гэта ўдалося толькі таму, што савецкім ваенным будаўнікам не было чым не тое што знішчыць паласу, але нават хоць як- небудзь яе пашкодзіць. Бо ўвогуле не мелі аніякага ўзбраення, не кажучы ўжо пра выбухоўку. І толь-

кі на наступны дзень, 23 чэрвеня, на два будаўнічыя батальёны было атрымана з паўсотні трохлінеяк і скрыня патронаў да іх. Гэта зброя была ўручана ваенным будаўнікам з Усходняй часткі Беларусі, бо заходнікам не было даверу. З Баранавічамі сувязь была зусім дрэннай, а бліжэй да вечара, цалкам была страчана зусім. У той час з боку Ваўкавыска, з гэтак званай Беластоцкай Выспы, пацягнуліся калоны ўцекачоў і траспарт з параненымі да пераправы цераз невялікую, але моцна забалочаную рэчку Зельвянку. У бараках і ў межах узлётнай паласы заставацца было небяспечна, бо нямецкія знішчальнікі хоць ужо радзей, але рабілі налёты на аэрадром. Пагэтаму паступіла каманда ўсім сысці далей ад аэрадрома ў лес, з якога добра было відаць мястэчка Зельва і пераправа праз Зельвянку. Кароткая чэрвеньская ноч цягнулася быццам бы цэлую вечнасць. Усім было не да сну, кожны быў пры сваіх думках. На ранку, як ужо зусім развіднелася, высветлілася, што двухтысячная групоўка будаўнікоў паменшыла колькасна на добрую траціну. А цераз пераправу на Зельвянцы ўжо разам з насельніцтвам рухаліся адступаючыя калоны савецкіх вайскоўцаў і тэхніка. У нейкі момант у небе паявіліся намецкія бамбардзіроўшчыкі ў суправаджэнні знішчальнікаў. Той жах, які распачаўся на пераправе і ў мястэчку падчас налёту, пераказаць словамі проста немагчыма. Нават на двухкіламетровай адлегласці, ад бесперапынных узрываў бомбаў закладала вушы, і зямля пад нагамі калыхалася, як падчас землятрусу. Узрывы бомбаў падымалі ў паветра слупы






зямлі, тэхніку, масты. Мястэчка ахапіў паўсюдны пажар. Жудасныя душараздзіральныя людскія енкі і крыкі, зводзілі ў бяспамяцтва. Густы дым ад пажарышчаў цалкам праглынуў Сонца. Здавалася, што ў тым пекле не засталося нічога цэлага і жывога. Калі скончылася бамбаванне і фашысцкія каты беспакарана зляцелі, патрэбна было вызначацца: што рабіць далей? І галоўны інжынер будаўніцтва прыняў рашэнне... Ваенных будаўнікоў з Заходняй Беларусі, распусціць па хатах. А ўсходнікам і зняволеным, рухацца на Усход самастойна. Да пераправы рухаліся ўсе разам. А калі да яе дакрочылі паўстала карціна з назвай “Не давядзі Божа”! Мястэчка ўсё палыхала, паўсюдна спаласаваная бомбамі зямля была сплашняком ўсланая акрываўленымі чалавечымі целамі і іх астанкамі. Параненыя енчылі просячы дапамогі, але дапамагчы ім ніхто не мог. Каму пашчасціла выжыць у тым пекле прабіраліся да адзінага ўцалелага толькі чыгуначнага маста. Вакол вялікае скапленне разбітай ваеннай савецкай тэхнікі, замінала руху адступаючым вайскоўцам і мірным уцекачам. Перабіраліся на ўсходні бераг, як хто мог. Апынуўшыся на тым баку, не марудзячы часу, будаўнікі рушылі кожны ў сваім накірунку, як мага далей ад убачанага і перажытага. Усходнікі — на Усход, а заходнікі-вілейчукі ўзялі накірунак на Поўнач. Перабраўшы рэчку Шчару, а за ёй Ліпічанскую пушчу, выйшлі да Нёмана.

Вось гэтак у сваіх лістах Лідзіі Уладзімір распавядаў пра сваё даваеннае жыццё. Але не мог Уладзімір не распавясці Лідзіі і пра далейшы свой лёс, які быў моцна падобны да яе лёсу. Бо падчас ліставання ўсё больш і больш высвятлялася, што яны прайшлі па адной той самай дарозе вайны,толькі ў розны час і з невялікім інтэрвалам. Не мог, канешне, Уладзімір не ўспомніць, як з Зельвы дабіраліся дахаты. А шлях быў таксама не з лёгкіх і смяротнанебяспечны. Шмат землякоў прыйшлося пахаваць на будаўнічай пляцоўцы, а пасля па дарозе дадому. Больш правільна будзе сказана на бездарожжы дадому. Таму што спачатку ішлі па адкрытай мясцовасці, а пасля па Нёманскаму хмызняку. Але як бы не хаваліся, наляцеўшым знянацку фашысцкім знішчальнікам раз-пораз удавалася абнаружваць калону, якую ва ўпор безлітасна растрэльвалі з кулямётаў. Асабліва шмат загінула пры першым налёце, бо рухаліся адным натоўпам і гэта памылка паслужыла навукай. Пасля той трагедыі, якая забрала сотні паўтары жыццяў, калона падзялілася на группы, па сорак-пяцьдзясят чалавек і, трымаючы дыстанцыю адна за адной, працягнулі рух у накірунку Налібокскай пушчы. У мястэчку Любча, у якім немцы яшчэ не пабывалі, падсілкаваўшыся ў мясцовых сялян, перабраліся на другі бераг Нёмана.

## *Цераз Налібокі ў Асавец*

Там ужо адны пайшлі ў накірунку Смаргоні, цераз Бакшты, а іншыя, у тым ліку і Уладзімір, цераз Налібокі ў бок Івянца. Каб не нарвацца на немцаў, якія гаспадарылі ўжо паўсюдна, у вёскі не заходзілі, а рухаліся па ўзлеску Налібокскай пушчы, якая заставалася з левага боку. Пакінуўшы Івянец далёка справа, група пачала рассявацца, кожны браў найкарацейшы накірунак дадому. Уладзімір і яшчэ некалькі чалавек рушылі нацянькі балотамі на Гарадок, ад якога дадому заставалася рукой

падаць. Але пакуль да таго рукой падаць, патрэбна было пераадолець балота. І каб не мясцовыя жыхары, якія паказалі шлях праз грэблю, то хутчэй за ўсё ў тым балоце ўсе б і згінулі.




Але з людской і Боскай дапамогай хоць у канец стомленыя, перабраліся на супрацьлеглы бок усе. На першым патрапіўшым хутары жыхары папярэдзілі, што Гарадок заняты немцамі, а таксама Відзеўшчына і Краснае. Хутаране аднесліся са спагадай да сваіх ваенных землякоў. Накармілі, далі магчымасць апаласнуцца ў лазні, пераапранулі ў цывільнае і пакінулі на адпачынак на ноч. А ўжо на ранку, падзякаваўшы гаспадарам, Уладзіміравы спадарожнікі падаліся на Алёхнавічы, а Уладзімір, каб не наткнуцца на немцаў, апошнюю 35-ці кіламетроўку пераадольваў узлескамі. Спачатку дабраўся да Плябані, а там, мінуўшы Малашкі, ужо бліжэй да вечара апынўся ў сваім родным Асаўцы. Радасці ад сустрэчы не было мяжы не толькі сярод родных, але і сяльчанаў. Бо Уладзіміра, не гледзячы на яго маладосць ў сяле, вельмі паважалі як цудоўнага цесляра. Больш тыднёвы двухсоткіламетровы шлях па лясах і балотах, фактычна без ежы, даваў пра сябе знаць. Уладзімір моцна знямоглы, ледзь трымаўся на сцертых да крыві нагах. Пасля кароткай гутаркі, ён праваліўся ў глыбокі сон, які зацягнуўся амаль што на суткі.

Пасля Уладзімір даведаўся, як вайна прыйшла ў Асавец. Сяльчане распавялі, што ўжо на трэці дзень вайны 25 чэрвеня, асаўлянам дайшлі чуткі, што нямецкія войскі паходным мар-

шам рухаюцца на Мінск, праз суседняе мястэчка Краснае. Усім не верылася, што такое магчыма і таму лічылі, што гэта хлуслівыя звесткі польскіх шпіёнаў-правакатараў. Бо былі ўпэўнены ў магутнасць Чырвонай Арміі, якая два гады таму, 17 верасня 1939 года, амаль без адзінага стрэлу прагнала Войска Польскае з беларускай зямлі. Але ўсё спраўдзілася ўжо на наступны дзень, калі на вуліцы Асаўца сяльчане на свае вочы ўбачылі ўзброеных чужынцаў на матацыклах. З таго дня ў сяле была абвешчана чарговая, за няпоўныя два гады трэцяя ўлада, на гэты раз нямецкая. Асаўлянам нічога не заставалася, як падпарадкавацца новаму парадку. Не лезці ж бессэнсоўна жыўцом у магілы! Час ішоў, кожны завіхаўся на сваіх надзелах. Пасля жніва і бульбакапання, пачаўся пасеў збажыны азімай ды ўсе астатнія восеньскія звычайныя сялянскія клопаты. Сабраны ўраджай, які не паспелі прыхаваць, немцы са сваімі памагатымі, якія і ў Асаўцы знайшліся такія як Раман (Л), выграблі падчыстую. А яшчэ ў дадатак мужыкі павінны былі працаваць на лесанарыхтоўках і на іншых работах у Красным. На чыгуначнай станцыі чыгуначнікамі, грузчыкамі на ўсялякіх шматлікіх складах, у тым ліку і на ваенных .

У пачатку 42-га ў навакольных лясах пачалі арганізоўвацца партызанскія атрады. Яны наладзілі сувязь з асаўлянскімі мужыкамі, якія працавалі ў немцаў у Красным. Уладзімір працаваў на лесанарыхтоўках у лясным масіве за Раёўкай. Там жа ў лесе і перадаваў партызанскаму сувязному, Есмановічу (Пётрачку) аб'езчыку леса разведдадзеныя і нават зброю з патронамі, здабытую асаўлянскімі рабочымі з нямецкіх складоў. І гэтак на працягу двух гадоў. Асаўляне хоць і трымалі ў вялікім сакрэце, сваю сувязь з партызанамі, але ў 1943-ім немцы ўсё ж іх западозрылі ў той сувязі. Пачаліся частыя наезды на сяло і слежкі. Напрыканцы лета заўважыў і Уладзімір за сабой слежку. І як толькі не канспераваўся, усё роўна

ў немцаў з’явіліся хоць ускосныя, але звесткі пра яго дачыненне да партызанскай дзейнасці.

### *Фашысцкія лагеры смерці*

27 верасня 1943 года Уладзіміра Міхалыча затрымалі непадалёк ад Краснага, у вёсцы Ракуцёўшчына. У той дзень у гэтай вёсцы ён павінен быў сустрэцца з чалавекам з разведдадзенымі для партызанаў. Каб адвесці ад сябе падазронасць, Уладзімір у Ракуцёўшчыне спачатку зайшоў да шаўца Паўловіча, каб той перашыў старыя боты для малодшага брата. Шавец быў вельмі гаваркім мужычком, і таму Уладзімір вымушана затрымаўся. Тая затрымка хутчэй за ўсё для Уладзіміра апынулася паратункам ад смерці. Бо калі ён выйшаў ад Паўловіча і накіраваўся да месца сустрэчы, то заўважыў незнаёмца ў акружэнні немцаў і паліцаяў. Уладзімір, не прыпыняючыся і не падаючы выгляду, у разгубленасці паспрабаваў прайсці далей па дарозе, але немцы загадалі спыніцца. Пасля падвялі да затрыманага незнаёмца і запыталі: ці ведае ён таго? Адказ Уладзіміра, канешне, быў адмоўны, бо на самой справе не ведаў, хто прыйдзе на сустрэчу. У такіх мэтах прымяняліся паролі. Нават калі чужынец назваў сапраўдны пароль, Уладзімір увогуле зрабіў зусім незразумелы выгляд. У немцаў падазронасць усё адно не адпала, і яны Уладзіміра затрымалі і адвязлі ў Маладзечна ў Кшталанг. А цераз некалькі дзён пераправілі ў Мінск на Валадарку ў ГЕСТАПА. На нечалавечых допытах Уладзімір падвяргаўся жудасным катаванням. Ён цудоўна разумеў, калі прызнаецца, то смерці яму не мінаваць. І Уладзімір трымаўся да апошняга, прайшоўшы цераз усе пакуты, што і выратавала яму жыццё. Пасля двухтыднёвых катаванняў, допыты спыніліся. З адзіночнай камеры Уладзіміра Міхалыча, зусім знясіленага перавялі ў агульную, у якой было некалькі дзясяткаў такіх жа зняволеных. Там, упер-

шыню за два тыдні, пакармілі нейкай бурачнай пахлёбкай. Праз некалькі дзён Уладзіміра з іншымі зняволенымі загрузілі ў вагоны-цялятнікі і цягніком адправілі на Захад. Як пасля вайны высветлілася па тым самым маршруце, па якім прайшла і Лідзія толькі годам раней. Спачатку




ў Польскі Асвенцым, адтуль у Германію пад Мюнхен у канцлагер Дахаў. Бог мілаваў Уладзіміра і ён патрапіў у працоўны лагер №8, а не лагер смертнікаў, у які накіроўвалі знясіленых за дарогу і хворых зняволеных. Прайшоўшы ўсе лагерныя працэдуры, Уладзіміра перавезлі з Дахаў у Мюнхен на тую ж самую працоўную біржу “Arbeitsamt”, у якой годам раней пабывала і Лідзія Дарафееўна. І тут Уладзіміру зноў пашчасціла, яго як прафесійнага хлебапёка адправілі працаваць на хлебазавод. На заводзе адносна харчаванне, безумоўна, было лепш у параўнанні з іншымі аб’ектамі, але ўсё адно за самавольна ўзятую скарыначку хлеба мог бы моцна паплаціцца. І Уладзімір не рызыкаваў. Калі толькі, носячы мяхі з мукой, улучаў момант, каб жменю якую той самай мукі сухой у рот закінуць. Праз нейкі час перавялі Уладзіміра ў цэх па выпечцы хлеба памочнікам майстра. Ужо сталага ўзросту немец ставіўся да Уладзіміра больш-менш па-чалавечы.

Але хутчэй за ўсё не таму, што па жыцці спагадлівы, але таму як і шматлікія немцы, нават ахоўнікі пачалі задумвацца пра сваю будучыню, бо вайна ўжо грукатала на Германскай мяжы. Так на гэтым заводзе Уладзімір і дачакаўся свайго вызвалення. Калі прыйшла савецкая Армія, Уладзіміра адразу там жа ў Мюнхене залічылі ў будаўнічы батальён, які быў сфарміраваны ў сярэдзіне мая з такіх жа вязняў як і ён. У складзе таго батальёна Уладзімір быў адпраўлены ў СССР на адраджэнне народнай гаспадаркі. І ўжо ў пачатку ліпеня Уладзімір Міхалыч Мушавец са сваім батальёнам патрапіў на Мазыршчыну, на аднаўленне вузкакалейкі Махнавічы-Ельск. Палявы батальённы лагер размясціўся на ўскрайку вёскі Заводны Востраў, непадалёк ад якой і пралягала вузкакалейка. А ўжо ў верасні там жа, як нам ужо вядома, Уладзімір Міхалыч і пазнаёміўся з Лідзіяй Дарафееўнай Літвінчук. З якой пасля перадыслакацыі батальёна ў іншае месца, завязалася рэгулярнае ліставанне. Падчас якога маладыя дэталёва даведаліся адзін пра аднаго. І ўжо да жніўня 1946 года знаёмства перарасло ў моцнае каханне.

### *Як і абяцаў, заехаў і забраў*

У сярэдзіне жніўня Уладзімір, дэмабілізаваўшыся з войска, як і абяцаў сваёй каханай адразу заехаў да яе ў Заводны Востраў, каб забраць да сябе, на малую радзіму, у вёску Асавец. Лідзія, безумоўна, не была супраць, а вось родным такое рашэнне было вельмі не даспадобы. Бацьку, Дарафею Андрэевічу, было вельмі самотна зноў развітвацца з любімай дачкой на доўгі час. Ды і з Заходняй неспакойнай Беларусі даходзілі не зусім добрыя чуткі. Бо ў заходнебеларускіх лясах яшчэ шмат існавала розных антысавецкіх узброеных груповак. Пра гэта пацвярджаў у сваіх лістах са службы і стрыечны брат Лідзіі, Мікалай Старавойтаў. Гэта той самы Мікалай, які ў самым пачатку вайны перадаў Лідзіі мясцовую краму. Тавары з якой па

загаду партактыву, Лідзія вывозіла ў лес, на загадзя падрыхтаваныя партызанскія базы.

Сам жа Мікалай тады спачатку падаўся ў Махнавічскі партызанскі атрад. А пасля, як немцы яго разбілі, перайшоў у атрад імя Сабурава. У якім і адваяваў да дня вызвалення Мазыршчыны ад фашысцкіх захопнікаў. Пасля чаго ўсіх бояздольных байцоў-партызан мабілізавалі каго на фронт, а каго ў атрады НКУС, для зачысткі парэшткаў нямецкіх злучэнняў,



МУШАВЕЦ Ю.Я. і М.І. 1920 ГОД

якія, патрапіўшы ў акружэнне Чырвонай Арміі, спрабавалі малымі групамі прарывацца да сваіх адступаючых галоўных сіл вермахта. А яшчэ паліцаяў, уласаўцаў ды бандэраўцаў, якім бегчы не было куды, і яны паасядалі ў лясах і балотах. Мікалая, як мясцовага і тым больш тут партызаніўшага, без ніякай альтэрнатывы адразу ж накіравалі ў знішчальны атрад НКУС. Атраду была пастаўлена задача: вычышчаць ад тых здраднікаў спачатку палескія лясы і балоты, а пасля на Захадзе Украіны. Улетку 1949-га Мікалай Дзянісавіч, дэмабілізаваўшыся з НКУС, адразу вярнуўся ў свой родны Заводны Востраў, на даваенную сваю працу, загадчыкам наноў адбудаванай крамы. Але тады, яшчэ тры гады таму Мікалай, ведаючы не па чутках пра нестабільны спакой у Заходняй Беларусі, куды гэтак імкнулася Лідзія, усяляк у сваіх лістах да яе спрабаваў затрымаць сястру хоць на гадок ад пераезду, але ўсё дарэмна. Каханне апынулася мацней

за ўгаворы. Сабраўшы ў невялічкі чамаданчык увесь свой дзявоцкі гардэроб, Лідзія са сваім каханым усё ж рушыла ў няблізкую дарогу, зноў у чужы край, але які для яе стане другой малой радзімай. Пакуль ехалі цераз усю Беларусь, сардэчны боль усю дарогу не прыціхаў не на хвілінку, гледзячы на разбураныя вайной гарады і мястэчкі. Паўсюдна на месцах спаленых вёсак тырчэлі ў неба толькі камяны ад печак. Дзе-нідзе ўзводзіліся зрубы новых хат. У падобным выглядзе маладых сустрэў і Асавец. Вёска таксама была спаленая амаль цалкам. Акрамя гэтага вайна забрала жыцці ў паўсотні яе жыхароў, у тым ліку і жыццё матулі Уладзіміра.Вось толькі некаторыя з іх: БАКАЧЭЎСКІ Тодар, загінуў на фінскім фронце ўвосень 1939-га года (дакладнае месца пахавання невядома); КАРЭНЬКА Пётр Андрэевіч (1922г.н.) з суседняй вёсачкі Чарты, таксама загінуў восенню 1939-га года ў Карэліі. Іх, яшчэ зусім жаўтаротых юнакоў, мабілізавалі ў РСЧА праз тры тыдні пасля яе прыходу ў Заходняю Беларусь. Юнакі без ніякай ваеннай падрыхтоўкі былі накіраваны прама на вайну з фінамі, дзе ў першых жа баях і склалі свае жыцці. Ураджэнец Асаўца, ФАЛЯКОЎСКІ Станіслаў 02.11.1922 г.н., таксама юнаком быў мабілізаваны ў пачатку верасня 1939 года, але толькі ў Войска Польскае. Пад Ашмянамі трапіў у савецкі палон. Быў асуджаны і адпраўлены ў ГУЛАГ. Пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў 1941-ым з ГУЛАГу патрапіў стральцом у 2-гі польскі корпус Арміі генерала Андэрса. Загінуў 02.08.1944-га пад Монта-Касына, пахаваны ў г. ФЕРМО (Італія). БАКАЧЭЎСКІ І.М. загінуў на фронце (невядома дзе). БАКАЧЭЎСКІ Ф.М., прапаў без вестак у 1944 г., КАРЭНЬКА Пётр 1914 г.н., загінуў на фронце (невядома дзе). МАНЬКОЎСКІ М.П. загінуў у 1945 г. у Венгрыі. МІХАЛЮК І.П., загінуў у 1944 г. (невядома дзе). МУШАВАЕЦ А.В., прапаў вез звестак пад Масквой. ПАДВЫСОЦКІ А.І. загінуў у 1945 на р. Дунай. ПАДВЫСОЦКІ М.А. загінуў у 1945 г. у Берліне. ПАДВЫСОЦ-

КІ Павел загінуў у 1945 г. у Берліне. ПАДВЫСОЦКІ С.Ц. загінуў у 1945 у Германіі. ХАРЫТОН І.І. загінуў у 1945 годзе, ва Усходняй Прусіі.

Сяргею Мушаўцу у пачатку 42-га, пайшоў васемнаццаты год калі яго як сумленнага і надзейнага мясцовага хлопца,тым больш камсамольца партызанскае камандаванне накіравала на падпольную работу ў Краснае. У гэтым мястэчку была размешчана вялікая нямецкая база боепрыпасаў, на якую і ўладкаваўся Сяргей. Ён дабываў партызанам не толькі важныя звесткі, але і боепрыпасы. Праз нейкі час да Сяргея далучыліся браты Бакачэўскія Раман і Рыгор. Справы сталі ладзіцца. У хуткім часе на склады пайшлі працаваць і іншыя аднавяскоўцы: браты Аляксей і Рыгор Мушаўцы, Уладзімір Бакачэўскі, Уладзімір Мушавец. Шмат боепрыпасаў было перапраўлена партызанам, у тым ліку праз нашага Уладзіміра Міхалыча. Але толькі пасля вайны Уладзімір даведаўся, што тады 27 верасня 1943 года ў Ракуцёўшчыне немцы яго схапілі па даносу мясцовага здрадніка, асаўлянскага старасты — Рамана (Л).

А праз няпоўны месяц 20 кастрычніка 1943 вынік той здрады меў вельмі трагічны працяг. У шэсць гадзін раніцы ўсіх жыхароў Асаўца сагналі да царквы і ўчынілі допыты. Але не гледзячы на моцныя катаванні, ні адзін чалавек не выдаў месцазнаходжанне партызанаў. Ведалі пра партызанаў і Станіслаў Мушавец і Ганна Бакачэўская і Марыя Мушавец, Юсціна Яфімаўна Мушавец і іншыя. Так і не даведаўшыся нічога, фашысты адвялі жанчын у гумно і зачынілі. Рыгора Бакачэўскага, Уладзіміра Бакачэўскага, Антона Канановіча, Аляксея Мушаўца, Міхаіла Мушаўца, Рыгора Мушаўца, Уладзіміра Мушаўца, Міхаіла Радзевіча немцы чамусьці растралялі кожнага ў сваёй хаце. Мушавец Фёдар Пятровіч, шаснаццацігадовы партызанскі праваднік, загінуў юнак каля Івак, прыкрываючы адыход партызанаў-падрыўнікоў з брыгады імя Фрунзе. Выдаў партызанаў




немцам таксама мясцовы жыхар з Івак. Фёдар добра ведаў таго дзядзьку (К) і пагэтаму менавіта да яго і папрасіўся з падрыўнікамі перасядзець дзень, каб увечары рушыць на чыгунку, да якой заставалася вярсты дзве. Гаспадар пагадзіўся і загадаў на ўсялякі выпадак схавацца і паспаць на гарышчы. А сам ціхенька сышоў у Малашкі і далажыў немцам. Партызаны амаль сваечасова аддчулі няладнае і, калі спусціліся з гарышча ў падворак, пачуўся матацыклетны гул. Выхад быў толькі адзін, цераз агарод у жытнёвае поле. Фёдар, узброены аўтаматам, застаўся за агародам прыкрываць адыход падрыўнікоў з выбухоўкай. Як толькі немцы пад'ехалі на ўпэўнены выстрал, юнак застракатаў па іх са шмайсера. Двое немцаў на першым матацыкле так і засталіся ляжаць нерухома. А астатнія пасаскаквалі з матацыклаў і заляглі ў траве. Немцы нават і не стралялі ў адказ, бо бесперапынная чарга з Фёдаравага шмайсера прыціскала іх да зямлі. І толькі калі аўтамат змоўк, Фёдар азірнуўся назад. Упэўніўшыся, што падрыўнікі паспелі сысці, падхапіўся і колькі было моцы ірвану да жытнёвага поля, мяняючы на хаду магазін з патронамі. Тым часам немцы апамяталіся і адкрылі па ўцекачу шквальны аўтаматны агонь. Нямецкая куля скасіла юнака, якому да жыта заставалася крокаў дзесяць. Вайна ў Асаўцы закранула кожную сям'ю. Страчанае вярнуць ужо не было магчыма.

## *Пасляваеннае адраджэнне і калектывізацыя*



ВЯСЕЛЛЕ ЛІДЗІІ ЛІТВІНЧУК І УЛАДЗІМІРА МУШАЎЦА

Пагэтаму патрэбна было ўсё распачынаць наноў. Будавацца, заводзіць сем'і, ствараць калгас, пра які тут яшчэ ні ў каго не было ніякага нават уяўлення. Бо да 1939-га Асавец быў пад Польшчай, а да вайны стварыць калгас не атрымалася, амаль што ўсе былі супраць. Гэтая тэндэнцыя засталася і ў пасляваенны час. Сяляне нават і думкі не дапускалі такой, як можна было проста так, без ніякай кампенсацыі добраахвотна аддаць палітую потам і крывёй сваю зямельку ды коней з усімі да іх прыладамі ў нейкую дасюль невядомую калектыўную сістэму. А пасля яшчэ хадзіць і працаваць разам з беззямельнымі ды бяздомнымі на тую сістэму за незвычайную, незразумелую і нябачную вокам калгасную валюту "працадзень". Спачатку ішлі ўгаворы, пераконванне ў веру светлай будучыні камунізму. Не мала намаганняў у станаўленне калгаснага ладу, прыкладала і Лідзія Дарафееўна. Яна адразу пасля прыезду была заўважана Радашкоўскай раённай уладай. Таму што ў атрыманых на Лідзію з Ельску дакументах і характырыстыцы з апошняга месца працы з Двіжскай васьмігодкі былі толькі станоўчыя водгукі, як пра сумленную і шчырую камсамолку. Акрамя галоўнай

працы ў школе, Лідзія Дарафееўна вельмі актыўна ўдзельнічала ва ўсіх вясковых сходах, па вырашэнню пастаўленых партыей задач. І самая галоўная з іх — гэта стварэнне калгаса. Яна, народжаная і вырасшая ў калгасным асяроддзі, ведала як пераўпэўніць з капіталістычнымі поглядамі сялян-заходнікаў. Але, як не намагалася Лідзія Дарафееўна, не хацелі сяляне развітвацца з аднаасобніцтвам. Пагэтаму на пачатку 1947 года на сялян-аднаасобнікаў з боку ўлады распачаліся адміністрацыйныя і крымінальныя рычагі ўздзеяння. Мясцовыя выканкамы пачалі праводзіць інвентырызацыі сялянскіх падворкаў, на прадмет зажытачнасці для выяўлення класа кулакоў і сярэднячкоў. Пасля чаго тыя былі абкладзеныя трайнымі падаткамі. Сяляне хоць і прасілі адтэрміноўку выплат да новага ўраджаю, на іх усё адно праз паўгода распачалі судовыя справы па спагнанню падаткаў, ды яшчэ з працэнтамі недаімак. Распачаліся раскулачванні, пры падтрымцы самага нізкага сялянскага класа батрацка-жабрацкага. Ім з гэтага заўжды штосьці перападала з канфіскаванай кулацкай маёмасці.

Вось да прыкладу каго залічвалі ў кулакі. У суседняй вёсцы Касцюшкі жыла сялянская сям'я Пахом Ганны Адамаўны 1888 г.н. разам са сваёй нявесткай Пахом Марыяй Раманаўнай 1912 г.н. і ўнукамі Антонам 1940 г.н. і Міхаілам 1941 г.н. Мужыкі жанчын згінулі падчас вайны, але руплівыя сялянкі ўдзвюх, у параўнанні з іншымі, асільвалі апрацоўваць васьмігектарныя палеткі адным конікам. Жыўнасць была невялікая: адна кароўка, некалькі авечак ды парачка парсючкоў, была і свойская птушка. Безумоўна, Пахомам падсаблялі мясцовыя батракі-няўдачнікі, за што атрымоўвалі адпаведны заробак. Што і паслужыла сельвыканкаму галоўнай падставай уключэння гэтай сялянскай гаспадаркі ў спіс кулакоў, з усімі выцякаючымі адтуль наступствамі. За недаімкі безабаронная жаночая сям'я Пахомаў страціла зямлю, каня з усімі да яго прыладамі, усяля-

кі сельгасінвентар (нават рыдлёўкі), кароўку і ўсю астатнюю жыўнасць. Канфіскаванае ўлада забрала ў ствараючы калгас, а рэштку падзяліла паміж беззямельнымі сялянамі і батракамі. У старой Ганны пасля такога стрэсу не вытрымала сэрца. Невядомым застаецца далейшы лёс і Марыі.

### *Не разабраўшыся, адразу пад суд*




У падобнай сітуацыі з іншай суседняй вёскі Чарты апынулася нават удава загінуўшага ў Берліне каля Брандэрбургскай Брамы, былога партызанскага сувязнога і франтавіка Падвысоцкага Сяргея Трафімавіча, Падвысоцкая (Мінчукевіч) Марыя Васільеўна, 1910 г.н. Са слоў яе дачкі Таццяны Сяргееўны Чэрнік (Падвысоцкай) 1945 г.н. мне сталі вядомыя падрабязнасці калектывізцыі ў іх вёсачцы. "Калі распачалася вайна, — кажа Таццяна Сяргееўна, — некаторых дарослых мужыкоў паспелі мабілізаваць у РСЧА, а частка, каб не трапляць немцам на вочы, па грэблі цераз балота сышлі ў лес. Знайшліся такія, якія падаліся і на службу да немцаў. Як Адам (К) добраахвотна стаў старастам вёскі. Але нельга сказаць, што ён вельмі шчыра служыў акупатам. Так, без асобага натхнення збіраў падаткі ў нямецкую казну ды за грамадскім парадкам прыглядаў." Тата Таццяны Сяргееўны ні да немцаў, ні ў партызаны не падаўся. Пра немцаў і размовы не магло ўзнікаць, а калі пайсці ў партызаны без зброі, то "ваяваць" можна было толькі ў складзе гаспадарчага падраздзялення па праднарыхтоўках. А гэта значыць патрэбна было "раскулачваць" жыхароў нава-

кольных вёсак. Справа зусім няўдзячная. Пагэтаму Сяргей Трафімавіч сам па сабе раздабываў сахарын і вазіў яго разам з хебам партызанам. А як толькі ў 1944 годзе прыйшло вызваленне ад акупантаў, ён быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію ў склад Першага Беларускага фронту. У пачатку мая 1945 года ў Берліне пры ўзяцці рэйхстага каля Бранденбургскай Брамы Сяргей Трафімавіч быў цяжка паранены і ўжо ў ваенным шпіталі памёр, не прыходзячы ў прытомнасць. Пахаваны ў брацкай магіле на тэрыторыі Польшчы. Удаве франтавіка, Марыі Васільеўне, пасля перамогі дасталася таксама кепская доля. Пасля атрыманай пахаванкі на мужа, яна страціла апошнюю надзею на яго вяртанне дадому. Марыя Васільеўна, застаўшыся ў адзіноце з трыма дзеткамі на руках, у тым ліку з месячнай Таццянай, ледзь спраўлялася са сваёй гаспадаркай. А тут яшэ па загаду раённай улады патрэбна было даваць кубатуру на лесанарыхтоўцы. Марыя Васільеўна фізічна не магла выканаць тыя абавязкі. І ў сувязі з гэтым неяк на прыканцы 1946-га года, да яе на падворак прыехалі прадстаўнікі мясцовай улады, каб забраць апошюю карову за падаткавыя недаімкі. Жанчына з віламі ў руках рашуча перагарадзіла да хлява дарогу тым канфіскатарам. Заявіўшы на поўным сур’ёзе, што падыме на вілы любога, хто сунецца да хлява, бо без кароўкі ёй і яе дзеткам усё адно пагібель. Тыя адступіліся, але паабяцалі хутка вярнуцца ўжо з міліцыяй. Марыя Васільеўна тым часам хуценька падалася ў Радашкавічы да раённага начальства па паратунак. Там яе як удаву загінуўшага франтавіка ўважліва выслухалі і паабяцалі разабрацца. Пасля таго выпадку, на вялікае дзіва, Марыю Васільеўну не толькі ад нарматыўнай адпрацоўкі вызвалілі, але яшчэ на зіму і дроў дахаты прывезлі. Замест якіх да таго часу з лесу на саначках з-за балота вымушаны былі карчы цягаць. А як меншынькая Таццяна падрасла, Марыя папрасілася ў калгас даяркай. Замуж больш так і не выйшла, адна выгадавала




сваіх дзетак і ў свет выпусціла. Меншая дачка Таццяна засталася ў сваіх родных Чартах і па сённяшні дзень жыве ў татавай хаце, якога вайна забрала. Так, калгасы ствараліся складана, мясцовае насельніцтва ставілася з вялікім недаверам да калетывізацыі. Лідзіі Дарафееўне, як знатаку калгаснага жыцця, прыйшлося прыкласці шмат намаганняў, каб запэўніць людзей у светлым будучым калгаснага ладу. Усім, хто пагаджаўся, пісала заявы на ўступленне ў калгас, бо людзі мелі толькі польскую адукацыю. Яны не тое што пісаць на беларускай мове, не кажучы ўжо пра рускую, але і размаўляць не ўсе маглі. Да восені 1947-га калгасы ўсё ж такі былі створаныя.

## *Трагедыя ў мірны час*

Жыццё пачало наладжвацца. Уладзімір Міхалыч уладкаваўся вольнанаёмным у вайсковую часць у суседнім Красным, а Лідзія Дарафееўна ўсе свае сілы пачала аддаваць школе, бо настаўнікаў, як і паўсюль, не хапала. А тут неўзабаве ў гэтым жа годзе ў сям'і з'явіўся першанец Міхаіл. Сённяшнім днём ён жыве ў суседнім Красным. Пазней у 1952 годзе нарадзіўся другі сынок Леанід. А ў 1959 трэці — Уладзімір. У адноўленым пасля вайны бацькоўскім доме месца хапала. У жыццёвых клопатах Лідзія Дарафееўна і Уладзімір Міхалыч не заўважылі, як па чарзе ўсе дзеці сталі дарослымі. Звілі свае гнёзды, стварылі сем'і і надарылі сваім татам і матулям унукаў. Лідзія Дарафееўна

з Уладзімірам Міхалычам не маглі нарадвацца спакойнаму мірнаму жыццю і сваім дзеткам, ганарыліся імі за іх працоўныя поспехі. Душэўныя раны мінулай вайны зацягнуліся, пакінуўшы ўвесь яе трагізм дзесьці ў далёкім мінулым. І толькі іншы раз, падчас мерапрыемстваў, арганізаваных да якой-небудзь даты звязанай з ваенным часам, ім як вязням фашысцкіх кантрацыйных лагераў, прыходзілася ўспамінаць перажытае, каб данесці святую праўду вайны да тых, каго яна не закранула.

Толькі Лідзіі Дарафееўне і Уладзіміру Міхалычу было лёсам наканавана яшчэ раз па-сапраўднаму перажыць трагедыю. У чэрвені 1991 года пры трагічных абставінах у адзін дзень загінулі два сыны, Леанід і Уладзімір. Трагедыя здарылася на рэчцы Рыбчанка. Падчас купання ў аднаго з братоў сударага звяла ногі і ён пачаў тануць. Другі нырнуў яго ратаваць, але на паверхню ўжо ніхто не вынырнуў. Загінуўшых Леаніда і Уладзіміра, вадалазы знайшлі пад абрывістым берагам ў счэпленым адзін за аднаго стане. Гэта была несуразмерная страта не толькі для сем’яў Мушаўцоў, але і для ўсяго сяла. А ў 2000-ым, згубу двух сыноў не вытрымала сэрца Уладзіміра Міхалыча. Гэта чарговая негаючая душэўная і сардэчная рана моцна надарвала здароўе ў Лідзіі Дарафееўны. Але яна сёння, у свае 97 год, жыве адна ў сваім доме і не дае згоды сыну і ўнукам на пераезд да іх. Лідзія Дарафееўна кажа: “Я тут жыву за сябе, за свайго каханага мужа і за родных дзетак сваіх, якіх Божанька забраў не паравымі.”

### *Сціпласць заўжды на першым месцы*

Лідзія Дарафееўна вельмі сціплы чалавек ва ўсіх адносінах. За ўвесь час, колькі я з ёй меў гонар размаўляць, яна ні аднаго разу не ўсхваліла сябе, а ўсё больш іншым прыдавала значэнне, магчыма і празмернае. Але што зробіш, у жанчыны такое выхаванне. Сціпласць Лідзіі Дарафееўны не дазволіла

нават прызнацца, што ў яе ёсць вельмі знакамітыя сваякі. На маё пытанне: ‘‘А чаму Вы пра іх змаўчалі?’’ То Лідзія Дарафееўна мне адказала: “Не ахота каму казаць, таму што людзі розныя ёсць, могуць не гэтак яе зразумець”.


Марыя Дз.Пашкоўская

А даведаўся я пра яе знакамітасці радавыя ад землякоў Лідзіі Дарафееўны на Мазыршчыне. І ў большасці сваёй ад яе стрыечнай сястры Пашкоўскай (Старавойтавай) Марыі Дзянісаўны 1930 г.н., якая пражывае зараз у Мазыры. І гаворка далей пойдзе пра яе роднага брата Старавойтава Мікалая Дзянісавіча, знакамітага беларускага скрыпічнага майстра. Гэта і ёсць той самы стрыечны брат Лідзіі Дарафееўны, які ў пачатку вайны краму ёй перадаваў. А ў пасляваенны час зноў вярнуўся на сваю даваенную пасаду. А ў вольны час на поўным сур’ёзе ўзяўся за ручны выраб скрыпак. Што пазней яму прыдало вядомасць на ўвесь Савецкі Саюз. Вось што пра Мікалая Дзянісавіча распавялі мне мазырчане і яго родная сястра Марыя Дзянісаўна.

Нарадзіўся Старавойтаў Мікалай Дзянісавіч у 1922 годзе ў звычайнай сялянскай сям’і. Усё сваё жыццё з пачатку і да канца дзён сваіх ён пражыў на Мазыршчыне, у сваёй ціхай палескай вёсцы Заводны Востраў. Кемлівасць і рукастасць у хлопца праяўлялася з самага маленства. Неяк аднойчы ў калгас прыехалі артысты з горада з канцэртам, на якім маленькі Міколка

ўпершыню пачуў гук скрыпкі, які захапіў яго да глыбіні душы. Купіць хлапчуку музычны інструмент калгасная сям'я, з дзесяцю дзеткамі, канешне ж, не мела магчымасці. І толькі моцная цяга да музыкі і напорыстасць у дасягненні запаветнай




мары праявіла ў Міколкі майстэрства ў скрыпічных справах і не толькі ў іх. І ўжо ў адзінаццацігадовым узросце ён самастойна змайстраваў першую скрыпку, у якой замест стальных струн ужыў звычайныя ніткі. А далей усё пайшло па нарастаючай. Разам з узрасленнем у хлапчука ўсё больш праяўляўся талент, узмацняліся здольнасці і майстэрства ў скрыпічных справах. Да  пачатку вайны,працуючы ў вясковай краме, зрабіў першыя дзве прафесійныя скрыпкі і шмат выконваў заказаў па рамонту скрыпак завадской вытворчасці. Падчас вайны ўсё сваё майстэрства накіроўваў на рамонт зброі ў партызанскім атрадзе імя Сабурава, у якім ваяваў да дня вызвалення. Пасля вайны, дэмабілізаваўшыся ў 1949 годзе з войск НКУС, вярнуўся ў свой родны Заводны Востраў, на сваю даваенную пасаду, загадчыка крамы. Заробак у краме быў мізэрны, таму Мікалай Дзянісавіч падпрацоўваў на калгасным стане. Рабіў кузавы да аўтамабіляў, вазы для коней, майстраваў шмат вельмі патрэбных розных сельгасагрэгатаў, сеялак, веялак, драбілак і іншых механізмаў. А дома яго чакала любімая справа – скрыпкі, якім удзяляў самую вялікую ўвагу. Але акрамя музычнага інструмента, вырабляў у прыстойныя элітныя дамы дубовыя разныя дзверы ды вокны. А на выраб эксклюзіўных прыкладаў да паляўнічых стрэльбаў чарга стаяла на цэлы год уперад.

Пры вырабе скрыпак майстра выкарыстоўваў самую адборную драўніну з елкі, клёну альбо граба. Мікалай Дзянісавіч вырабляў скрыпкі згодна тэхналагічнага працэсу, веды пра які чэрпаў з раздабытых шматлікіх кніг. Не баяўся штосьці мадэрнізаваць у агульнапрынятым варыянце. Лак рыхтаваў свайго гатунку, сакрэт якога быў вядомы толькі яму аднаму. Чарнецкая Ева Сямёнаўна, сённяшняя гаспадыня дома, які раней належыў Старавойтавым, распавядала, што Мікалай Дзянісавіч лак для скрыпакварыў толькі вясной, калі квітнелі сады, таму што ў хімічны склад яго павінны былі ўваходзіць менавіта ружовыя кветкі яблыні. У сваю майстэрню Мікалай Дзянісавіч рэдка каго пускаў, а вось Еве Сямёнаўне чамусьці не забараняў. Яна не адзін раз сваімі вачыма бачыла, як майстра пакрываючы скрыпку сваеасаблівым лакам, надаваў ёй жывую душу музычных гукаў. І не пэнзалем, а мяккім палатняным тампонам, цэлымі гадзінамі, уціраючы лак у драўніну, дамагаўся цудатворнага гучання інструмента. І такі працэс паўтараўся да тае пары, пакуль скрыпка не пачынала “плакаць”.




Скрыпкі Мікалая Дзянісавіча разыходзіліся па знакамітым музыкам па ўсяму Савецкаму Саюзу. Некалькі сваіх твораў майстра прысвяціў любімым сваім спявачкам Лідзіі Русланавай і Ганне Герман. А таксама адна з 45-ці ім створаных скрыпак была прысвечана палітычным падзеям і палітыкам у СССР. Да прыкладу,

у 1986 годзе,калі здарылася Чарнобыльская трагедыя, якраз на пярэдадні XXVII з’езду КПСС, Мікалай Дзянісавіч прывёз у Музей музыкі незвычайную скрыпку. Тыльны бок інструмента быў упрыгожаны перламутравай інструкцыяй у выглядзе ромбаў, сярпа і кувалды, пяціканечных зорак і надпісу: «XXVII СЪЕЗДУ КОММУНИСТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ СОВЕТСКОГО СОЮЗА ВО ГЛАВЕ С ГЕНЕРАЛЬНЫМ СЕКРЕТАРЕМ, ВЫДАЮЩИМСЯ БОРЦОМ ЗА МИР М. С. ГОРБАЧЕВЫМ». І з надпісам на грыфе: «1917–1987 — 70 лет СССР».


Пашкоўскія Ленід і Марыя Дзянісаўна
Сын Старавойтава Мікалая- Грыгоры

У 2005-ым на 86-ым годзе жыцця, сэрца майстра перастала біцца. Беларускі СТРАДЗІВАРЫ, Мікалай Дзянісавіч Старавойтаў, сваім талентам праславіў беларускае Палессе не толькі на ўсю краіну Беларусь, але і далёка за яе межамі. Чароўныя спевы яго скрыпак, яшчэ доўгія дзесяцігоддзі будуць цешыць душы і сэрцы шматтысячным слухачам. А памяць па ім і па іншых беларусах захаваецца ў душах людскіх назаўсёды. І вялікая заслуга ў гэтым нашага жывога архіва, сведкаў таго далёкага часу, якія падзяліліся сваімі аб’ектыўнымі ўспамінамі, з якіх і склаўся гэты матэрыял. Гэта: Мушавец (Літвінчук) Лідзія Дарафееўна, Пашкоўская (Старавойтава) Марыя Дзянісаўна, Чарнецкая Ева Сямёнаўна, Пашкоўскі Леанід Браніслвавіч, Хмяльніцкая (Літвінчук) Алена Сцяпанаўна, Чэрнік (Падвысоцкая) Таццяна Сяргееўна, Мушавец (Паўловіч) Марыя Харытонаўна. Хочацца спадзявацца, што чытачу артыкул не толькі будзе цікавым, але і пазнавальным.

## *МАГІЛКА МАЛАВЯДОМАГА ПАРТЫЗАНА*

Шмат год таму мне пашчасціла яшчэ мець магчымасць сустрэцца з жывымі сведкамі далёкага гістарычнага мінулага. Жыцця нашых продкаў за польскім часам і ў Другой сусветнай вайне. У мяне захаваліся рукапісы і аўдыёзапісы ўспамінаў карэнных жыхарак вёскі Дварэц, што каля Хаценчыц Міцько (Папковіч) Леанілы Антонаўны і (бабы Зоні) Дзік (Кратовіч) Соф'і Мікалаеўны. На вялікі жаль, яны самі адышлі ўжо даўно ў свет іншы, але пакінулі шмат звестак пра ваеннае ліхалецце.


ДЗІК (КРАТОВІЧ) СОФ'Я МІКАЛАЕЎНА

А вярнуцца да іх успамінаў і паварушыць свае архівы мяне прымусіла нядаўняе паведамленне ў "Рэгіянальнай газеце" ад мясцовых жыхароў. Аб тым, што непадалёк ад Дварца, каля суседняга Лукаўца, на ўскрайку леса, з'явілася адроджаная магілка па загінуўшаму партызану. Для мяне гэта было прыемнай нечаканасцю, таму што пра трагічна загінуўшага партызана мне распавядалі калісьці вышэйзгаданыя жыхаркі Дварца. Толькі тады ад іх я не змог даведацца пра дакладнае месца пахавання, таму што прайшло шмат часу і ў іх памяці яно ўжо не захавалася. Ды й прырода зрабіла сваю справу.

А здарылася вось што ў тым далёкім 1943-ім годзе. У Дварцы "кватараваў" партызанскі атрад "Баец" партызанскай брыгады імя Фрунзе. Адносіны паміж насельніцтвам і партызанамі былі вельмі добрыя. Пры такой ахове вяскоўцам жылося спакойна. Сюды баяліся заходзіць і немцы і бандзюганы, якіх не мала швэндалася ў ваколіцах. Ды й ад сумнавядомых лунінцаў таксама. Партызаны хадзілі на заданні, вяскоўцы займаліся сваімі гаспадарчымі справамі. У вольны час ад заданняў партызаны ладзілі і вечарынкі. І без кахання таксама не абыходзілася. Вайна-вайной, але ўсе думалі пра сямейнае жыццё, пра будучы мірны час. На "кватэры" ў Папковічаў пражываў прысланы з Масквы малодзенькі сувязіст з рацыяй Васька Рублеўскі (магчыма Дубінін). І закахаўся ён ў вельмі прыгожую дзяўчыну з не менш прыгожым імем Ліпа. Яе прыгажосць вабіла шматлікіх кавалераў. Паклаў вока на дзяўчыну і другі партызан Максім. І вось аднойчы, гэтыя закаханыя сустрэліся на хутары, дзе жыла Ліпа (прозвішча і назва хутара наўмысна не называецца). Як там што здарылася і хто пачаў спрэчку невядома? Толькі ў выніку таго Максім з рэвальвера смяротна параніў Ваську. На стрэл збегліся ўсе, хто быў на хутары. Бацька Ліпы разам з Максімам, паклаўшы параненага на воз і пусціўшы коней на галоп, паімчалі ў партызанскі шпіталь, які месціўся ў вярсце на хутары Шахрая Кастуся.


Уладзімір Путырскі

Пра далейшы лёс Ваські, мне распавёў унук стрыечнага брата Шахрая Касту-

ся, Путырскі Уладзімір Віктаравіч 1949 г.н. Яму стала вядома ад сваёй матулі, а таксама ад самаго гаспадара хутара, што калі Ваську прывезлі ў шпіталь, то доктар яму ўжо дапамагчы нічым не змог, рана апынулася смяротнай. На ранку партызаны загадалі Шахраю пахаваць загінуўшага. А калі той спытаў, якое імя напісаць, то ў адказ пачуў: “Менш пытай ды язык за




зубамі трымай”. Кастусь пахаваў Ваську на ўскрайку леса, непадалёк ад свайго хутара, паміж ліпамі і дубам, аблажыў па перыметры магілку камянямі і паставіў крыж без надпісу. Спадар Уладзімір нарадзіўся ў Мардасах і ў дзяцінстве часцяком бегаў на хутар на сяло да ўнукаў дзеда Кастуся. Разам хадзілі да магілкі партызана, насілі туды кветкі, не давалі ёй зарастаць. У 60-ых гадах распачалася эпоха меліярацыі. Паступіў загад партыі ўсіх хутаранаў перасяліць у вёскі. Выселілі з калісьці ўласнай зямлі і Шахрая Кастуся. Праз год ад хутароў не засталося і следу. Да магілкі партызана наведваліся ўсё радзей і радзей. Баба Зонька казала, што пасля вайны ў Мардасы прыязджала маці загінуўшага

партызана Васі Рублеўскага (Дубініна), хацела забраць астанкі на Радзіму ва Уладзівасток, але ёй чамусьці ніхто не паказаў магілку, ды й прозвішча яго тады ніхто да сённяшняга дня не ведаў. Хутчэй за ўсё пабаяліся парушыць загад партызан, каб не кампраметаваць партызанскі рух. У той час, каб штосьці падобнае вылезла на публіку, усім мала не падалося б. І таму, хто здзейсніў злачынства і тым хто пра злачынства распавёў. Спадар Уладзімір, адразу пасля школы з'ехаў у горад. Але ўсё жыццё на кожныя выходныя прыязджаў і прыезджае ў свой Дварэц, у бацькоўскую хатку. Аматар палявання і грыбнік заядлы, наведваючы лес на паляванне ці па грыбы, зваротны шлях Уладзіміра дадому кожны раз пралягае праз магілку партызана. І вось сёлета Уладзімір Віктаравіч вырашыў да 75-ці годдзя Перамогі савецкага народа над нацысцкай Германіяй у Другой сусветнай вайне аблагародзіць магілку, пазначыўшы чыя яна. Зрабіў гэта ціхенька, пры сваіх думках, сціпла і ад шчырага сэрца, па-хрысціянску. Дзякуючы Уладзіміру Віктаравічу, светлае імя партызана з архіўнай старонкі знайшло свайго ўласніка, а безымянная магілка страціла свой статус безымяннай.

Такім чынам, дзякуючы агульным намаганням, з незаслужанага забыцця вярнулася светлае імя змагара з лютым ворагам. А выпадковая яго гібель не павінна кампраметаваць яго патрыятызм перад Радзімай. Хочацца падзякаваць усім мясцовым жыхарам, якія прынялі ўдзел у пошуках разгадкі па адроджанай магілцы. Гэта: Косцік Таццяна, Валовік Святлана, Літвінковіч Яніна і іншыя. Асобная падзяка навуковай супрацоўніцы Вілейскага музея Вользе Аляксандраўне Коласавай за ўдакладненні і кансультацыі па дадзенай тэме. За гэты час, на вялікі жаль, не атрымалася даведацца дакладнае прозвішча загінуўшага. Затое агулам здолелі ўсталяваць цудоўны капітальны помнік. Акрамя нас, аўтара гэтых радкоў і Путырскага Уладзіміра, ідэю падтрымаў Хаценчыцкі сельсавет, да справы

таксама далучыліся мясцовы фермер Жэленгоўскі Аляксандр і жыхар Лукаўца Валовік Андрэй. Агульнымі намаганнямі на магіле быў ўсталяваны полутонны маналітны манумент з адпаведнай шыльдай. Зроблена аздабленне месца пахавання і пад'езд да яго. У выніку, на мой погляд, атрымалася ўсё цудоўна. Застаецца толькі выбраць час, запрасіць святара і асвяціць магілку загінуўшага змагара з фашыстамі.

## *ЁН АДДАЎ СВАЁ ЖЫЦЦЁ,*
## *КАБ СЁННЯ МЫ ЖЫЛІ*

### *Вітак Арцішэўскі*

У адной са сваіх кніг я ўжо распавядаў пра вялікі сялянскі род Арцішэўскіх з вёсачкі Батурына, што на Вілейшчыне. Ім і іх трагічнаму лёсу я ўжо ўдзяліў шмат увагі. І вось сёлета мне,як краязнаўцу і літаратару, вельмі пашчасціла сутыкнуцца з новымі звесткамі пра аднаго члена гэтай сям'і — Вітака 1927 г.н. Мой тата, будучы цудоўным сталяром, яшчэ з запольскіх часоў з Арцішэўскімі меў цесныя сяброўскія адносіны. Гэтыя хлопцы ніколі не міналі нашай хаты. Калі, па тых ці іншых справах, бывалі ў маіх родных Чарвяках (зараз Сакалоўка) кожны раз наведваліся да татавай сталярні, каб адпачыць ды чарачку другую прапусціць, пры якой заўжды вярталіся да ўспамінаў пра трагічны час мінулай вайны. І як правіла бяседа вялася, галоўным чынам, у татавай майстэрні. А я, уладкаваўшыся ў куточку на пахнючых смалістых габлюшках, заўжды з вялікай зацікаўле-



ДРУГІ ЗЛЕВА,КАЛЯ НАСТАЎНІЦЫ,ВІТАК АРЦІШЭЎСКІ

насцю слухаў іх гутарку. Падчас якой здаралася такое, што маё дзіцячае ўсведамленне іншы раз выклікала слёзы і нават плач. Шмат якія расповяды ўрэзаліся ў маю памяць на ўсё жыццё, у тым ліку Вітакаў расповяд пра выкраданне ў немцаў імі арыштаваных і закатаваных двух савецкіх вайскоўцаў. А найперш мушу нагадаць, хто ён такі — Вітак.

У 1941 годзе, калі гітлераўская Германія напала на Беларусь, Вітаку ішоў толькі пятнаццаты год. Але ён, як і яго браты, быў не пагадах дарослым і вельмі рукастым хлопцам. Кемлівы хлапчук ужо тады мог адрамантаваць любую тэхніку і механізмы, якія толькі існавалі на той час. Гэтая навука і майстэрскія здольнасці ад Бога Вітаку дапамагалі зарабляць кусок хлеба і звяртаць на сябе ўвагу. Не толькі Вітак, але і ўся вялікая сям'я Арцішэўскіх, за іх шчырае, паважлівае і спагадлівае стаўленне да праблем іншых людзей, мела статус самай аўтарытэтнай сям'і. І не толькі ў сваім Батурыне, але далёка за яго межамі. І вось тады ў тым самым 41-ым і без таго, далёка не салодкае рэпрэсіўнае даваеннае жыццё, перайшло ў больш страшэннае, ваеннае ліхалецце. Савецкая ўлада, якая 17 верасня 1939-га года ціхенька і хутка заняўшая Батурына, гэтак жа хутка яго і пакінула на другі дзень вайны 23 чэрвеня 1941-га. Гэтак хутка, што не здолелі мабілізаваць у войска ні



Wacław Sęk SJ
(1909-1998)

аднаго батурынца. Вацлаў Сэнк, ксёндз Батурынскага касцёла, не пакінуў сваіх парафіян у адзіноце на волю лёсу і добраахвотна прыняў на сябе яшчэ савецкія ўладныя абавязкі. Вітак быў вельмі кжэсным да каталіцкай веры. Рэгулярна наведваў касцёл і заўжды прыслухоўваўся да парад і наказаў ксяндза Вацлава Сэнка і заўжды іх выконваў. Аднойчы ў пачатку красавіка 1942 года ксёндз Вацлаў распавёў Вітэку пра тое, што ў Лукаўцы ў ліпавай алеі ніжняга парку маёнтка пана Бароўскага ўжо каторы дзень ляжаць закатаваныя немцамі двое чалавек ці то партызаны, ці то ваеннапалоныя. І што яны быццам бы з усходняй Лагойшчыны, таму што за адным з іх прыходзіла жонка, каб забраць і пахаваць яго па-чалавечы. Але паліцаі-ахоўнікі пад пагрозай растрэла не дазволілі ёй гэта зрабіць. “А пахаваць людзей усё ж такі неяк патрэбна,” — сказаў Вацлаў Сэнк. А звярнуўся ён да Вітака нават нягледзячы на яго вельмі юнацкі ўзрост, таму што сярод батурынцаў не бачыў больш надзейных. І ксёндз Вацлаў падзяліўся з Вітэкам сваім план па выкраданню загінуўшых. Ксёндз сказаў, што ў прызначаны дзень пад вечар ён будзе ў маёнтку праводзіць перадсвяточную службу, на якой будуць прысутнічаць усе немцы і паліцаі, якія мясціліся ў сядзібным доме маёнка паноў Бароўскіх. Да гэтага часу Вітак павінен будзе запрэгчы ў санкі сваю кароўку Лялькy. На той час яна не толькі малако давала, але яшчэ і конскую працу выконвала. Бо ў вёсцы не засталося ні аднаго каня. Адных, якіх гаспадары не паспелі схаваць, немцы забралі, а тых, якія засталіся, лясныя бандзюганы “экспрапрыіравалі”. У пачатку вайны іх шмат па лясах швэндалася. Рабавалі, гвалцілі, забівалі да тае пары, пакуль не паявіліся першыя партызанскія атрады.

Вітак да прызначанага часу падрыхтаваўся. Хоць і красавік быў на двары, але пасля моцна марознай з завірухамі зімы снежнага покрыва пакуль хапала, каб Лялькy запрэгчы

ў санкі. Было дамоўлена, што Вітак шарэючы выедзе ў маёнтак, быццам бы за ксяндзом. А калі апынецца ў маёнткавым парку ў прызначаным месцы і, упэўніўшыся, што вакол нікога няма, неадкладна патрэбна будзе загрузіць загінуўшых на санкі і хуценька з'язджаць з таго месца. Вітаку павязло, і па дарозе, і ў парку юнак нікога не сустрэў. Што і паспрыяла аператыўна выканаць тое, што яму сказаў Вацлаў Сэнк. Загінуўшых людзей, якія былі апранутыя ў форму чырвонаармейцаў, юнак давёз на Навасёлкаўскія могілкі. Там іх разам у адной магілцы і пахаваў на ўзгорку, пры самай дарозе. Немцы прапажу агледзелі толькі раніцай, але ў пошукі вялікія не даваліся магчыма з-за таго, што сэнсу не было ніякага распачынаць пошукі, бо адліга і туман размылі ўсе сляды на снезе? А магчыма іх стрымлівала зусім штосьці іншае? А справа вось у чым. Гарнізон немцамі быў створаны ў Хаценчыцах, які быў умацаваны пяццю кулямётнымі кропкамі і парай мінамётнымі. Жывая сіла складалася, галоўным чынам, з літоўскіх паліцэйскіх. Было некалькі і сваіх, местачковых паліцаяў з Зачарной і Заельнікаў. А кіравалі гарнізонам некалькі немцаў. Агулам налічвалася з паўраты ваякаў. Фактычна немцы (адзін немец і некалькі паліцаяў) у Лукавецкім маёнтку стала не знаходзіліся. І паяўляліся ў ім час ад часу, калі патрэбна было зладзіць з арыштаванымі допыты і катаванні. Арыштантаў прыводзілі чамусьці больш усяго



Сядзібны дом Бароўскіх у Лукаўцы

з усходняй часткі, з Лагойшчыны. Напрыклад, вядомы выпадак, калі арыштоўвалі жыхароў з Калачоў, Баброў, нават з Малых Бясядаў і вязлі альбо вялі ў Лукавец на допыты, а не ў Хаценчыцкі гарнізон. Ды й увогуле, для чаго тыя немцы менавіта ў Лукавец ажно за 20 вёрст на допыты ганялі арыштантаў, нават з Шаршунаў ды з Малых Бясядаў? Калі цэлы гарнізон стаяў у Янушкавічах, зусім побач з вышэй названымі вёскамі? Гэтая загадкавасць выклікае шмат пытанняў. І адно з іх, што за немцы ў Лукаўцы ладзілі допыты і катаванні людзей? Пасля якіх некаторых растрэльвалі, а ў большасці сваёй пасля некалькіх дзён зняволення і катаванняў адпускалі дадому. Так здарылася з жыхарамі з суседніх з Лукаўцом Баброў, Ваўчком Пётрам, Луцкім Прохарам, Юрковічам Пётрам і з лесніком Супронам з Дзянісак. На допытах яны трымаліся добра і не выдалі партызан, пасля чаго былі адпушчаныя. Пра гэту загадкавую нямецкую групоўку, мне так і не ўдалося дакладна навясці даведкі. Таму што нават самі старажылы мала што пра іх ведалі, а большасць і ўвогуле пра тых немцаў з дома Бароўскіх нічога не чулі. Так што тады Вітаку не было нічога вядома, якія там немцы, дый усё раўно хто яны такія. Вітак на той час нават не ведаў, хто былі тыя забітыя, якіх ён выкрадаў і пахаваў? І толькі ўжо пасля вайны, пра аднаго з іх стала вядома, як аднаго дня ўвосень 1944 года ў спаленае фашыстамі Батурына да зямлянкі Арцішэўскіх, завітала жанчына. Якая яшчэ ў 42-ім спрабавала сама забраць цела свайго мужа, забітага ў маёнтку Бароўскіх, ды не атрымалася. І вось ужо пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, ёй дайшлі чуткі, хто тады выкраў у немцаў цела загінуўшага яе мужа. А накіраваў яе да Арцішэўскіх, якраз перад самым сваім ад'ездам у Польшчу, ксёндз спаленага немцамі Батурынскага касцёла Вацлаў Сэнк. Вось што мне давялося пачуць ад Вітака Арцішэўскага больш за паўстагоддзя таму. Магчыма ўжо штосьці і пераблыталася

ў маёй памяці, але сам сэнс падзеі ў корні захаваўся без пераўвелічэння і выдумкі. А вярнуцца да Вітакавых успамінаў мяне вымусілі новыя звесткі, якія маюць непасрэднае дачыненне да таго выпадку з загінуўшымі і маюць вельмі цікавы працяг.

### *Пакінуў запіску на магілцы*




На Навасёлкаўскіх могілках, на пясчаным узгорку, пры самай дарозе, ёсць магілка. На якім усталяваны помнік з мармуровай крошкі і фотаздымкам чалавека, апранутага ў беспагонны вайсковы кіцель. З надпісам: МАРЫСАЕЎ КАНСТАНЦІН АНАТОЛЬЕВІЧ, 1905 г.н. ЗАГІНУЎ 9 КРАСАВІКА 1942 г. ПАМЯЦЬ АД ЖОНКІ І ДЗЯЦЕЙ. За гэтым пахаваннем я назіраў доўгі час, лічачы яго як партызанскім. Хоць прозвішча пахаванага не з тутэйшых, але яно кожны год даглядалася і я быў упэўнены, што ўшаноўвае памяць хтосьці з родных альбо сельсавет. А як некалькі год таму вырашыў падрабязней высветліць пра загінуўшага, то высветлілася тое, што з мясцовых ніхто і не ведае нічога пра пахаванне і хто яго даглядае. Не ведае і Хаценчыцкі сельсавет і ў Вілейскім краязнаўчым музеі таксама звестак ніякіх не знайшлося. Доўгі час, прыязджаючы

па вялікіх святах на Навасёлкаўскія могілкі ў спадзяванні сустрэць наведвальнікаў той магілкі, не прынясло мне станоўчых вынікаў. І толькі пасля таго, як сёлета ранняй вясной, пакуль яшчэ не надышоў перадсвяточны час па прыборках пахаванняў, я на загадкавай магілцы пакінуў запіску да наведвальнікаў гэтага пахавання, з просьбай патэлефанаваць на



Марысаева Валянціна Канс.

ўказаны ў запісцы нумар. І гэта задумка не прымусіла доўга чакаць. Ужо дзесьці праз некалькі тыдняў мне патэлефанавала жанчына. Для мяне, як для краязнаўцы, той званок быў увогуле нечаканай вялікай гістарычнай знаходкай. Тэлефанавала яна з Лагойску, прадставіўшыся Марысаевай Валянцінай Канстанцінаўнай, роднай дачкой загінуўшага таго ваеннага, які пахаваны на Навасёлкаўскіх могілках, Марысаева Канстанціна Анатольевіча. Як пазней высветлілася, гэта адзін і той жа, цела якога па загаду ксяндза Вацлава Сэнка, Вітак Арцішэўскі скраў з-пад носа ў немцаў і пахаваў на Навасёлкаўскіх могілках у адной магілцы разам з другім закатаваным вайскоўцам. Вось як атрымалася, хоць амаль праз васьмідзесяцігоддзе, але ўсё стала на сваё месца — невядомае, стала вядомым. Пазнаёміўшыся і паразмаўляючы хвілін дваццаць з Валянцінай Канстанцінаўнай, я адчуў, што яе лёс і жыццё яе продкаў вельмі-вельмі цікавыя і не бес-

трагічныя. На маю просьбу падзяліцца ўспамінамі пра перажытае, жанчына пагадзілася. Валянціна Канстанцінаўна хоць ужо і ва ўзросце, але адчувае сябе бадзёра, не гледзячы на яе бадзёрасць, я намагаўся яе не пераўтамляць сваімі пытаннямі. Тэлефонныя паўгадзінныя размовы з двухтыднёвымі перапынкамі, за лета дазволілі сабраць цікавы матэрыял пра гэтую сям'ю. І зараз, што яе датычыцца, хачу распачаць усё па чарзе, заглянуўшы ў самы пачатак мінулага стагоддзя.

## *Павел і Елізавета Гіль*

Карані Валянціны Канстанцінаўны Марысаевай (па матулінай лініі) цягнуцца з Вілейшчыны. Дзядуля яе, Гіль Павел Антонавіч, 1872 г.н, з-пад Іжы, а бабуля, Гіль Елезавета Лаўрэнцеўна з Іллі. Былі яны абвенчаныя на прыканцы XIX стагоддзя ў Іжанскай царкве. У ёй жа хрысціліся ўсе іхнія шматлікія дзеткі — гэта Ганна, Якім, Лідзія, Пётра, Марыя, Дзмітрый, Сямён, Ксеня, Вольга і Канстанцін. Калі ў 1914 годзе распачалася Першая сусветная вайна і ўжо восенню з Захаду пацягнулася шмат уцекачоў, сям'я Гіляў вырашыла з'ехаць далей ад наступаючай вайны, ад мабілізацыі ды экспрапрыяцыі на патрэбу фронту, якая ўжо да той пары пазбавіла аднаго каня ды палову збожжа. Пе-



ГІЛЬ МАРЫЯ,ПАВЕЛ АНТОНАВ.,ГАННА
УВЕРСЕ ДЗМІТРЫ і ДЗВЕ ІХ СУСЕДКІ

рабраўшыся на Лагойшчыну ў маёнтак Вяпраты, уласнікамі якога былі ці то Ляховічы, ці то Бароўскія. Атрымаўшы ў пана часовае жытло, Дзед Павел пайшоў прыслужваць у Малабясяцкую царкву. А баба Елізавета служкай пры панскім двары. Працавалі і паралельна талакой рамантавалі куплены побач з дваром запушчаны дом, у які пад восень 1915-га і засяліліся. А ў той час на любай Іжаўшчыне вайна ішла поўным ходам. Яе грамыханне было добра чутна нават у Вяпраце. Сумныя даходзілі чуткі, што фронт пазнішчаў усе вёскі, у тым ліку і іхні Сялец. Пасля такой навіны вярнуцца назад, зніклі ўсе надзеі. Але, як кажуць, адна бяда не ходзіць, яна за сабой другую водзіць. Праз год у сям'і Гіляў здарылася страшная трагедыя. Пад коламі панскай брычкі трагічна загінула баба Елізавета. Усё сталася зусім нечакана-нягадана. Панскі фурман падагнаў парку коней запрэжаную ў брычку, як звычайна па загаду пана да самага сядзібнага дома. Быў моцна спякотны дзень, коні не стаялі спакойна, таму фурман іх, зацугляўшы, прытрымліваў за аброць. І раптам ні з таго, ні з сяго коні, падняўшыся на дыбкі, адкінуўшы фурмана ўбок, галопам, як ашалелыя, ірванулі ў браму. І трэба ж было на тую бяду, якраз ў той момант праз браму пераходзіць бабе Елізавеце. Усё сталася імгненна, пагэтаму ёй ужо было немагчыма зрэагаваць. Ад атрыманых пашкоджанняў Елізавета Лаўрэнцьеўна памерла на месцы, не прыходзячы ў прытомнасць. Пахаванне было арганізавана панам на радзіме загінуўшай у Іллі. Такое рашэнне было родных Елізаветы Лаўрэнцьеўны. Пасля смерці сваёй каханай, Паўлу Антонавічу прыйшлося аднаму працаваць і выхоўваць такую вялікую кагорту дзетак. І ён, галоўным чынам, справіўся з гэтымі цяжкасцямі. Але не абышлося і без ахвяр. Яшчэ ў раннім дзяцінстве хваробы забралі самых меншанькіх, Сямёна і Ксенію. Астатніх выхаваў усіх, толькі не ўсіх у людзі выправіў.

## *Сумнавядомы 1937-ы*

Не паспеў, бо настаў сумнавядомы 1937 год, і рэпрэсіі апярэдзілі і ўняслі свае карэкціроўкі. Валянціна Канстанцінаўна па сённяшні дзень так і не ведае, за што можна было рэпрэсаваць яе дзядулю Паўла Антонавіча, царкоўнага прыслужніка ды батрачку цётку яе, Ганну і дзядзьку Дзмітрыя, таксама батрака? Сям'я мела толькі аднаго коніка і невялікі кавалачак зямлі. Але батрацкае паходжанне не ўратавала Паўла Антонавіча і пражываючых на той час разам з ім яго дачку Ганну і сына Дзмітрыя. Як сцвярджае пляменнік Валянціны Канстанцінаўны, сын яе роднага старэйшага брата Барыса, Ігар, яны былі арыштаваныя і адпраўленыя на спецпаселішча ў Комі, толькі за тое, што ў Заходняй частцы Беларусі ў Іллі жыла іх радня.

***Гиль Павел Антонович. Родился в 1872 г. Проживал: Белорусская ССР, Логойский р-н, Калачевский с/с. Приговор: м.с/п: п. Усть-Коин, Усть-Вымский р-н, Коми АССР. Источник: Книга памяти Республики Коми.***

У Паўла Антонавіча цераз два гады не вытрымала сэрца. Ён так і застаўся назаўсёды ляжаць у зямельцы на чужбіне.

***Гиль Анна Павловна родилась в 1908 г. Проживала: Белорусская ССР, Логойский р-н, Калачевский с/с. Приговор: м.с/п: п. Усть-Коин, Усть-Вымский р-н, Коми АССР. Источник: Книга памяти Республики Коми.***

Ганна Паўлаўна звыклася з лёсам і пражыла на чужбіне да глыбокай старасці.

***Гиль Дмитрий Павлович. Родился в 1909 г. Проживал: Белорусская ССР, Логойский р-н, Калачевский с/с. Приговор: м.с/п: п. Усть-Коин, Усть-Вымский р-н, Коми АССР. Источник: Книга памяти Республики Коми.***

Дзмітрый Паўлавіч, як распачалася Другая сусветная вайна, быў мабілізаваны ў РСЧА, прайшоў фінскую і айчын-

ную ад пачатку да канца. Са шматлікімі баявымі ўзнагародамі згодна прысуду вымушаны быў вярнуцца назад на месца спецпаселішча ў Комі АССР. Праз нейкі час пасля вайны яго сястра Вольга Паўлаўна, маці маёй субяседніцы Валянціны Канстанцінаўны, звярнулася ў беларускія адпаведныя органы з просьбай, каб далі дазвол брату,


ГІЛЬ ПЁТР,ДЗМІТРЫ,ВОЛЬГА,ЛІДЗІЯ

Дзмітрыю Паўлавічу вярнуцца на сваю Радзіму у Беларусь, на пастаяннае месца жыхарства. Цераз год пасля звароту савецкая ўлада дала дабро на вяртанне некалі асуджаннага “ворага народа” са спецпаселішча на Радзіму. Дзмітрый Паўлавіч пасля вяртання ў Беларусь, адразу ўладкаваўся на працу ветдоктарам на Вілейшчыне ў саўгас “Вязынь”. А пасля пераехаў да матулі на Лагойшчыну ў Вяпрату ў бацькоўскі дом, з якога ў далёкім 37-ым яго звёс “чорны крумкач”. Пазней, пры дапамозе калгаса “Селішча”, пабудаваў свой асабісты дом, тут жа ў Вяпраце,толькі бліжэй да цэнтра.У гэтай гаспадарцы Дзмітрый Паўлавіч і дапрацаваў да пенсіі ўсё тым жа ветдоктарам. Лёсы астатніх членаў вялікай Гілеўскай сям’і, Валянціне

Канстанцінаўне, на вялікі жаль невядомыя. Пошукі не далі ніякіх станоўчых вынікаў. Акрамя Канстанціна Паўлавіча, пра якога прыйшло паведамленне, што ён знік без звестак на франтах вайны. Вользе Паўлаўне, матулі Валянціны Канстанцінаўны і Барыса Канстанцінавіча, пашчасціла ўхіліцца ад рэпрэсіўнага кола. Па яе мужу і ёй самой тое кола праехала толькі па паверхні, мабыць гэтак ім было наканавана лёсам.

### *Марысаевы*

Да маёй субяседніцы Валянціны Канстанцінаўны далучаецца яе пляменнік Ігар,пра якога я ўжо згадваў вышэй. Ігар Барысавіч Марысаеў, спасылаючыся на свайго тату Барыса Канстанцінавіча 1930 г.н., распавёў мне шмат цікавых момантаў, з жыцця сваёй бабулі Марысаевай (Гіль) Вольгі Паўлаўны 1909 г.н. і дзядулі Марысаева Канстанціна Анатольевіча 1905 г.н. Канстанцін Анатольевіч ураджэнец рускага Паволжжа горада Саратава. Нарадзіўся ў інтэлігентнай сям'і. Тата, Марысаеў Анатолій Вікенцьевіч (рускі) служыў бухгалтарам у дзяржаўнай уста-



МАРЫСАЕВЫ АНАТОЛІ ВІК.,
МАРЫЯ КАРЛ.і іх ДЗЕТКІ

нове, а маці Марысаева Марыя Карлаўна (паволжская немка) працавала настаўніцай. Сям’я таксама была немаленькай: дзве дачкі і трое сыноў. Канстанцін у свае 22 гады добраахвотна пайшоў служыць у РСЧА. Пасля падрыхтоўкі ў Саратаўскай паграншколе чырвонаармеец Марысаеў Канстанцін быў адпраўлены для праходжання вайсковай службы на савецка-польскую мяжу паміж Усходняй і Заходняй часткай Беларусі. Вось такім чынам, Канстанцін Анатольевіч апынуўся на Панышоўскай заставе, якая размяжоўвала савецкую Лагойшчыну з польскай Вілейшчынай. Служба праходзіла спакойна, значных парушэнняў мяжы фактычна не было. Сялянам з памежных вёсак, як з савецкага боку, так і з польскага дазвалялася перасякаць мяжу для наведвання сваіх родных, а ў базарны дзень абменьвацца таварамі. У гэты дзень, як звычайна ў нядзельку, панышоўская вуліца ажывала ад натоўпаў гандляроў і купцоў. Заходнікі прыносілі вопратку, абутак, газнічкі, бензінавыя запальнічкі, сала, хлеб, батоны. Усё гэта абменьвалася на соль ды на глінку (мел), якую сяляне дабывалі прымітыўнай методыкай у суседнім Крамянцы. Разлік грашыма быў рэдкай з’явай, таму што сяляне-ўсходнікі ў калгасе працавалі не за грошы, а за працадні. Праз год службы, наш Канстанцін добра вывучыў мясцовасць, нават у вольны час ад службы мог сабе дазволіць схадзіць і на паляванне, якое яму было вельмі даспадобы. У навакольных вёсках паявілася многа знаёмых, са шматлікімі завязаліся сяброўскія адносіны. А самае каштоўнае знаёмства — гэта з дзяўчынай былога панскага маёнтка Вяпраты. І як вы ўжо здагадаліся, гэта была Вольга, дачка самага старэйшага героя  дадзенага матэрыяла, Гіля Паўла Антонавіча. Цераз год, знаёмства перарасло ў моцнае каханне і маладыя распісаліся ў Калачэўскім сельсавеце. Тата маладой быў вельмі набожным чалавекам, бо пры царкве з юнацтва.І на той час служыў у Малабясядскай царкве псаломскім. Пагэтаму

і ўявіць сабе не мог, што дачка яго не будзе абвенчанай. Але прыйшлося змірыцца,таму што зяць быў ваенным ды яшчэ ў дадатак кандыдат у партыю.

Пасля жаніцьбы з дазволу камандзіра заставы Канстанцін з казармы перабраўся жыць у Вяпраты да сваёй каханай. І ўжо адтуль на службу ездзіў на службовым кані, якіх на заставе было з дзясятак для аб’езду мяжы. У 1930 годзе ў іх нарадзіўся сынок Барыс. А праз два гады ў Канстанціна скончыўся кантракт на службу. І маладая сям’я з’ехала ў Расію на Радзіму Канстанціна Саратаў. Да гэтага часу яго браты пасля вучобы ў Саратаўскім вайсковым вучылішчы служылі афіцэрамі ў РСЧА. Яны і ўгаварылі Канстанціна вярнуцца да вайсковай службы. Пасля перападрыхтоўкі і атрымаўшы афіцэрскае званне, для далейшага праходжання службы камандаванне накіравала Канстанціна ў Архангельск. Але доўга там не затрымаўся. І на прыканцы 35-га быў перанакіраваны ў беларускі горад Рагачоў. У 1936 годзе сям’я павялічылася дзяўчынкай і назвалі яе Валянцінай. Неўзабаве наступіў сумнавядомы 1937-ы год, які прынёс страшэнныя іспыты для ўсяго савецкага народа. Разгарнуліся



МАРЫСАЕВЫ ВОЛЬГА і КАНСТАНЦІН

павальныя арышты, масавыя растрэлы і дэпартацыі. У дзень людзі хадзілі па вуліцы з аглядкай і з думкай: ці сочыць хто за імі. А седзячы ў хаце, не спускалі вачэй з вакна, з надзеяй, што “чорны крумкач” міне іх хату. Самае страшнае было гэта надыход начнога часу. Таму што для НКУСаўцаў гэта быў любімы час палявання, на “ВОРАГАЎ НАРОДА”, польскіх шпіёнаў і антысавецскіх элементаў. Аднойчы ўначы пагрукалі ў дзверы і да Канстанціна з Вольгай. НКУСаўцы загадалі Канстанціну апранацца і ехаць з імі, не дазволіўшы нават узяць з сабой самае неабходнае, спаслаўшыся на тэрміновасць і што не надоўга. Толькі гэтае “не надоўга”, расцягнулася, дзкуючы Богу, толькі на тры тыдні, а магло б гэтак стацца, што і на ўсё жыццё. На допытах у НКУС, на працягу ўсяго тэрміну, Канстанціна не катавалі (як звычайна іншых), а толькі высвятлялі яго кола знаёмства і ці ёсць родныя на польскай тэрыторыі? Шмат пытанняў задавалі па цясцю і яго дзецях. Ці маюць яны сувязь з кім-небудзь у Заходняй частцы Беларусі? На прыканцы арышту НКУСавец паведаміў Канстанціну, што яго цесць Гіль П.А, з дачкой Ганнай і сынам Дзмітрыем дэпартаваныя на спецпаселішча ў Комі ССР. І што менавіта вось гэта і паслужыла падставай для арышту Канстанціна. Але пасля трохтыднёвых допытаў, не ўгледзеўшы ніякіх доказаў у здрадзе, Канстанцін быў вызвалены і Новы 1938-ы год, ужо сустракаў ў сямейным крузе. Толькі ў Рагачове зноў доўга не затрымаліся. Неўзабаве пасля Новага года сям’я пераехала ў Барысаў, на новае месца службы Канстанціна. Абаснаваўшыся ў ваенным гарадку у чарговай службовай кватэры, Вользе вельмі захацелася наведаць сваіх родных, якіх не бачыла ўжо цэлых сем гадоў. Канстанцін умаўчаў, не распавёў жонцы, што ў Вяпраце яе ўжо ніхто не чакае. Пагэтаму ён Вольгу ўсяляк адгаворваў, каб тая пачакала хаця бы да цяпла веснавога. А сам разлічваў на намечанае новае месца службы, вось толькі куды, пакуль што не

было вядомым. З надыходам вясны Канстанцін атрымаў новае прызначэнне па службе. І так сталася што яго, узнагароджанага ўжо знакам выдатніка Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (ДПУ) як прафесійнага памежніка і камуніста накіравалі паліткіраўніком на пагранзаставу менавіта ў Панышы. На тую самую, дзе раней служыў памежнікам па кантракту. У той час Панышоўская пагранзастава ўваходзіла ў склад 14-га пагранатрада,які дыслакаваўся ў Плешчаніцах.

### *Ад бязмежнай радасці да дэпрэсіі*

Даведаўшыся аб новым месцы службы, у Вольгі не было мяжы радасці, што нарэшце яна сустрэнецца з роднымі. Але пасля таго, як Канстанцін паведаў праўду, што сталася з яе роднымі, Вольгу ахапіла дэпрэсія. Напярэдадні дня ад’езду Вольга не спала ўсю ноч. Страшэнныя думкі не пакідалі, ад якіх нават не магла сабе ўявіць, што заўтра яна прыедзе ў свае родныя Вяпраты, а сустракаць яе ніхто з бацькоўскага дома не выйдзе. Ноч прайшла ў доўгім чаканні, а раніцай, усеўшыся ў палутарку ўсёй сям’ёй, разам з сямейным гардэробам, які памясціўся ў двух драўляных чамаданах, рушылі да месца прызначэння. Усю дарогу ехалі амаль моўчкі, кожны пры сваіх думках.

Прыехаўшы ў Вяпраты, Вольгу сустрэлі не родныя, на што яна яшчэ спадзявалася да апошняй хвіліны, а жахлівы стан на бацькоўскім падворку, па якім гулялі сотні курэй, а хата была пераўтворана ў куратнік. Як ёй стала вядома ад суседзяў, яе бацьку, брата і сястру (пра якіх я ўжо пісаў вышэй), савецкая ўлада дэпартавала на спецпаселішча ў Комі ССР. А ўсю маёмасць канфіскавала на карысць створанага калгаса “13 год РСЧА”. Канстанцін ведаў, што з уладай не паспрачаешся, таму адразу паехалі на заставу. Там на месцы ўсе пытанні былі вырашаны, у тым ліку і жыллёвыя. Знайшоўся ў Панышах пусты домік, у які і засяліліся Канстанцін з Вольгай. Абвыкліся хутка. І Воль-

зе на радзіме было весялей і Канстанціну да службы памежніка было не прывыкаць. Тым больш што застава і мяжа знаёмая з колішняй службы. Толькі ў параўнанні яна зараз стала вельмі неспакойнай, нават часам і небяспечнай. Парушэнні на мяжы як з таго, так і з гэтага боку сталі рэгулярнымі. Нярэдкія выпадкі, што і з перастрэлкамі. Напружанасць на мяжы за год службы ўзрасла ў некалькі разоў. Улетку 1939-га тая напружанасць ўжо мела правакацыйны характар. Бакі вінавацілі адзін аднаго. Нават сярод насельніцтва ўжо ў голас гаварылі пра набліжэнне вайны з Польшчай. Толькі не ведалі: хто распачне першым, рускія ці палякі? А як высветлілася крышачку пазней ніхто не ўгадаў, з якога боку вайна прыйдзе. І прыйшла яна, як усім вядома, з боку фашысцкай Германіі.

1 верасня 1939 года Гітлер з Захаду напаў на Польшчу. А 17-га верасня савецкае войска, перайшоўшы савецка-польскую мяжу, з Усходу распачало адваёўваць у палякаў Заходняю частку Беларусі. І як вынік, Войска Польскае было разбіта ўшчэнт, а сама Польшча спыніла сваё існаванне як дзяржава. У лістападзе таго ж года Заходняя частка Беларусі, была афіцыйна далучаная да Усходняй. Пасля чаго тэрыторыя БССР павялічылася ў два разы. Але яшчэ доўгі час, аж да лета 1940-га, застава з савецкага боку ў Панышах не здымалася. Жыхарам не дазвалялася вольна пераходзіць, хоця ўжо і былую мяжу. Бліжэй да восені, абмежаванні былі знятыя. І жыхары маглі бесперашкодна наведваць памежныя вёскі. Да прыкладу, дзеткі з Лукаўца і Батурына пайшлі вучыцца ў Калачэўскую школу. А людзі з Калачоў і іншых вёсак хадзілі на працу ў Лукавец. Жыццё пачало наладжавацца, але, на вялікі жаль, яднанне Беларусі для заходнікаў абярнулася шматлікімі рэпрэсіямі, якія мелі  вельмі негатыўныя наступствы, асабліва падчас фашысцкай акупацыі.

## *З Лагойшчыны на Беласточчыну*

У сувязі з ліквідаваннем памежнай заставы ў Панышах, нашаму Канстанціну прадбачылася зноў новае прызначэнне. І ён яго атрымаў. На працягу агульнаўзятай шасцігадовай службы на савецка-польскай мяжы, Канстанцін вывучаў польскую мову. І ўжо на прыканцы службы на панышоўскай заставе цудоўна ёю валодаў і не толькі ён адзін, але і іншыя памежнікі


Канстанц. Марысаеў

таксама. Пагэтаму ўвесь асабісты склад Панышоўскай заставы для далейшага праходжання службы быў накіраваны на самы Заходні ўчастак мяжы — Беласточчыну. На новае месца прызначэння, у Польскі гарадок Сакулка, афіцэры, у тым ліку і Канстанцін, прыбылі адразу з сем'ямі. Як кажа Ігар Барысавіч, са слоў свайго таты, Барыса Канстанцінавіча, у ваенным гарадку Сакулцы жылося даволі спакойна. Ды й на мяжы (ўжо савецка-германскай), якая была ўсталявана пасля раздзелу Польшчы паміж пераможцамі, таксама спачатку не ўзнікала ніякіх праблем. Канстанцін Анатольевіч ахоўваў дзяржаўную мяжу, а Вольга Паўлаўна завіхалася ў хатніх жаночых клопатах. Але разам з надыходам вясны прыйшлі і хваляванні сярод насельніцтва. Палякі пачалі ўжо адкрыта казаць, што хутка Гітлер распачне вайну з савета-

мі. Безумоўна, савецкім ваенным і іх сем'ям не верылася ў падобныя заявы палякаў. Таму што свята верылі ў пакт Рыбінтропа і Молатава. Толькі гэта вера з кожным днём, які прыносіў нядобрыя навіны, паступова гасла. А калі ўжо ў чэрвені амаль кожны дзень у паветры над Беластокам і Сакулкай завісалі нямецкія рамы-разведчыкі, усе ілюзіі ў моц таго пакта зніклі. На мяжы адчувалася вялікая псіхалагічнае наружанне, з-за нахабных паводзінаў нямецкага боку. Афіцэры-памежнікі былі цалкам упэўнены, што вайна непазбежна і можа распачацца ў любую хвіліну. І калі на ранку 21-га чэрвеня, дайшлі чуткі, што дзесьці пад Гродна высадзіўся нямецкі дэсант, камандаванне аддала загад афіцэрскаму складу, адпраўляць свае сем'і, як мага падалей ад мяжы, хаця бы ў цэнтр Беларусі. Для эвакуацыі сямей былі выдзелены газагенератарныя грузавікі.

## *Эвакуацыя ў тыл*

Сем'і сабраліся аператыўна, прыхапіўшы з сабой толькі самае неабходнае: дакументы, харчы ды з вопраткі па вузялку. Аўтамабілі рухаліся вельмі павольна, з хуткацю не болей сарака кіламетраў за гадзіну. Ды яшчэ час марнаваўся на частыя прыпынкі, каб нарыхтаваць бярозавых чурбанкоў для аўтамабільнага газагенератара, які выпрацоўваў паліва для рухавіка “палутаркі”. А адной такой “запраўкі” хапала толькі на гадзіны дзве бесперапыннай язды. Перабраўшы Валожына ўжо на зыходзе дня, машыны звярнулі з дарогі ў бярозавы гай на начоўку і заадно нарыхтаваць паліва для жалезнага канька. Стомленыя яздой пад чэрвеньскай сонцаспёкай усе, не вылазячы нават з кузавоў у момант пазасыналі як жыта прадаўшы. Людзі адпачывалі, і нават у сне ніхто не мог сабе ўявіць, што гэта іхняя апошняя спакойная і мірная ноч. І тое што на ранку іх прабудзяць не пеўні вясковыя, а гул варожых самалётаў у небе і бомбавыя разрывы. Але, на вялікі жаль, гэтак яно ўсё

і здарылася. Людзі прачнуліся на досвітку ад бесперапыннага гула самалётаў і жудасных бомбавых разрываў, ад якіх вушы закладала ды зямля пад нагамі хадуном хадзіла. Усе зразумелі- гэта вайна! Ва ўсіх паўстала адно пытанне: што рабіць далей і куды рухацца? Так як сярод пасажыраў былі, галоўным чынам, толькі жанчыны з дзецьмі,то абавязкі прымаць рашэнні ўзялі на сябе кіраўнікі. І яны як людзі ваенныя вырашылі працягваць шлях да Мінска. Але ўлічваючы ўсе абставіны, бесперапыннае бамбаванне Маладзечна і пастаянны паветраны кантроль дарогі нямецкімі самалётамі, якія раз-пораз праляталі над ёй, вырашылі працягнуць рух у начны час. А каб немцы з паветра не заўважылі аўтамабілі, іх замаскіравалі галлём. Удзень, бамбаванне Маладзечна прыціхла,толькі вялічэзныя слупы дыму над ім уздымаліся да самага вечара. А як пачало шарэць калона кранулася ў бок Мінска. Праязджаючы праз Маладзечна, ніхто не верыў сваім вачам, думалася, што гэта ўсё страшны сон. Але гэта не было сном, горад сапраўды быў ахоплены полымем і было відаць, што яго ніхто не тушыў, таму што хутчэй за ўсё справіцца з такім маштабам узгарання не было магчымым. Рухаліся ўначы без прыпынкаў на “запраўку”, таму што ўдзень пакуль стаялі, чурбакі загрузілі не толькі ў бакі, але нарыхтвалі іх празапас у кузавы. На іх жа і сядзелі. Гэта дазволіла значна скараціць час на дарогу. Пераадолелі апошні шлях да Мінска можна сказаць нядрэнна.Толькі адзін раз патрапілі пад абстрэл нямецкіх знішчальнікаў, але абышлося без ахвяраў. Калі прыехалі ў Мінск Вольга з дзецьмі падалася аразу на вуліцу Кастрычніцкую, дзе пражывала яе цётка. Прыняла яна Вольгу і дзяцей добра, была нават рада, што ў гэты цяжкі час яна не будзе адзінокай. Але радасць тая нядоўга цешыла. На наступны дзень Вольга з дзецьмі і цётка кудысьці пайшлі па нейкай патрэбе ў горад. І калі хадзілі, нямецкія самалёты зноў зрабілі налёт. Бомбы сыпаліся па ўсяму

гораду. Перасядзеўшы бамбаванне ў бомбасховішчы, нашы гераіні пайшлі дадому. А калі прыйшлі на Кастрычніцкую, то ўбачылі на тым месцы, дзе некалькі гадзін таму стаяў іх дом, дымілася вялізная гара цэглы, даху, разламаныя вокны і мэбля. Карацей кажучы, толькі гара смецця. Усё звялося да аднаго, у горадзе ім больш немесца. І не марудзячы часу, Вольга з дзецьмі і цёткай падаліся на Даўгінаўскі тракт, у спадзяванні даехаць на чым-небудзь у родныя свае Вяпраты. Але не там то было. Па тракту рух быў толькі ў адзін бок, на Мінск. Адны ехалі, а іншыя валакліся пешшу, паглядаючы са здзіўленнем на лічаных сустрэчных хадакоў, якія ішлі супраць ветру і рэальнасці, насустрач фашысцкім захопнікам, ад якіх усе збягалі. Толькі ніхто не задумваўся, што гэтым хадакам ісці больш няма куды і адна надзея засталася на бацькоўскую хатку-куратнік у Вяпратах. А як туды дабіраліся, у памяці на той час пяцігадовай Валянціне Канстанцінаўне не захавалася. А вось жыццё, а больш правільна будзе сказана, выжыванне ў Вяпратах пад трохгадовай акупацыяй, ёй запомнілася добра, а старэйшаму брату Барысу тым больш. Яго сын Ігар сёння вельмі шкадуе, што пры жыцці таты, мала цікавіўся пра яго ваеннае дзяцінства. Але некаторыя самыя памятныя моманты



МАРЫСАЕЎ БАРЫС КАН.

ваеннага ліхалецця Барыс Канстанцінавіч данёс сваім нашчадкам. З чым і падзяліўся са мной Ігар Барысавіч.

## *Вяртанне ў бацькоўскі дом*

Тата яму распавядаў, што калі яны тады надвячоркам дабраліся з Мінска ў Вяпраты, то бацькоўскі дом засталі пустым і без курэй, толькі быў моцна загаджаны. Ну не дзіва ж канешне. Як ніяк цэлых тры гады калгас курэй у ім гадаваў. Як пазней высветлілася, старшыня калгаса ўжо на другі дзень, як распачалася вайна, атрымаў загад зверху, усю калгасную маёмасць і жыўнасць тэрмінова параздаваць калгаснікам для захоўвання на час вайны. Што і было зроблена. Толькі Марысаевым нічога не дасталося. Ім старшыня не вярнуў нават экспрапрыіраванага ў 1938-ым іх коніка і іншую жыўнасць. Нават у дом спрабаваў не пускаць, спасылаючыся на пастанову “тройкі”, аб поўнай яго канфіскацыі на карысць калгасу. Але ўсё ж, ”дазволіў” сям'і пажыць да канца вайны ў іхнім жа доме. Першапачаткова прытуліліся ў суседзяў. А пасля як большменш навялі парадак у сваім доме, перайшлі ў яго. Абжываліся як маглі, дабывалі якія можна было запасы харчовыя. Збіралі і сушылі ягады ды грыбы ў запас, бо разлічваць не было на каго. Праз нейкі час вёску пачалі наведваць немцы з паліцаямі, пасля якіх жыць пачалі пад пастаянным страхам. Неяк аднойчы прыехалі немцы і пачалі дапытваць Вольгу Паўлаўну, дзе яе муж камуніст і камандзір Чырвонай Арміі? Вольга адказала, што на фронце і што ён ніякі не камандзір, а чырвонаармеец і беспартыйны. Паверылі тады ёй немцы ці не, невядома. Але, зрабіўшы вобшук, з’ехалі.

Аднойчы сярод вераснёўскай ночы Марысаевым ціхенька пастукалі ў акно. Калі Вольга спытала, хто там? То ад адказу з вуліцы ў яе падкасіліся ногі, бо за акном яна пачула голас свайго Канстанціна. Колькі было радасці ад сустрэчы, але і страху

адначасова, што немцам вядома праўда пра яго партыйнасць і афіцэрства. Канстанцін прыйшоў не адзін, з ім былі яшчэ пяцёра чырвонаармейцаў. Усе былі апранутыя ў савецкую ваенную форму з усімі знакамі адрознення і нядрэнна ўзброеныя, нават трафейнымі аўтаматамі. Вольга пакарміла ўсіх, чым магла. Распавяла падрабязна пра небяспечнае становішча ў Вяпратах і наваколлі. Пра немцаў і невядомых бандытаў, якія раз-пораз паяўляюцца ў вёсцы. І што ім дома заставацца вельмі рызыкована, таму што ў кожнай вёсцы немцы маюць сваіх інфарматараў. Пагэтаму наляцець яны могуць знянацку і ў любую хвіліну. Канстанцін жа ў сваю чаргу расказаў пра сябе дзе, што і як.

У той дзень як сем'і былі адпраўлены, увечары 21-га чэрвеня паступіў загад, быць у поўнай баявой гатоўнасці. Ляглі спаць не распранаючыся. На досвітку ў 3-30 па гарнізону была абвешчана баявая трывога. Пасля чаго ўвесь асабісты склад гарнізона выступіў у напрамку дзяржаўнай мяжы. Калі да мяжы заставалася з вярсту, раптам усё вакол завыла, заграхатала, і зямля пад нагамі хадуном захадзіла.Ад узрываў слупы зямлі падымаліся, здавалася да самага неба, якога ўжо не было бачна за дымам і пылам. Вакол усё, што магло гарэць — гарэла, што пыліць — пыліла, што дыміць — дыміла. Чыстае паветра пераўтварылася ва ўдушлівы газ. Усе як па камандзе (хаця яна не падавалася) ірванулі з дарогі і заляглі воддаль ад яе на збочыне, прыціскаючыся да самай зямлі. А снарады ўсё працягвалі выць і ўзрывацца, выць і ўзрывацца. Калі кананада прыціхла, паступіла каманда: “Стройся!” Не паспела і палова чырвонаармейцаў падняцца на дарогу, каб працягнуць рух далей да мяжы, як заўважылі наперадзе на дарозе і на палетках нямецкіх матацыклістаў. Услед паступіла каманда адставіць пастраенне і заняць абарону. І ўжо цераз хвіліну завязаўся моцны бой. Колькі ён цягнуўся, 10-20 хвілін, вызначыць было

складана. Але здавалася, што цэлую вечнасць. Немцы ўпэўнена лезлі наперад, таму што чырвонаармейскія трохлінейкі супраць нямецкіх кулямётаў ды аўтаматаў устаяць не маглі. А тут яшчэ патроны амаль усе зрасходваліся. Каб пазбегнуць акружэння, вымушаны былі адступіць да лесу. З месца боя адступіла толькі трэцяя частка гарнізоннага складу. А астатнія засталіся ляжаць на полі, для іх той бой быў першым і апошнім. Гарнізоннае камандаванне было ў разгубленнасці, таму што апынуліся ў поўнай інфармацыйнай ізаляцыі. Адправілі разведку наперад да мяжы, праз дзве гадзіны, не дачакаўшыся першай групы пайшла другая. Праз тры гадзіны вярнуўся адзін разведчык другой групы, які паведаміў, што вакол і на мяжы гаспадараць толькі немцы. Атрад рушыў у бок Сакулкі, бо ў тым баку было чуваць, што ішоў бой. Падышоўшы да Сакулкі, убачылі, што з мястэчка вядуць бой чырвонаармейцы з наступаючымі на іх немцамі. Гарнізонны атрад, падкраўшыся з тылу да ворага як мага бліжэй, сходу амаль ва ўпор растраляў ўсіх наступаючых на Сакулку немцаў. Безумоўна, гэта была першая перамога. Два атрады аб'ядналіся і рушылі па мястэчу. А як высветлілася праз некалькі хвілін, немцы занялі Сакулку толькі з другога боку і да цэнтра. Атрад вымушаны быў адысці, бо не было сэнсу завязваць бой з вялікай нямецкай гру-


Ігар Барысавіч Марысаеў

поўкай. Прыхаваўшыся ў лясным масіве, аб'яднаны атрад чакаў пасланых разведчыкаў. Разведчыкі вярнуліся з папаўненнем. Злучанае падраздзяленне ўжо дасягала роты. А гэта ўжо моц. Разведка далажыла, што галоўныя сілы ваеннай акругі хутчэй за ўсё рассеяныя. Бо франтавой лініі фактычна няма. А тое што вядуць баі толькі асобныя групоўкі і ў розных мясцінах, адзначала адно: усе яны апынуліся ў варожым акружэнні. Улічваючы тое, што страляніна і ўзрывы гучалі з усіх бакоў, было складана вызначыцца куды ў які бок браць накірунак для прарыву з househ пасткі. Узялі накірунак на Усход у бок Гродна, дзе больш грамыхала і страляла, у спадзяванні на далучэнне да галоўных сіл Арміі. З-за пастаянных сутычак з нямецкімі групоўкамі, якія мабыць выконвалі функцыю зачысткі, прарыў вельмі ўскладняўся. У начны час баі прыціхлі, але рухацца наперад было вельмі рызыкована. Можна было нарвацца на нямцкую засаду, а яшчэ горш сутыкнуўшыся са сваімі, начная цемра магла б справацыраваць перастрэлку паміж сваіх. Пагэтаму пачалі прабівацца толькі назолку. Абышоўшы Гродна з Паўднёвага боку з баямі рухаліся наперад, на ўсход. Разагнацца не давалі абходы адкрытых мясцовасцяў і населеных пунктаў. Такія ўмовы не скарачалі разрыў паміж атрадам і гэтак званай лініяй фронта, а наадварот, павялічвалі яго. Рух на ўсход працягваўся вельмі марудна, з-за пастаянных сутычак з немцамі, якіх пазбегнуць было ўсё складаней і складаней. А фронт тым часам маланкава адыходзіў на Усход. На чацвёрты дзень вайны,так і не дасягнуўшы сваёй мэты па далучэнню атрада да галоўных сіл Арміі, было вырашана прабівацца да сваіх малымі групамі самастойна. У групу Канстанціна ўвайшло 11 чалавек. Але цяжкасці складаліся яшчэ з шэрагу іншых прычын. Па-першае, за чатыры дні чырвонаармейцы без адпачынку выматаліся ўшчэнт. Па-другое, людзі засталіся без харчу і вады. А калі дабыць у якой-небудзь вёсцы, то патрэбна

было яшчэ добра падумаць: як гэта ажыццявіць? А справа ў тым,што насельніцтва Заходняй Беларусі, галоўным чынам, ставілася да чырвонаармейцаў не зусім добразычліва. Таму што яны ў чырвонаармейцах бачылі тую ж самую савецкую ўладу. Уладу, якая ў 1939 годзе, пазбавіла заходнікаў уласнасці і ў першую чаргу-зямлі, менавіта па якой беларусы-заходнікі і плакалі, а не па Польшчы панскай. Але не гледзячы на ўсе цяжкасці і негатыўнае стаўленне насельніцтва да чырвонаармейцаў, вайскоўцам усё ж удавалася набываць жыццёванеабходныя рэчы. У "перагаворы" з сялянамі ўступаў, галоўным чынам, Канстанцін. Яго афіцэрскае званне вымушала насельніцтва падпарадкоўвацца, а добрае валоданне польскай мовай у людзей выклікала нейкі ўнутраны давер да Канстанціна. І вось нарэшце пасля амаль трохмесячнага блукання па лясах і балотах, робячы адзін крок наперад два назад ды губляючы сваіх сяброў, Канстанцін з парэшткамі сваёй групы, дабраўся ў Вяпраты. Тут яму стала вядома пра ваенныя абставіны ў наваколлі, а самае галоўнае, што даведаўся, на колькі гэта было магчыма, пра становішча на самім фронце. Канстанцін як кадравы ваенны цудоўна разумеў, што без сувязі далейшы шлях да сваіх не мае сэнсу. І заставацца дома ў Вяпратах яму, а тым больш усёй групе смерці падобна.Таму што калі немцам аб гэтым стане вядома(а ім абавязкова данеслі бы), то не толькі сям'ю паставяць пад растрэл,


ХАТА ГІЛЯЎ У ВЯПРАЦЕ,1916Г.

але і ўсіх жыхароў Вяпратаў. Пагэтаму, перасядзеўшы на гарышчы суткі, пакуль Вольга сабрала для Канстанціна і яго сяброў неабходныя рэчы і інструмент: пілы, сякеры, рыдлёўкі. Група ўначы пакінула Вяпраты. Канстанцін адвёў групу ў лясны масіў паміж Панышамі і Жабічамі. Яму цудоўна былі вядомы ўсе гэтыя мясціны, таму што падчас службы на Панышоўскай заставе, будучы заядлым паляўнічым, Канстанцін увесь свой вольны час вабіў у гэтых лясах. А пасля, пабраўшы шлюб з Вольгай, Вяпраты для яго ўвогуле сталі другой Радзімай. Група, падабраўшы больш прыдатнае і адпавядаючае ўсім ваенным характырыстыкам месца, пабудавала зямлянку. Абжыўшыся, з вялікай асцярожнасцю пачалі расшукваць сувязі з дзеючымі патрыётамі Беларусі, якія вялі кропкавую барацьбу з ворагам, здзяйсняючы тэракты на дарогах, чыгунках. Адшукаць нябачных барацьбітоў было вельмі складана. Таму што ўсе баяліся адзін аднаго, бо здраднікам мог апынуцца, хто ўгодна. Канстанцін са сваёй групай час ад часу самастойна рабіў вылазкі на варожыя аб’екты, на былую польскую тэрыторыю Заходняй Беларусі, для папаўнення запасаў правіянтам і зброяй. Думкі пра пераход лініі фронта не давалі спакою. Да сям’і ў Вяпраты, Канстанцін наведваўся вельмі рэдка і заўжды толькі ў начны час, каб пра яго візіты не западозрылі вяскоўцы. Дачакаўшыся ў лесе вясны, група ўжо збіралася да паходу на Усход за лінію фронта. Але ўсё абарвалася і скончылася трагізмам у самым пачатку красавіка 1942 года. Як толькі не асцярагалася група, каб сябе не выдаць, не атрымалася.

### ***Здрада***

Адзін паліцай з суседняй вёскі, нейкім чынам, даведаўся, што Канстанцін па начах наведвае сваю сям’ю. Справа заставалася за малым, высачыць, калі госць заявіцца, і ўслед данесці немцам. Што ім і было зроблена, калі ў адзін з красавіцкіх

вечароў, Канстанцін з адным сваім саслужыўцам наведаў сваю сям'ю ў Вяпратах. Немцы спрацавалі аператыўна.Позна ўначы яны ціхенька акружылі бацькоўскі дом, у якім гасцяваў Канстацін з сябрам. А пасля ў нейкі момант увесь падворак і пабудовы на ім з усіх бакоў немцы асвятлілі ліхтарамі, ад якіх стала светла як ўдзень, хоць іголкі збірай. І ўслед цераз гукаўзмацняльнік немцы загадалі ўсім, хто знаходзіцца ў акружаным доме, выходзіць з паднятымі рукамі і без зброі. І калі загад будзе выкананы, нямецкае камандаванне здыме адказнасць з мірных жыхароў, бо ім патрэбныя толькі ваенныя асобы. Інакш усе ў адзін момант будуць знішчаныя. Канешне ж, Канстанцін з сябрам адразу цвяроза як ваенныя ацанілі абставіны для іх у дадзены момант і пры любым раскладзе шанцаў выжыць ужо не заставалася. А вось для сям'і хоць невялікі, але заставаўся. Пагэтаму яны склалі зброю ў спадзяванні на тое, што фашысты стрымаюць сваё слова і не парашаць сям'ю. Калі жыльцы і госці выйшлі з дома, немцы сходу скруцілі Канстанціна і яго сябра, а сям'ю пад аховай паставілі воддаль. Услед зладзілі паўсюдны вобшук. Перавярнуўшы ўсё што толькі магчыма было перавярнуць і не знайшоўшы нічога забароненага, сям'ю ўсё ж такі адпусцілі, а Канстанціна з сябрам забралі з сабой.



ЛЯДОЎНЯ МАЁНТКА БАРОЎСКІХ У ЛУКАЎЦЫ

Як высветлілася пазней, іх адвезлі ў Лукавец, у былы маёнтак паноў Бароўскіх, дзе зладзілі ім допыты з жудаснымі катаваннямі. Іх некалькі дзён трымалі

ў падвалах панскай лядоўні, побач з сядзібным панскім домам, у якім і праводзіліся допыты. Невядома пра што ў іх дапытвалі? Але тое, што яны трымаліся мужна, Вользе распавёў ляснік па прозвішчу Супрон з Дзянісак, які ў той час таксама сядзеў пад арыштам разам з Канстанцінам. Не магчыма было не паверыць ў расповяды лесніка. Таму што Канстанцін праявіў сваю мужнасць яшчэ падчас арышту каля дома. Калі на пытанне немцаў хто ён, Канстанцін з гонарам адказаў: "Я камуніст і камандзір Чырвонай Арміі!" Што сцвярджалі яго дакументы і форма савецкага вайскоўца з воінскімі знакамі адрознення. Немцы растралялі Канстанціна і яго сябра 9 красавіка 1942 года ў ніжнім маёнткавым парку, сярод ліп. Аб гэтым Вользе паведаміў той самы ляснік Супрон. Якога разам з іншымі вязнямі, моцна збітых падчас допытаў, немцы вызвалілі на наступны дзень пасля растрэлу Канстанціна. Як я ўжо пісаў вышэй, Вольга спрабавала забраць цела Канстанціна, каб пахаваць, але як нам ўжо вядома, тая спроба для яе самой ледзь не абярнулася трагедыяй. Пасля той спробы цераз нейкі час, да Вольгі прыехалі паліцаі з допытамі яе і суседзяў: ці адлучалася яна з вёскі апошнімі днямі? Пасля таго як паліцаі ўпэніліся, што Вольга не сыходзіла з вёскі, то распавялі і прычыну допытаў. Якія мелі сувязь са знікненнем цел растраляных у Лукаўцы, яе Канстанціна і яго сябра.Такая навіна Вольгу вельмі ўсхвалявала. І яна вырашыла сама разгадаць загадку знікнення цел загінуўшых. І для гэтай мэты Вольга абрала Батурынскі касцёл, бо толькі ў касцёле падчас імшы збіраецца найбольшая колькасць парафіян. І гэта дае самую эфектыўную магчымасць атрымаць поўную інфармацыю на любую тэму. Што Вольга і скарыстала, пайшоўшы ў касцёл на бліжэйшае Набажэнства. Пасля службы да Вольгі падышоў ксёндз Вацлаў Сэнк і першы распачаў гутарку на балючую для Вольгі тэму: "Ведаю ваша гора і выказваю вам свае спачуванні. А па пытанню, якое вас хвалюе, звярніцеся ў плябанію да Агаты, яна вам дапаможа."

Агата прыслужвала пры касцёле і была заўжды ў веданні ўсіх падзей. Былі ёй вядомыя ўсе падрабязнасці і па Вользінай бядзе. Агата паведаміла, што ёй на самой справе вядома, дзе пахаваны муж Вольгі і яго сябра і што яна гатова паказаць іх агульную магілку. І Агата з Вольгай пайшлі на Навасёлкаўскія могілкі. А каб ніхто не западозрыў сапраўдную прычыну іх візіту на могілкі, было дамоўлена, што прыпыняцца каля магілкі не будуць. Агата толькі пакажа дакладнае яе месцазнаходжання. Ад граха падалей, гэтак і зрабілі. Параўняўшыся з магілкай, Агата толькі вачыма і шэптам указала на яе. А пасля, як ішлі назад у Батурына, распавяла больш дакладней, як і хто скраў і пахаваў загінулых. Што гэта здзейсніў пятнаццацігадовы юнак з Батурына, Вітак. Але зараз наведваць яго і магілку таксама ні ў якім разе нельга. Патрэбна патрываць да канца вайны. Інакш для ўсіх можа скончыцца вельмі дрэнна. І яшчэ Агата распавяла пра здрадніка, які данёс немцам на Канстанціна. Ім апынуўся паліцай з суседняй вёскі Панышы. Прыйшоўшы дадому, Вольга распавяла сваім блізкім, што ёй атрымалася даведацца і пра месца пахавання мужа і хто той адчаюга, які рызыкуючы сваім жыццём і жыццямі сваіх родных, пахаваў па-хрысціянску зусім невядомых чужых людзей.

## *Пакаранне здрадніка*

А пра здрадніка Вольга распавяла не толькі ў сям'і, але інфармацыю пра яго перадала цераз дванаццацігадовага сына Барыса ў лес Канстанцінавым сябрам. Якія ў хуткасці, падабралі момант, калі той здраднік-паліцай прыехаў дадому, жорстка яго пакаралі. Сябры, каб не нарабляць шуму, знянацку прапаролі здрадніка віламі, а пасля параненага, звязанага і з заткнёным ротам, адвалаклі на балотнае возера. Там, распрануўшы яго да гала і прывязаўшы да бярозы на палутарамятровай вышыні, пакінулі на суд камароў і ваўкоў. І яшчэ надпіс: “Гэтак

будзе з кожным здраднікам!” Калі цераз тыдзень паліцаі знайшлі свайго калегу, больш правільным будзе сказана, тое што ад яго засталося, пасля камарынага і ваўчынага “суда” над здраднікам, амаль ва ўсіх жыхароў адпала жаданне ісці не тое што ў паліцыю, а нават старастам вёскі. Жорстка?! Так, жорстка! Дык жорсткасць заўжды нараджала жорсткасць, бо гэта непазбежны прынцып БУМЕРАНГА. Пагэтаму мы і сёння, каб жыць у згодзе і міры, заўжды павіны памятаць спрадвечны прынцып БУМЕРАНГА. Пасля таго выпадка да канца вайны заставалася яшчэ больш двух гадоў. За тыя два гады шмат адбылося непрадбачных падзей, усім яшчэ ні адзін раз прыйшлося прайсці праз розныя страшэнныя іспыты ваеннага ліхалецця. Калі прыйшло вызваленне і настаў доўгачаканы мір. Калі ўжо непатрэбна было каго-небудзь баяцца, Вольга адразу бязбоязна пайшла на магілку свайго мужа, каб яму пакланіцца і аздобіць па-сапраўднаму месца пахавання загінуўшых. І канешне ж, наведаць Батурына, каб перадаць падзяку Арцішэўскаму Вітаку Ігнатавічу за яго хрысціянскія пачуцці, чулае сэрца да іншых, за яго смеласць і патрыятызм. Хоць час пасляваенны і быў не з лёгкіх, працаваць у калгасе вымушаны былі ад цямна да цямна, але Вольга з дзецьмі не забывалася наведваць магілку мужа і Арцішэўскіх у Батурыне. У 50-ых і 60-ых гадах, калі па ўсёй краіне праводзілася перапахаванне адзіночных воін-


Сям'я Марысаева Ігара

скіх пахаванняў у агульныя брацкія магілы, Вользе Паўлаўне прапанавалі таксама даць згоду перапахаваць і яе мужа, Марысаева Канстанціна Анатольевіча ў брацкую магілу ў Іллі, але яна і сёстры Канстанціна адмовілася ад той прапановы, хоць і ведалі, што з-за гэтай адмовы яны страцяць статус сям’і загінуўшага на фронце. І сёння нашчадкі і ў першую чаргу дачка Канстанціна Анатольевіча, не шкадуюць аб тым рашэнні сваёй матулі. Родныя шануюць памяць па загінуўшым. Яны кожны год наведваюць яго магілку, на якой усталяваны помнік з фотаздымкам. Вольга Паўлаўна Марысаева (Гіль) больш замуж не выйшла. Адна, без дзяржаўнай дапамогі, выхавала і вывела ў людзі сына Барыса Канстанцінавіча і дачку Валянціну Канстанцінаўну. Вольга Паўлаўна ўсё жыццё да самай пенсіі адпрацавала ў калгасе “13 год РСЧА”. Пасля выхаду на пенсію, пакінуўшы бацькоўскі дом на калісьці рэпрасаванага брата Дзмітрыя Паўлавіча і сына Барыса Канстанцінавіча, пераехала жыць да дачкі Валянціны ў Лагойск, дзе і пражыла да канца дзён сваіх. У 1997-ым годзе Вольгі Паўлаўны не стала. І на прыканцы я хачу падзякваць за ўспаміны галоўным сваім кансультантам гэтага матэрыяла. Які, на маю думку, атрымаўся цікавым і пазнавальным. Гэта: Марысаева Валянціна Канстанцінаўна 1936 г.н., родная дачка Канстанціна Анатольевіча. Унук Канстанціна Анатольевіча, Марысаеў Ігар Барысавіч 1960 г.н. Шмат цікавай і карыснай інфармацыі з успамінаў яго таты Барыса Канстанцінавіча 1930-2011 г.г. ён перадаў мне. Магу вас, шаноўныя чытачы, запэўніць у тым, што без яго інфармацыі тэкст быў бы далёка няпоўным і адпаведна не такім цікавы. Дзякуй Вам вялікі, шаноўныя субяседнікі. Дзякуючы Вам, Вашай памяці і неабыякавасці да гістарычнага мінулага, мы разам з Вамі перагарнулі чарговую старонку, невядомай гісторыі нашага краю.

# *ШЫПКІ І ЯЕ ЛЮДЗІ*

80 год таму ў Берліне памёр наш зямляк, ураджэнец вёскі Шыпкі, што на Вілейшчыне, Рыгор Курац. Чым вядомы гэты вясковы сын заможных беларускіх сялян на Радзіме, а таксама ў Літве і Польшчы. А тым, што сённяшні літоўскі горад Грыгішкі (Гжэгажава) названы ў яго горар. І тым, што ў пачатку мінулага стагоддзя вясковец з Шыпкоў стварыў тут кардонную фабрыку, вядомую не толькі ў Польшчы, а ў Германіі, Італіі, Аўстрыі, Скандынавіі.

## *Крыху з гісторыі Шыпкоў*


Міхал Клеафас Агінскі

Але давайце з самага пачатку. Калі зазірнуць ў мінулае 18 стагоддзя, то сённяшнія Шыпкі былі падзеленыя на Шыпкі і Шыпкі Зарэчныя (Зарэчча). У той час, да 1794 года, яны былі ва ўласнасці Міхала Клеафаса Агінскага. Але пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай усю яго ўласнасць за актыўную падтрымку паўстання Тадэвуша Касцюшкі канфіскавалі ў казну

Расійскай імперыі. Пасля чаго ўсе былыя ўладанні Агінскага расійская іператрыца Кацярына Другая перадала ва ўласнасць расійскаму генералу Мікалаю Салтыкову. Пазней Шыпкі адышлі да маёнтка Асцюковічы, ва ўласнасць Ігнація Тукалы. На працягу 19 стагоддзя Шыпкі памянялі шмат гаспадароў: адны набывалі паселішчы ва ўласнасць, а іншыя арандавалі. Гэта Аляксандр Стракоўскі, Антоні Свірскі, Эдвард Пашкоўскі, Ян Хаецкі, Юстына Свентаржэцкая, Лангін Капец (Копаць). На прыканцы стагоддзя ў Шыпках налічвалася каля сарака двароў з насельніцтвам 250 жыхароў. А ў Шыпках Зарэчных — тры двары і 22 жыхары. Сяляне, якія мелі свой кавалак зямлі, працавалі на ёй і вымушаныя былі батрачыць амаль дарма на барскіх землях, на дзеючым млыне і сукнавальні. Беззямельныя працавалі ў суседняй Раёўцы на кардоннай фабрыцы, якая была тут пабудавана ў 1889 годзе на прытоку Віліі, Рыбчанцы. Фабрыкант І. У. Грыгаровіч таксама заробкам не раскідваўся. Гэта падштурхоўвала рабочых да крайніх мер, да забастовак.

## *Працавіты і кемлівы Грышка*

У пачатку 20 стагоддзя грамадскія хваляванні набіралі абароты. І калі ў 1905 годзе ў Расіі пачалася першая руская рэвалюцыя, рабочыя Раёўскай кардоннай фабрыкі не прамінулі моманту і зладзілі нядзельную забастоўку. Усё зводзілася да таго, што быццам бы зачыншчыкам супраціву быў Рыгор Курац, інжынер-механік згаданай фабрыкі. На яго асобе спынюся падрабязней.

Рыгор Іванавіч Курац нарадзіўся ў суседняй з мястэчкам Раёўка вёсцы Шыпкі Хаценчыцкай воласці Вілейскага павета 18 сакавіка 1868 года ў заможнай сялянскай сям'і Яна і Юстыны Курцаў. Гледзячы на сваіх бацькоў, Грышка рос працавітым і ініцыятыўным хлапчуком. Бацька Ян яшчэ ў раннім Грышкавым дзяцінстве заўважыў яго кемлівасць да тэхнікі.


Грыгорый Іванав. Курац

Таму, калі ў 1885 годзе граф Грыгаровіч пачаў будаваць кардонную фабрыку ў суседняй Раёўцы, Ян Курац уладкаваў туды на працу свайго Грышку. Юнак працаваў шчыра, адказна, з зацікаўленасцю. Граф заўважыў адданасць хлопца. І калі праз чатыры гады фабрыка запрацавала, Грыгаровіч прызначыў Грышку падмайстэркам. А праз год накіраваў на вучобу ў Піцер, на знакаміты Пуцілаўскі завод. Пасля вучобы і двухгадовай практыкі на буйным Уральскім заводзе, Рыгор Курац вярнуўся ў Раёўку з дыпломам інжынера-механіка, гідрамеханіка. Але папрацаваць доўга не склалася з-за рэвалюцыі 1905 года. Тады Рыгор апынуўся амаль у цэнтры падзей, што адбываліся на фабрыцы. Рабочыя выставілі фабрыканту Грыгаровічу свае ўмовы працы. А калі той і павятовая ўлада не пагадзіліся з патрабаваннямі забастовачнага камітэта, рабочыя паламалі станкі, некаторыя агрэгаты павыкідалі ў рэчку, гаспадара выгналі з маёнтка, а маёмасць яго разабралі. Па словах аўтара, Рыгор Курац не любіў фатаграфавацца. Знайшоўся адзін партрэт не лепшай якасці.Пасля гэтага граф Грыгаровіч звярнуўся са скаргай да ўлады ў Маладзечна. Для навядзення парадку і разгону пратэстоўцаў у Раёўку накіравалі сотню казакоў, якія зладзілі крывавую расправу над забастоўшчыкамі. Сярод пратэстоўцаў былі забітыя і пакалечаныя, у тым ліку жанчыны,

сталыя людзі і дзеці. Забягаючы наперад, скажу, што Раёўка і сёння памятае тую крывавую нядзельку. У мінулым стагоддзі мясцовая ўлада і жыхары гэтага мястэчка ўсталявалі на фабрычнай прахадной мармуровую мемарыяльную дошку ў гонар сваіх загінулых продкаў з надпісам: «Рабочыя нашай фабрыкі і сяляне навакольных вёсак прымалі актыўны ўдзел у Першай рускай рэвалюцыі, 1905-1907 гадоў 26 лістапада 1905 года. Яны паўсталі супраць прыгнёту царызму і ўладальніка фабрыкі. Прысланыя ўладай казакі ўчынілі жорсткую расправу. Памяць аб змагарах за народную справу неўміруча». Не так даўно фабрыка перастала працаваць. Але сама дошка захавалася. Яна цяпер — у Раёўскім школьным музеі.

### *Чаму Рыгор Курац пакінуў родныя мясціны*




Але вернемся да падзей таго часу. Пасля жорсткага падаўлення забастоўкі на Раёўскай фабрыцы арганізатарам і стачкамаўцам, каб пазбегнуць арыштаў, неабходна было ісці ў падполле. Але ўлады ўсё ж саслалі на катаргу Івана Кажуру з вёскі Храмцова і яшчэ аднаго стачкамаўца. Рыгор Курац як былы работнік рэвалюцыйнага Пуцілаўскага завода быў таксама падазраваным у арганізацыі супраціву. Стра-

ціўшы да сябе давер гаспадара, ён вымушаны быў пакінуць родныя мясціны. Праз нейкі час апынуўся ў далёкай ад Раёўкі Ковенскай губерні на Капенайскай кардоннай фабрыцы князёў Друцкіх-Любецкіх. Тут яго прызначылі начальнікам вытворчасці. Аднойчы на фабрыку звярнулася жанчына, якой патрэбная была дапамога ў элетраасвятленні ў яе маёнтку сядзібнага дома. Маёнтак быў недалёка ад Вільні, акурат на злучэнні ракі Воке з Нярысам (Віліяй). Выслухаўшы жаданне пані, Рыгор або Гжэгаж, як яго нараклі новыя гаспадары, пагадзіўся выканаць просьбу. Як стала вядома пазней, маладая пані Караліна Юнг паходзіла з нямецкай сям'і. Застаўшыся рана ўдавой, адна вяла немаленькую гаспадарку. Калі Гжэгаж Курац прыехаў у маёнтак пані Караліны, яго зачаравала наваколле. Менавіта тут яму захацелася пабудаваць уласную фабрыку, мару пра якую выношваў даўно. За час працы ў пані Караліны Рыгор ужо ўсё спланаваў. Перад яго вачыма ўжо выразна стаяла фабрыка. А калі праца ў пані Караліны падыходзіла да завяршэння і дом яе асвяціла электрычнае святло, дзелавое знаёмства перарасло ў каханне, што і аб'яднала іх на ўсё жыццё. Праз год 4 мая 1909 года ў сям'і нарадзіўся сын Уладзімір. Караліна даглядала сына і кіравала маёнткам, а Гжэгаж працягваў працаваць на кардоннай фабрыцы князёў Друцкіх-Любецкіх. Але сышоў з яе ў 1912 годзе, скарыстаўшы запрашэнне графа Яна Міхала Тышкевіча з Вакі Троцкай, што каля Лендварова, для рэканструкцыі яго састарэлай папяровай фабрыкі «Waka Murowana», пабудаванай у 1887 годзе.

## *Як пачыналіся Грыгішкі*

Курац узяўся за аднаўленне прадпрыемства з вялікім натхненнем, бо праект гэтай дамовы каштаваў вялікіх грошай. Іх акурат хапіла б на ўласную фабрыку. Але Першая сусветная вайна ўнесла свае карэктывы ў планы Курца. Будоўля ўласнай




Першая кантора

фабрыкі была адкладзеная на нявызначаны тэрмін. Тышкевіч прапанаваў Рыгору на выгадных умовах узяць яго фабрыку ў арэнду. Той пагадзіўся. А калі вайна скончылася і ў 1922 годзе стабілізавалася ўлада, Гжэгаж Курац, пазбягаючы ўсялякіх агалошванняў, скупіў даўно ўжо прыгледжаныя зямельныя пляцоўкі пад будучую кардонную фабрыку. А праз год на гэтай тэрыторыі, якая адпавядала ўсім яго праектным патрабаванням, разгарнуў будоўлю. Гжэгаж ужо меў велізарны досвед у папяровай вытворчасці, былі ў яго і ўласныя ідэі тэхнічных рашэнняў і канструкцыі машын. Ён разумеў, што для гэтага спатрэбіцца крыніца энергіі. Аналізуючы прылеглыя раёны, спыніўся менавіта на тым, які даўно ўжо нагледзеў — недалёка ад вусця ракі Вакі да ракі Нярыс. Каб забяспечыць будучую фабрыку таннай электраэнергіяй, у рэчцы Вацы за кошт пабудаванай плаціны быў падняты ўзровень вады на 12 метраў. Гэтага хапіла, каб пракруціць гідратурбіну магутнасцю ў 150 конскіх сіл, а таксама забяспечыць вытворчыя цахі вадой пры запуску першай чаргі фабрыкі. Абсталяванне на фабрыцы Курац усталёўваў уласнай сваёй канструкцыі і вытворчасці. Толькі асобныя вузлы і агрэгаты па сваіх жа чарцяжах замаўляў на

ліцейным заводзе ў Вільні. У адзін час побач з будоўляй фабрыкі Гжэгаж Курац заклаў падмуркі новага жылога мястэчка з інфраструктурай. Мястэчка атрымала назву Гжэгажава (Грыгішкі) і паходзіла ад імя гаспадара. З-за такога падыходу да справы не было дэфіцыту ў працоўнай сіле. Людзі сюды цягнуліся з розных куткоў краіны. Як бы не намагаўся Курац, але ўтрымаць у сакрэце сваю справу ўжо не атрымлівалася. Чуткі пра новага фабрыканта дайшлі і на яго малую радзіму – у Шыпкі і наваколле. Моладзь і нават цэлыя сем'і мясцовых сялян пачалі з'язжаць пад крыло свайго земляка, Грышкі Курца. А той, ведаючы не пачутках працавітасць сваіх землякоў, нікому не адмаўляў у працаўладкаванні і жытле. Сталі выпускаць паперу і кардон, што раней закуплялі ў Германіі. Усё развівалася хуткімі тэмпамі. Людзі, даверыўшыся абяцанням Гжэгажа ў перспектыўным развіцці прадпрыемства, працавалі з поўнай аддачай, адказнасцю, што і дало станоўчы вынік.

Ужо ў 1925 годзе фабрыка выдала сваю першую прадукцыю — кардон. Пасля пачалася падрыхтоўка да запуску другой чаргі вытворчых ліній. На рацэ Вака была павялічана плаціна, якая падняла ваду яшчэ на дадатковыя чатыры метры. Пабудавалі шэраг каналаў-водаадводаў для прывядзення ў рух дзвюх больш магутных гідратурбін па 450 конскіх сіл кожная. Да 1927 года папяровы асартымент значна павялічыўся і ўключаў у сабе белы кардон і паперу, якую дагэ-




+ Знакаміты Грыгішскі акведук, 1930 год.

туль Міністэрства абароны Польшчы закупляла ў Германіі. У гэтым жа годзе 26 чэрвеня біскуп Казімір Мікалай Міхалкевіч наведаў гэта прадпрыемства для яго асвячэння. Фабрыка набірала моц, а якасная яе прадукцыя пашырала рынкі збыту як унутры караіны, так і далёка за яе межамі. Прадпрыемства Гжэгажа Кураца стала самым буйным у Польшчы і цесна супрацоўнічала з замежнымі кампаніямі Лондана, Стамбула, Венецыі, Берліна, Вены, гарадоў Скандынавіі. У 1928 годзе вырашылі пачаць будаваць трэцюю чаргу вытворчых ліній. Гжэгажская фабрыка, нарошчваючы свае магутнасці, з кожным разам усё больш і больш прыцягвала да сябе ўвагу і славу. Вось што пісала ў тым годзе пра фабрыку газета «Кур'ер Віленскі»: «Гжэгажава – самая вялікая папяровая фабрыка сярод васьмі



1.Уладзімір,2.Караліна,3.Казімір,4.Гжэгаж.1927г.

дзеючых у нашай краіне. На фабрыцы вельмі цікава выкарыстоўваецца гідраэнергія». А цікавасць заключалася ў сістэмах вадазабяспячэння патрэб фабрыкі. Для запуску трэйцяй чаргі патрэбна было павялічваць энэргарэсурсы. Для гэтага Гжэгаж спраектаваў цэлы ланцуг розных інжынерных канструкцый і збудаванняў. Узвялі больш масіўныя плаціны на рэчках Вацы і Меркіс. Пасля чаго ўтварылася штучнае возера Папіс. У выніку ўзровень вады быў падняты на 25-метровую вышыню.

### *Знакаміты акведук у 1930-ым*

Па пракладзеным трохкіламетровым канале вада трапляла на 800-метровае інжынернае збудаванне — акведук. У 1997 годзе гэты акведук рэканструявалі і ўнеслі ў спіс нацыянальных культурных каштоўнасцяў Літвы. Па акведуку вада трапляла на вытворчасць прадпрыемства. Дзякуючы такім збудаванням, на фабрыцы запрацавалі дадатковыя два гідрагенератары на тысячу сіл. У чэрвені 1929 года наш таленавіты зямляк ледзь не загінуў. А здарэнне адбылося непадалёк ад Панерай. Машына, у якой знаходзіліся шафёр Зігмунт Віштарт і Гжэгаж Курац са сваім знаёмым, пераязжаючы чыгунку раптам заглохла акурат па сярэдзіне пераезда. І ў гэтую самую хвіліну з-за паварота на вялікай хуткасці паказаўся цягнік. Цудам усе трое паспелі выскачыць з атамабіля, ад якога пасля сутыкнення з цягнікам засталася куча металалому. У 1930, калі трэцяя чарга фабрыкі была запушчана і запрацавалі ўсе вытворчыя цахі і дапаможныя збудаванні, у тым ліку і акведук, фабрыку з яе тысячным калектывам, наведаў прэзідэнт Ігнацi Масціцкі. Ён шмат чуў пра дадзенае прадпрыемства і яго гападара, таму ўключыў наведванне ў свой шчыльны графік двухтыднёвых паездак па Віленскім краі. Убачыўшы на свае вочы створаную фабрыку, прызідэнт атрымаў прыемнае ўражанне. Асабліва яго ўразіў акведук. Аднак не ўсё было

гладка, бо праз год гаспадара напаткала ліха. Падчас небывалага вясенняга паводка, падняўшаяся на крытычную адзнаку, вада з Нярыса затапіла ўсе цэхі, прычыніўшы велізарную шкоду фабрыцы. Але прадпрыемства было застрахаванае, наступствы паводка ўдалося хутка ліквідаваць. Не паспелі яшчэ ачуняць пасля наступстваў стыхіі, як на жыццё Гжэгажа быў учынены ўзброены замах былым экспедытарам фабрыкі Міхаілам Бейнаровічам. Пасля таго, як гэты Бейнаровіч прайграў у судзе позву па фінансавай канпенсацыі на свайго былога працадаўцу, вырашыў зладзіць самасуд. Забойца высачыў Гжэгажа ў офісе кампаніі «Tektura» на вуліцы Віленскай, 14. І калі той выходзіў з будынка, Бейнаровіч з нагана выпусціў шэсць куль па сваёй ахвяры, адна з якіх усё ж трапіла ў твар Гжэгажу Курцу. Доўгі час ён лячыўся. Пасля ранення на твары застаўся вялікі шрам. Злачынцу падверглі псіхіятрычнай экспертызе ў лякарні Антокаліса. Спачатку яму прысудзілі год зняволення. А пасля вярхоўны суд, улічыўшы канчатковае заключэнне псіхіятраў, давёў тэрмін да чатырох гадоў турмы.

### *Дзяржаўныя ўзнагароды — сыну і бацьку*

Пакуль Курац лячыўся ў лепшых бальніцах Польшчы, фабрыкай кіраваў яго сын Уладзімір. Нягледзячы на маладосць, ён меў добры досвед у кіраванні, бацькава навука пайшла яму на карысць. А калі Гжэгаж падлячыўся і прыступіў да сваіх абавязкаў, Уладзімір вярнуўся да сваіх – спартыўных. Ён меў вялікія здольнасці ў мотаспорце. Нягледзячы на сваю празмерную вагу ад 150 да 200 кілаграмаў, ён на кожных спаборніцтвах займаў прызавыя месцы. Але меў Уладзімір поспехі не толькі ў спорце. Ён яшчэ быў высокакласным авіятарам і пастаянна ўдзельнічаў у спартыўных авіяшоу.

У 1939 годзе Уладзімір Курац за актыўны ўдзел у развіцці паветранага спорту быў узнагароджаны Срэбраным крыжам.



ГЖЭГАЖ КУРАЦ,ПР. МАСЦІЦКІ,УЛАДЗІМІР КУРАЦ

У гэтым жа годзе за высокае развіццё прамысловасці ў краіне ўзнагародзілі Залатым крыжам і бацьку Уладзіміра. Але 1939 год фабрыцы і яе кіраўнікам прынёс не толькі славу і высокія дзяржаўныя ўзнагароды, ён прынёс Другую сусветную вайну. Прадпрыемства страціла пастаўшчыкоў сыравіны і амаль усе рынкі збыту. Гэта прывяло да звальненняў рабочых, бо дарма працаваць ніхто не жадаў. У 1940 годзе ўсё прадпрыемства было ацэнена ў восем мільёнаў і нацыяналізавана. А кіраўніком фабрыкі з дзвюма сотнямі рабочых прызначылі Белабжэцкага. Рыгор пакідае Гжэгажава. Ён едзе ў Берлін, дзе памёр 6 сакавіка 1942 года. Яго сын, Уладзімір, затрымаўся на Радзіме і толькі ў 1944 годзе з’ехаў у нямецкі горад Любек, адкуль была яго маці. Тут пражыў да смерці — да 15 ліпеня 1972 года. Падчас вай-


ПЯТЫ З ЛЕВА СТАІЦЬ УЛАДЗІМІР КУРАЦ.1936ГОД


ЦАХІ ФАБРЫКІ "ГЖЭГАЖАВА" 1928 ГОД.

ны фабрыка знакамітага нашага беларуса была амаль цалкам зруйнаваная. Але падмуркі, каналы-вадаводы і грыгішскі гонар — акведук — ацалелі, што і паспрыяла аднаўленню фабрыкі, якая і сёння лічыцца самай магутнай сярод аналагічных прадпрыемстваў у цяперашняй Літве. Яна мае статус галаўнога прадпрыемства літбумпрама і носіць імя свайго заснавальніка — «Grigeo». Рыгор Іванавіч, жывучы далёка за межамі сваёй Радзімы, памятаў хто ён. Калі настаў час прымаць грамадзянства Польшчы, ён не здрадзіў сваім караням, беларускаму паходжанню і праваслаўнаму веравызнанню. Што і пазначыў у адпаведнай графе пры запаўненні анкеты, ведаючы, што прыняцце такога рашэння прывядзе да страты значных прывілеяў. Лічу, што Рыгор Курац — гонар нашай Вілейшчыны, а магчыма, і ўсёй Беларусі.

# *ІЗНОЎ ПРА ШЫПКІ І ЯЕ ЖЫХАРОЎ*

Працягваем знаёмства з гісторыяй вёскі Шыпкі і яе жыхароў. Некаторыя яе жыхары з'язжалі ў Літву працаваць на прадпрыемствах свайго знакамітага земляка, Кураца Грыгорыя Іванавіча. Імя якога было вядома на ўсю Яўропу. А астанія жыхары, тут на месцы рабілі свой уклад у гісторыю развіцця сваёй вёскі, працуючы на землях Свентаржэцкіх і Капца (Копаця). Якія тут уладарылі з другой паловы XIX стагоддзя і ажно да 1939 года. Шыпкоўцы не імкнуліся пакідаць Заходняю Беларусь ў пошуках лепшай долі, яшчэ і таму што, у параўнанні з Усходняй яе часткай, у Шыпках умовы для жыцця не былі самыя дрэнныя. Магчыма паноў ад моцнага прыгнёту сялянства стрымлівалі фактары тэхнічнага прагрэсу ў рэгіёне. Гэта Раёўская кардонная фабрыка, шклозавод "Залессе", бровар Бароўскіх у Лукаўцы, розныя вытворчасці ў Іллі, цагельня ва Уладыках, якія пераманьвалі да сябе працоўную сілу. Пагэтаму Шыпкі не слабелі, а наадварот, умацоўваліся і разрасталіся. Калі ў другой палове XIX стагоддзя ў Шыпках і маёнтку налічвалася 38 двароў і 268 жыхароў, то на прыканцы Польскай паншчыны ў Шыпках мелася 79 двароў і 456 жыхароў. Ды ў дадатак яшчэ 4 двары з 22-ма жыхарамі ў складзе маёнтка. Як бачым, прырост насельніцтва проста каласальны, за нейкага паўстагоддзя амаль у два разы. Магчыма вынікам такога развіцця стала асадніцтва насельніцтва з Усходняй збяднелай і менш перспектыўнай часткі расійскай імперыі. Не выключэнне быў і паслярэвалюцыйны час.

## *У Шыпкі за лепшай доляй*

Так у сярэдзіне саракавых гадоў мінулага стагоддзя, з савецкага барысаўскага павета сюды, на той час Польскія Шыпкі, ад магчымай рэпрэсіі, збёг Казімір Антонавіч Даўнаровіч 1910 г.н. Хлопец быў з сям'і заможнага селяніна Даўнаровіча Антона. Хоць Антон, ад граха падалей, і пайшоў у калгас "добраахвотна", перадаўшы на яго карысць усю сваю гаспадарку, але ўсё адно не выключаў таго, што можа патрапіць у спіс раскулачанага. Падобнае ў той час было не рэдкасцю, калі пасля "самараскулачвання" гаспадары ўсё адно траплялі ў ГУЛАГ, а сем'і іх дэпартаваліся на пасяленне. Пагэтаму стары параіў свайму малодшаму сыну, Казіміру, сысці за мяжу, сказаўшы сыну на развітанне: "Беражонага Бог беражэ!" Казімір прыслухаўся да бацькавай парады. У 1934-ым годзе нелегальна, перайшоўшы савецка-польскую мяжу, апынуўся ў Шыпках у знаёмага сям'і Даўнаровічаў пана Копаця (Капца). За польскім часам і па сённяшні дзень старажылы памятаюць свайго пана як Копаця, а не Капец, як значыцца ў некаторых архіўных звестках. І думаецца будзе больш правільна так, як сведчаць старажылы гэтых мясцін, пан Копаць.

Пан Копаць адразу і без ніякіх сумненняў прыхінуў да сябе сына даўняга свайго сябра Антона Даўнаровіча. І адразу ж прызначыў Казіміра дварэцкім пры сваім маёнтку. Таму што Казімір быў добраадукаваным хлопцам і меў ужо нядрэнны досвед у вядзенні гаспадаркі. Акрамя пасады, Казімір ад пана атрымаў для жытла яшчэ і асобны пакой у сядзібным яго доме. Час ішоў, праца ладзіла-



Парэшткі Раёўскай фабрыкі

ся, завялося шмат сяброў і знаёмых. Сярод якіх была маладая дзяўчына з Шыпкоў Ганна, дачка праваслаўнага селяніна-сярэднячка, Кажуры Усціна. Яна працавала ў пана Копаця таксама пры двары, пакаёўкай. Галоўнымі абавязкамі ў яе былі, пры кухні — кухарства. Казіміру былі вельмі даспадобы не толькі стравы прыгатаваныя маладой кухаркай, але і сама маладзіца. Ды дваццацігадовай Ганне спадабаўся малады дварэцкі. Паміж маладымі завязалася сяброўства, якое з часам перарасло ў моцнае каханне. І ў такое моцнае, што Ганна пайшла нават супраць бацькавай волі. Той катэгарычна забараніў ёй мець хоць якія-небудзь стасункі з Казімірам. А падставай такой нязгоды паслужыла каталіцкае вераспавяданне хлопца.

Але маладосць і каханне паміж маладымі людзьмі апынуліся мацнейшымі за бацькоўскія наказы. Абставіны склаліся так, што бацька вымушаны быў пайсці на саступкі. Пасля чаго ў 1936 годзе Казімір з Ганнай абвянчаліся. Пасля вяселля маладыя пачалі жыць у адной хаце разам з бацькамі Ганны. А Казімір тым часам адразу распачаў будаваць сваю. І года не прайшло, як хата была збудавана, якраз да народзінаў у 1937 годзе дачушкі Дануты. Стары Усцін, разгледзеўшы ў Казіміры працавітага і руплівага гаспадара, забыўся пра свае вераспавядальныя прынцыпы і ўжо нават пахвальваўся перад вяскоўцамі, што дачцэ з мужыком нядрэнна пашанцавала. Жыццё ў Шыпках ішло сваёй звычайнай чаргой, пакуль не наступіў 1939-ты. Змена Польскай улады на Савецкую парушыла шматлікія планы ўсіх жыхароў. А пасля 1941 год увогуле абарваў жыццёвы спакой.

## *Безуладдзе пад акупацыяй*

Безуладдзе пад нямецкай акупацыяй прынесла ў вёску голад, страх, смерць. Маёй субяседніцы (дачцэ Казіміра і Ганны)势Дануце Казіміраўне Чараповіч (Даўнаровіч) Другая сусветная вайна запомнілася, галоўным чынам, як у тумане. Але жудас-

ныя моманты апошняга года акупацыі ўрэзаліся ў дзіцячую памяць на ўсё жыццё. Па-першае, пастаянна хацелася есці, а не было чаго, бо яйкі, сала, малако патрэбна было насіць нямецкім салдатам у Раёўку. Партызанаў з брыгады імя Фрунзе, таксама забяспячалі, як маглі і чым маглі, таму што Шыпкі былі ім падкантрольныя і пад іх аховай (на колькі гэта ім было магчымым). Але нерэдкімі былі выпадкі, як уначы на вёску наляталі і "чужынцы". І ў большасці сваёй партызаны з сумнавядомай брыгады "Штармавой", якая дыслакавалася пад Манылымі, на Лагойшчыне. Яны вельмі нахабнічалі, з пагрозамі патрабалі ад вяскоўцаў гарэлку,харчаванне, абутак. Забіралі нават кароў апошніх у сялян. І толькі пад канец вайны, калі па-сапраўднаму ўмяшаліся "Фрунзенцы", яны прыціхлі і налётаў на вёску больш не рабілі. Акрамя харчовай дапамогі партызанам-фрунзенцам, тата Данууты Казіміраўны перадаваў ім сакрэтныя звесткі ваеннага характару. І ў гэтым перадатачным працэсе не аднойчы прымала непасрэдны ўдзел і маленькая Данута. Калі Казіміру Антонавічу патрэбна было штосьці перадаць партызанам, то ён каб адвесці падазронасць ад чужых вачэй, заўжды з сабой браў дачку Дануту. Перайшоўшы ў брод раку Іллю на другі яе бок, Казімір Антонавіч заставаўся працаваць на сваім зямельным надзеле. А маленькую Данутку адпраўляў з вядзёркам у бок сялібы пана Копаця, быццам бы на ўзлесак па ягады. Цётка Соня, гэтак называла сябе партызанская сувязная, кожны раз чакала Данутку ва ўмоўленым на ўзлеску месцы. Абмяняўшыся запіскамі, якія пераносіліся ў вядзёрку з двайным дном, цётка Соня насыпала ў вядзёрка некалькі жменяк ягадак-сунічак альбо клала некалькі грыбкоў і адпраўляла дзяўчынку назад да таты. Вось такая была кансперацыя. Аднаго разу ў самым канцы акупацыі, на вёску наляцелі немцы з паліцаямі і ўсіх каго засталі, павыганялі з хат на вуліцу. Мужыкоў пастроілі і пагналі ў бок Казлоў. А старых, жан-



ЧАРАПОВІЧ ДАНУТА КАЗІМІРАЎНА

чын і дзяцей сабралі ўасобны натоўп і таксама пад дуламі аўтаматаў адвялі ў Раёўку, дзе людзей ужо чакаў абкладзены саломай ток і напалову запоўнены жыхарамі з навакольных вёсак. Сёння на тым месцы стаіць Раёўскі Дом Культуры. Уся тэрыторыя вакол тока была ачэпленая нямецкімі аўтаматчыкамі. Пасля таго як дзверы тока зачыніліся, людзі адразу зразумелі намер карнікаў. Зняволеныя паднялі жудасны гвалт, які разносіўся па ўсёй Раўёцы. Каб угаманіць людскі енк і плач немцы адкрылі страляніну, але толькі ў паветра. Людзі прыціхлі і пачалі маліцца і прасіць паратунку ў Бога, бо толькі на яго аднаго заставалася надзея. Праз нейкі час дзверы адчыніліся, і паліцаі пачалі выклікаць па прозвішчах і вызваляць па некалькі сямей. “Такім чынам, — кажа Данута Казіміраўна, — да вечара ў таку засталася толькі іх сям’я і, як ёй запомнілася, адна жанчына Мірта з Карпавіч. Як ужо пасля высветлілася, падставай вызвалення людзей паслужылі выкупы сваіх родных зняволеных, жыхарамі Раёўкі. І калі ўжо “гандаль” быў скончаны, немцы астаўшыхся пяць чалавек адпусцілі. Пасля перажытай такой трагедыі, калі смерць ужо дыхала прама ў твар, радасці не было мяжы. Да роднай хаты

ў родныя Шыпкі так шпарка ішлі,быццам на крылах ляцелі. Уначы дадому вярнуўся і Казімір Антонавіч. Уцёк з Іллянскай камендатуры ды не адзін, а з партызанскім доктарам. Не выключаючы таго што іх могуць немцы шукаць, на начоўку пайшлі ў гумно, якое стаяла недалёка ад рэчкі. І Казімір Антонавіч нібыта ў ваду глядзеў. На золку, калі ўжо праспявалі петухі, на вясковай вуліцы з'явіліся немцы з паліцаямі. Заставацца ў гумне было вельмі небяспечна і патрэбна было тэрмінова з яго сыходзіць праз Іллю ў лес. Прабраўшыся незаўважанымі да рэчкі, Казімір Антонавіч на другі яе бераг пайшоў у брод, а доктар чамусьці вырашыў перабрацца па кладцы, якая добра праглядвалася з вёскі. Кулямётная чарга яго скасіла за некалькі крокаў да пераходу. Казіміру Антонавічу пашчасціла ўдала дабрацца да выратавальнага лесу, у якім і пераседзіў ліхія гадзіны. Немцы ў вёсцы прабылі амаль цэлы дзень, шукаючы збеглых арыштантаў. І толькі пад вечар, загадаўшы вяскоўцам пахаваць забітага, пакінулі Шыпкі. Больш яны ўжо і не вярнуліся, бо пасля таго цераз тыдзень прыйшло вызваленне. А загінулага партызанскага доктара, вяскоўцы пахавалі на другім беразе рэчкі, і падобна таму, што на родавых могілках пана Копаця. Пасля вызвалення ад фашысцкай акупацыі, вяскоўцы пачалі наладжваць мірнае жыццё. Але да спакою было яшчэ вельмі далёка.

## *Вайна пасля вайны*

Калі днём Шыпкі і навакольныя вёскі жылі ў мірным спакоі, то ўначы было не да сну. Таму што ў лясах блукала шмат розных бандфармаванняў, пачынаючы ад звычайных крымінальных злачынцаў ды дызерціраў і канчаючы былымі фашысцкімі прыслужнікамі-паліцаямі. А таксама рэшткі расфарміраванай Арміі Краёвай, якія, акрамя рабавання крамаў і насельніцтва, займаліся забойствамі партыйных кіраўнікоў,

старшынь сельсаветаў і міліцыянераў. Данута Казіміраўна і ўся яе сям’я на сабе адчулі лютую жорсткасць тых лясных бандфармаванняў. Трагедыя здарылася на прыканцы 40-ых, дзесьці ў 1948 ці ў 1949 годзе, калі сярод белага дня ў Шыпках паявілася некалькі дзесяткаў узброеных людзей. Яны маршыравалі па вясковай вуліцы, спяваючы на Польскай мове:

***Jeszcze Polska nie zginęła,***
***Kiedy my żyjemy.***
***Co nam obca przemoc wzięła,***
***Szablą odbierzemy.***

Дайшоўшы да вясковай крамы, атрад спыніўся. Убачыўшы, што крама зачынена, пяцёра ваякаў адлучыліся ад асноўнай групы і накіраваліся да дома Даўнаровічаў. Мабыць, ім ужо было вядома, што Казімір Антонавіч меў пасаду ў раённай спажывецкай канторы, а жонка яго Ганна Усцінаўна, маці Дануты Казіміраўны, працавала загадчыцай Шыпкоўскай крамы. Бандзюганы, заваліўшыся ў хату ўсім скопам, адразу з парога запатрабавалі аддаць ключы ад крамы. Казімір Антонавіч толькі ў іх запытаў: “А хто вы такія, каб вам ключы ад дзяржаўнага аб’екту аддаваць?” То адразу ў адказ атрымаў моцны ўдар па твары прыкладам карабіна. Ад чаго зваліўся на падлогу, страціўшы прытомнасць. Ганну таксама збілі з ног і ўжо ў ляжачай на падлозе, пагражаючы зброяй патрабавалі аддаць ключы. Ганна паспрабавала запэўніць бандзюганаў, што краму зачынілі на рэвізію, а ключы ў раённага рэвізора. Ганнін адказ у бандытаў выклікаў шаленства. Яны як азвярэлыя накінуліся на бедную жанчыну і, не звяртаючы нават ніякай увагі на яе амаль дзевяцімесячную цяжарнасць, пачалі яе біць нагамі куды папала. Не разжалілі катаў енкі і плач дзяцей. Спыніліся яны толькі тады, як дзесяцігадовая Данутка бандзюганам сказала, што яна ведае, дзе ключы і аддасць, але каб толькі тыя не



даўняровіч казімір злева. унучка, унук віцька, сват-свёкар дачкі галі

білі больш мамку. Бандзюганы супынілі катаванне, а Данутка адкрыла невялічкі куфэрачак, у якім маці хавала ключы і аддала іх тым садыстам. Пасля чаго тыя сышлі, але абяцалі яшчэ вярнуцца, каб высветліць адносіны з гаспадаром хаты. Данутка не ведала, што рабіць, як ратаваць тату ляжачага ў непрытомнасці пад сцяной і як падняць з падлогі акрываўленую матулю? Ад якой замест слоў чулася толькі стагнанне. Данута Казіміраўна не можа сказаць дакладна, праз які час пасля сыходу тых забойцаў, тата яе ачуняў. Але калі ён падняўся ўжо на ногі і пачаў усведамляць, што адбылося, да іх хаты сабралася нямала вяскоўцаў, якія адразу кінуліся на дапамогу. Хтосьці пад'ехаў на конях і, паклаўшы Ганну Усцінаўну на воз, хуценька павезлі ў Іллю ў лякарню. Казімір Антонавіч не паехаў, пабаяўся не кідаць дзетак адных. Не гледзячы нават на тое, што бандзюганы, абрабаваўшы ўшчэнт краму, з вёскі сышлі ў невядомым накірунку. Данута Казіміраўна кажа, што ў сваёй хаце яны начаваць пасля таго не засталіся, бо было вельмі жудасна ад залітай крывёй падлогі і нават сцен. Пераначавалі ў суседзяў. А калі на ранку прыйшлі дахаты, то тата хоць і сам моцна быў паранены, але ўсё прыбраў. Толькі вось наступствы таго бандыцкага налёту апынуліся вельмі цяжкімі і трагічнымі. Тату

пазнаць было цяжка. Акрамя павязкі, якая рану на твары прыкрывала, Казімір Антонавіч праз ноч з чарнявага мужыка пераўтварыўся цалкам у сівога. Псіхічны стрэс ад здарэння зрабіў сваю справу. У матулі, Ганны Усцінаўны, ужо па прыездзе ў Ілянскую лякарню з-за катаванняў распачаліся датэрміновыя роды. І як вынік нядаўніх катаванняў, два хлопчыкі-блязняткі нарадзіліся нежывымі, таму што былі забітыя ўжо ва ўтробе матулі тымі налётчыкамі-бандзюганамі. Сама Ганна Усцінаўна доўгі час лячылася, бо была вельмі моцна пакалечаная, у тым ліку пераломаныя рэбры, рука, вельмі марудна зрасталіся.

### *Новае месца жыхарства*

Пасля той трагедыі сям'і Даўнаровічаў заставацца ў Шыпках было небяспечна. Бандыты маглі вярнуцца яшчэ раз у любую хвіліну, каб расквіцца з Казімірам Антонавічам як з савецкім упраўленцам. Даўнаровічы памянялі Шыпкоўскае месцажыхарства на Іллянскае і пасяліліся ў выдзеленую кіраўніцтвам каператыву кватэру ў самім будынку спажывецкай канторы.Той будынак знаходзіцца якраз насупраць касцёла і захаваўся яшчэ да сённяшніх дзён. Калі Ганна Усцінаўна больш-менш папраўілася і змагла ўжо выконваць няцяжкія работы, пайшла працаваць вартаўніком на спажывецкіх складах, якія былі тут жа на месцы, пад адным дахам з канторай. Пазней, Казімір Антонавіч, непадалёк ад канторы пабудаваў уласны дом, у які ўслед і пераехалі. Жыццё паціху пачало наладжвацца. Ганне Усцінаўне, акрамя трох дачок Дануты 1937 г.н., Галі 1942 г.н., Люсі 1945 г.н., усё ж такі атрымалася ў 1950 годзе нарадзіць яшчэ і хлапчука Пётру. У сярэдзіне 60-ых гадоў Данута Казіміраўна пасля школы пайшла працаваць поварам у мястэчковую сталовую. У ёй і пазнаёмілася з хлопцам са Стаяк Сяргеем Аляксеевічам Чараповічам 1931 г.н. Ён працаваў шафёрам у Вілейскай аўтароце і як прывозіў тавары ў Іллю, то кожны раз заходзіў

у сталовую абедаць, дзе і знайшоў сваё каханне. Праз нейкі час Данута з Сяргеем пажаніліся і па вярбоўцы з’ехалі ў горад Котлас Комі ССР. Туды Сяргея паклікаў дзядзька, Чарапові Іван Васільевіч, які пасля адбыцця пакарання застаўся ў Рэспубліцы Комі на сталае пражыванне. А рэпрэсаваны быў за тое, што падчас вайны пры немцах працаваў настаўнікам у школе.

***Черепович Иван Васильевич (1915) Дата рождения: 1915 г. Место рождения: дер. Стайки Ильянского р-на. Пол: мужчина. Национальность: беларус. Социальное происхождение: из крестьян. Образование: н/среднее. Профессия/место работы: учитель, Стайковская НСШ. Место проживания: Минская обл., Ильянский р-н, дер. Стайки. Мера пресечения: арестован. Дата ареста: 18 октября 1944 г. Обвинение: 72 УК БССР - А/с агитация. Осуждение: 18 июля 1946 г. Осудивший орган: ОСО. Приговор: 5 лет ИТЛ. Дата реабилитации: 4 сентября 1989 г. Реабилитирующий орган: Прокуратура БССР. Архивное дело: КГБ РБ - 27360-с. Источники данных: БД «Жертвы политического террора в СССР»; Белорусский «Мемориал».***

Праз восем год, так і не прыстасаваўшыся да чужога і сумнавядомага краю, Данута з Сяргеем вярнуліся ў Стайкі. Дзе да пенсіі і адпрацавалі, Сяргей Аляксеевіч-шафёрам, а Данута Казіміраўна на розных сялянскіх работах. Яе маці, Ганна Усцінаўна, памерла на 58 годзе жыцця ў 1972-ім. Мабыць бандыцкія катаванні не прайшлі бесслядоўна. А тату пахавала пазней, у 1988 годзе. А як памёр муж, Сяргей Аляксеевіч, Данута Казіміраўна са Стаяк перабралася на Маладзечаншчыну да дачкі Тамары ў Ракуцёўшчыну. Па суседству з ёй пабудавала свой асобны дом, у якім сёння і пражывае. Сумуе толькі і па Стайках і па Шыпках сваіх, дзе прайшло яе дзяцінства, апаленае вайной і пасляваеннымі жахамі.

## *ЖУКАЎКА (ЗВАДА)*

Калі ўзяць невялікую вёску Жукаўку, то яна не менш заслугоўвае ўвагі ў параўнанні з іншымі. Гэта таксама на Вілейшчыне і як Шыпкі ці Сакалоўка Хаценчыцкага сельсавета. Толькі яна месціцца ўдалечыні ад цэнтральных дарог, у глушы, далёка не ў такім маляўнічым месцы, як Сакалоўка з рэчкай Вяпраткай, што ўтварае ладняе возера. Ды нягледзячы на адсутнасць падобных прыродных дароў, невялікая Жукаўка не змяншае цікавасці да сябе. Калі ў 2003 годзе ў вёсцы налічвалася толькі дзесяць падворкаў з 20 жыхарамі, то сёння тут 21 падворак. З іх пяць належаць жыхарам, што жывуць тут пастаянна. Астатнія 16 былі набытыя альбо пабудаваныя пад лецішчы. Падворкі ўсе дагледжаныя. Жыхары садзяць агароды, сады, разводзяць гусей, курэй, коз. Лічу, што гэта адбываецца, дзякуючы менталітэту беларуса, яго працавітасці. Жукаўка мае свае асаблівасці і каштоўнасці, якія вабяць катэгорыю людзей адпаведнага складу, прыхільнікаў прыроднай цішыні. Напрыклад, толькі адна яе таямнічая народная назва Звада стварае шмат пытанняў, на якія няма адназначных адказаў. Вось і паспрабуем наконт гэтага паразважаць, зазірнуўшы ў гістарычныя таямніцы гэтай вёскі.



## *З гісторыі Жукаўкі*

Першыя звесткі пра Жукаўку бяруць адлік ад 1800 года. Называлася яна тады Жукі. Але значылася яшчэ як і Кацэншчыцы. Магчыма, пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай, калі нашы землі трапілі пад Расійскую імперыю, тагачасныя Жукі і былі перайменаваныя ў гонар расійскай імператрыцы Кацярыны Другой. Бо яна ў той час выдала царскі Указ аб знішчэнні ўсіх нацыянальных каштоўнасцяў на зямлі нашых продкаў. Указ імператрыцы патрабаваў:

***– Засяліць нашы землі рускімі папамі, рускімі настаўнікамі, рускімі чыноўнікамі, рускімі памешчыкамі.***

***– Уніяцкія цэрквы і ўніятаў пераўтварыць у праваслаўе і адчыніць паўсюдна рускія школы.***

***– Стварыць на нашых землях такія ўмовы, каб народ наш забыўся назаўжды, якіх ён радоў і плямёнаў. А землі нашы называць Белай Руссю.***



МАЗАЛЕЎСКАЯ(НЯДБАЙЛІК)ВАНДА Ф.

Карэнныя жыхары апынуліся ў статусе людзей другога гатунку. Пасля чаго нашым продкам жыць у такім суседстве ў згодзе не прыходзілася. Магчыма, з-за пастаянных спрэчак і ўзнікла назва Звада разам з афіцыйнай. Бо звада — зна-

чыць сварка, спрэчка, сутыкненні. Але гэтая неафіцыйная назва магла яшчэ ўзнікнуць і ад прозвішча якога-небудзь расійскага асадніка. Дарэчы, Жукаўку насялялі людзі з рознымі прозвішчамі, што не адпавядае звычайнаму ранейшаму этнасу беларускіх вёсак. Тут сустракаліся прозвішчы Ламака, Нядбайлік, Матусевіч, Серка, Якубоўскі. Магло быць і прозвішча Звада, якое сустракаецца не толькі ў Расіі, але і ў Польшчы, і нават на Алясцы. У Польшчы ёсць горад з назвай Звада, а ў Расіі — вёскі. З летапісу нам вядома, што ў 1800 годзе ў Жукаўцы (у той час Жукі, Каценшчыцы) было дзевяць двароў і 51 жыхар. Вёска ўваходзіла ў склад маёнтка Забор'е, уласніцай якога была Людвіга Багдановіч. Ад гэтага часу дадзеныя абрываюцца аж да 1938 года, калі тут панаваў пан Янусь Заборскі. Тады ўжо Жукаўка мела статус калоніі, належала да Хаценчыцкай гміны і налічвала 11 двароў з 52 жыхарамі. Другая сусветная мала закранула Жукаўку, як сама вёска так і яе жыхары амаль усе ацалелі. Загінула толькі двое — Анатоль Піліпавіч Матусевіч і Алена Іванаўна Нядбайлік. А ў тым, што Жукаўка моцна не пацярпела падчас вайны, немалую ролю адыграла яе геаграфічнае месцазнаходжанне. У вярсце праз балота на захад ад вёскі працякае рэчка Шчарка. З паўночнага боку Жукаўку з забалочаным лесам размяжоўвае невялічкі ручай, прыток Шчаркі. І з поўдня адразу ж за сялянскімі шнурамі цячэ невялічкі ручай, які таксама папаўняе вадой Шчарку. Як бачым, акрамя тагачаснага бездарожжа, Жукаўку амаль з усіх бакоў ахоўвала і сама прырода.


Дом прыслугі пры двары маёнтка "Забор'е"

## *Што цікавага ва ўрочышчы Плянта*

Апынуўшыся ў гэтых мясцінах, звярнуў увагу на наваколле вёскі. Падобны да старажытнага гарадзішча хваёвы лясок на невялікім узвышшы мае назву Плянта. У меліярацыйныя 1960-я гады Плянта пераўтварылася ў пасяўныя палеткі. А рэчку Шчарку выпрасталі. Магчыма, на месцы сённяшняга хваёвага ляска месцілася старажытнае паселішча. Гэта пацвярджаюць некаторыя знаходкі на распрацаванай побач пад пасевы зямлі. Тут трапляюцца аплаўленыя вапнавыя і цвёрдашлакавыя злучэнні, шмат крэмню з відавочнымі слядамі высокатэмпературнага ўздзеяння. Хутчэй за ўсё, гэта наступствы пасля моцнага пажарышча. Яшчэ адно пацверджанне знаходжання тут старажытнага чалавека — знойдзеная мной палова каменнай сякеры (на першым фота). Са слоў дасведчаных людзей, знаходка захавалася да нашых дзён з каменнага веку і належыць прыкладна 3-4 стагоддзю да нашай эры. Падобную сякеру я знайшоў недалёка ад гэтых мясцін і гады тры таму. Па знаходках можна меркаваць, што тут працавала майстэрня па вырабу з каменю. Сустракаў я ў гэтых мясцінах і больш познія сведчанні знаходжання старажытнага чалавека — рэшткі жалезных вырабаў і чырвонай цэглы-сырца. Усё гэта наводзіць на думку, што стара-



даўняе паселішча ад рэчкі Шчаркі праз забалочаную Плянту, мяняючы сваю назву, стагоддзямі паціху перамяшчалася ўсё вышэй і вышэй да гэтага месца, дзе сёння, ахутаная багатай гісторыяй, і стаіць Жукаўка. Мясцовыя намагаюцца захаваць у памяці гістарычнае мінулае свайго краю — назвы такіх мясцін, як Барсукоў хутар, лагчына Арлова, Плянта. Даглядаюць і магілку з помнікам на ўзлеску па загінулай падчас вайны Алене Іванаўне Нядбайлік, як могуць, засцерагаюць ад разбурэння парэшткі маёнтка Забор'е. Беларускі менталітэт, працавітасць і неабыякавасць да свайго гістарычнага і бацькоўскага мінулага пануе паўсюдна. Хачу выказаць падзяку Вандзе Фёдараўне Мазалеўскай (Нядбайлік), карэннай жыхарцы Жукаўкі, за пазнавальныя расповяды пра гэтыя мясціны і людзей.

## *ГЕНАЦЫД БЕЛАРУСАЎ*

### *Паламяныя Боркі*

З вёскі Боркі, што на Вілейшчыне, выратаваліся двое вяскоўцаў, а да канца вайны дажыла толькі адна жыхарка — Фаіна Сяргееўна Анасовіч (Кучко). Яна расказала нам гісторыю аб тых трагічных майскіх днях далёкага сорак трэцяга. Да вайны ў вёсцы Боркі было 22 двары, там пражывала сотня чалавек. У суседняй Любчы, да якой было з кіламетр, — каля 80 жыхароў. На ўсход ад вёскі працякае рэчка Ілля, па ёй да 1939 года пралягала мяжа паміж Польшчай і Савецкім Саюзам. Да вайны маленькая Фаня паспела адвучыцца ў першым класе ў пачатковай школе, якая размяшчалася ў будынку былой польскай заставы. Бацька дзяўчынкі памёр, калі ёй было два гады, маці Вольга, родам з вёскі Кавалі, гадавала Фаню, братоў Косцю і Леню ды сястру Валю адна.

### *Успаміны аб вайне*

Вёску Боркі і яе жыхароў, фашысцкія карнікі спалілі ў маі 1943 года, праз дзесяць дзён пасля Вялікадня, на Радаўніцу. Фані тады ішоў дванаццаты год. Час многае сцёр з памяці Фаіны Сяргееўны. А вось той страшны дзень пакінуў, быццам бы спецыяльна. Каб сама памятала і ўсім людзям распавяла пра апошнія хвіліны з жыцця Борак, якія так і не адрадзіліся пасля вайны. “Цяжка мне гаварыць, – прыкладаючы руку да грудзей, праводзіць нас у пакой Фаіна Сяргееўна. – Яно і без таго ўвесь час душа баліць, а як развярэдзіш старыя раны, тыдзень ходзіш сам не свой. Таму я,дазвольце, спачатку таблетак нап’юся,


Анасовіч(Кучко)Фаіна Сяргееўна

а пасля “пойдзем” з вамі ў вёску. Хто ведае, колькі мне жыць засталося? Памру — ужо ніхто не раскажа. Але давайце папарадку. Працавалі на сваёй зямлі, мелі гаспадарку, з таго і жылі. Не скажаш, каб багата. Так, перабіваліся. Маці Фаіны, Вольга, дзяцей падымала адна. Старэйшаму майму брату на той час споўнілася 17 гадоў, — успамінае жанчына, — ён і быў у хаце за гаспадара, бо бацька памёр рана, мне тады было ўсяго два гадкі. Малыя былі і брат Лёня, і сястра Валя. Усе яны разам з мамай згарэлі”.

Боркі лічыліся партызанскай вёскай. Але народныя мсціўцы, па словах Фаіны Анасовіч, тут ніколі не стаялі. Праўда, у хаце майго дзядзькі яны зрабілі своеасаблівы пост і пасадзілі там дзяжурнага. Людзі казалі, што гэта нейкі сувязіст, бо ля дома была пастаўленая высокая жэрдка, з прымацаванай да яе антэнай. Першы раз у іх вёсцы немцы з’явіліся ў красавіку 1943 года, за тыдзень да Вялікадня. Прыехалі на конях, з паліцаямі ды такі гармідар устроілі, што пасля іх ад’езду мо яшчэ гадзіну пер’е над вуліцай лятала. Хапалі ўсё, што траплялася пад рукі: курэй, гусей, парасят. Выносілі з кладовак сала, яйкі, малако. “Дзетачкі, зараз і да нас прыйдуць”, — шаптала ў роспачы маці Фаіны. Чужынцы перапаролі ўсе шафанеры, забралі яйкі, тварог, падрыхтаваныя да свята, ды пацягнуліся з пажыт-




камі да абоза. Праз нейкі час нагружаныя дабром павозкі з'ехалі з вёскі ў бок Любчы, і людзі ўздыхнулі з палёгкай. Маўляў, хай хоць усё забіраюць, галоўнае, нас бы не чапалі. Не паспелі вяскоўцы апамятацца, як на вуліцы паказалася конніца. Гэта партызаны, на падводах гэтак дваццаці, ляцелі наўздагон немцам. Бой быў такі, што ў вокнах трэсліся шыбы. "Маці загадала нам класціся на падлогу, — успамінае Фаіна Анасовіч, — так і ляжалі радком, пакуль не перасталі страляць". Праз хвілін пяць пасля таго як страляніна скончылася, на вуліцы паявіліся павозкі. Гэта варочаліся назад партызаны з адбітым у немцаў абозам, гружоным людскім дабром і параненымі. Не прыпыняючыся ў вёсцы Катоўцы, хуценька падаліся праз рэчку, да месца сваёй дыслакацыі ў Глыбачане. Вечарам толькі і размоў было, што пра тую бойку. У якой партызаны забілі некалькі паліцаяў і паранілі нямецкага афіцэра. Ды ў дадатак абоз з нарабаваным адбілі. "Не даруюць нам немцы, канец будзе", — казалі мужчыны. І ў той жа час ніводзін з іх не ведаў, што рабіць. У партызанскі атрад усёй вёскай не пойдзеш, у лесе надоўга не схаваешся. А вясна тым часам брала сваё. З кожным днём станавілася цяплей, пачало распускацца на дрэвах лісце. І людзі вырашылі сеяць. Днём працавалі на сваіх надзелах, а вечарам, сабраўшыся ля якой-небудзь хаты, трывожыліся. Хтосьці сказаў, што трэба павыносіць лепшае і схаваць. Бо калі немцы налятуць, народ застанецца ні з чым. "У панядзелак, 3 мая, у гадзін дзесяць, на дарозе з боку Любчы падняўся пыл. Адтуль на конях прыскакала двое мужчын і адразу ж сталі збіраць людзей, – успамінае Фаіна Анасовіч. Партызаны нам сказалі: «Любчу і Боркі будуць паліць разам з людзьмі. Уцякайце да нас у Рагозіна (вёска ў Ла-

гойскім раёне прыкладна ў 15 км ад Барок). А хочаце — хавайцеся ў лесе альбо ідзіце ў суседнія вёскі да сваякоў, — папярэджвалі яны людзей. — Інакш усім будзе канец.”

## *Трагедыя*

“Маці бегала па хаце і не ведала, што рабіць, — успамінае Фаіна Сяргееўна. — У Борках быў дом, такая-сякая гаспадарка, лапік засеянай зямлі. Ды і не чакаў нас ніхто нідзе. Да каго было прытуліць галаву. Вайна ж на дварэ, кожны жыве са сваім горам. Заваліся сям'ёй з пяці душ да каго-небудзь, на колькі дзён прытуляць, ды скажуць, каб дамоў збіраліся. Бедныя мы былі, бязбацькавічы. Нават лапцяў, каб усіх абуць, маці не мела”. Спаць у тую ноч не клаліся. На наступны ранак у аўторак, мужчыны вырашылі выгнаць у поле жывёлу. Са статкам выйшла 11 пастухоў, у тым ліку трое дзяцей, сярод якіх была і Фаня, у якой, акрамя лапцей, нічога не было, а толькі, як яна кажа, «нейкі балахончык». У адной жанчыны быў гадзіннік і вось у 9 раніцы пачуліся аўтаматныя чэргі. Пастухі залеглі ў траву, хаваючыся ад куль. А праз некаторы час над Любчай падняўся чорны дым. Мужчыны вызначылі, што гарыць не ўся вёска, а толькі адна нейкая будыніна.

А крыху пазней, праз хвілін дваццаць, і над Боркамі пачалі падымацца клубы дыму. Неўзабаве з боку Любчы прыбеглі на поле два чалавекі, адзін басанож з абгарэлай рукой, вушамі і вопраткай, а другі ў чаравіках і цэлы. Яшчэ здалёк пачалі крычаць: «Уцякайце, уцякайце!» Параўняўшыся з пастухамі і крыху аддыхаўшыся, патлумачылі, што здарылася. Што ў Любчы немцы склікалі людзей, казалі, што будуць рабіць пераклічку, але загналі ўсіх мужчын у Станкевічаў ток, замкнулі і падпалілі. Але, выламаўшы дошкі, траім удалося збегчы з палаючага тока. Толькі, на вялікі жаль, аднаго з іх дагнала нямецкая куля ўжо на самым узлеску. Папярэдзіўшы пастухоў, уцекачы

ад смерці падаліся за раку, у бок вёскі Глыбачаны. Дарослыя задумаліся: як жа мы, маўляў, пойдзем дадому без кароў? А сямнаццацігадовы Віктар Ваўчок сказаў: «Я ўцяку ў Чарвякі (цяпер Сакалоўка), а вы тут самі глядзіце скаціну». Мужыкі на гэта адказалі: «Ідзі, мы тваіх кароў глядзець не будзем». Хлопец сышоў і падаўся ў партызаны, але, як стала вядома пазней, загінуў. Менавіта ў той дзень толькі ён і маленькая Фаня пазбеглі расправы фашыстаў. Праз гадзіну на поле прыйшлі трое: адзін паліцай і двое ў цывільным і загадалі гнаць жывёлу дадому. Гонячы каровак у вёску, адзін з іх сказаў Фані: «Відаць, твой бацька не ў партызанах, раз ты ў лапцях ходзіш», на што дзяўчынка адказала: «Няма ў мяне бацькі…». Калі прыйшлі ў Боркі, то там убачылі, што ўся вясковая вуліца была застаўленая падводамі, гружонымі нарабаваным людскім дабром. А фурманамі пры іх былі знаёмыя мужыкі з суседніх вёсак, якіх немцы нанялі для падобнай справы. “А як жудасна рыкалі каровы!!!!! — кажа Фаіна Сяргееўна. — Не слухаліся і не ішлі да сваіх хатак. Пасля чаго ўвогуле паразбягаліся.” Мясцовых жыхароў нідзе не было бачна — іх да таго моманту ўжо загналі ў хлеў. У двары сям’і Кучко былі закапаныя такія-сякія рэчы, адзенне ды посуд, але гэтае прыхаванне было ўжо кімсьці выкапанае. Безумоўна, не без дапамогі “добразычліўцаў”. У хаце таксама ўсё было перавернута ўверх дном, лыжкі ды жбаночкі былі параскіданы па падлозе. “Двое з прыгнаных фурманаў, — кажа Фаня, — ведалі нашу хату, бо спыталіся:

— Твая мама — Волька з Кавалёў? .

— Так, — кажу.

Адзін з іх сказаў, што мамы больш няма, але іншы паправіў: маўляў, жывая, але яе сагналі ў Нямеччыну. Я нічога не разумела і толькі плакала. Тут падышоў страшны немец з аўтаматам і паліцай, спыталі, дзе я была. Я адказала, што ў полі.

— Партызанка? — спытаў паліцай.



— З яе партызан, як з цябе немец, — адказаў за мяне дзядзька-фурман. Пасля гэтыя фурманы пачалі думаць, куды схаваць Фаню. Пакласці на воз (на ім ужо ляжалі парася і дзве авечкі)? Але фашысты могуць убачыць, і тады ўсім траім бяды не абмінуць. У дом пад печ? Таксама не выйсце. А за домам быў сад і якраз напярэдадні гэтай трагедыі, Фанін старэйшы брат, абразаючы галінкі, склаў іх у куце сада, збіраючыся потым іх спаліць. Адзін з фурманаў раскапаў у глыбіні гэтай гары галінак нейкае падабенства нары і сказаў Фані, каб яна туды забралася і сядзела да таго часу, пакуль хто-небудзь не прыйдзе. У сераду яна ўбачыла, як рэшткі нарабаванага дабра згрузілі ў бартавую машыну і з’ехалі, у вёсцы засталіся толькі пара паліцаяў. Фаня вярнулася ў хату, а на ноч зноў перабралася ў сваю бярлогу. У чацвер раніцай карнікі падпалілі вёску — з аднаго канца і з сярэдзіны. Хата сям’і Кучко згарэла, а гумно — не. З’едлівыя дым і смурод разносіліся далёка вакол. Нікога не было відаць і чуваць, і Фаня вылезла са сваёй хованкі і пайшла па былой вясковай вуліцы. У адным хляве былі чатыры забітых пастухі, у іншым — спаленыя астатнія жыхары вёскі, свайго дзядзьку дзяўчынка знайшла забітым на парозе яго дома. Ад вёскі засталіся толь-

кі тры хаты – яны стаялі пад рэчкай наводшыбе. У адной з іх Фаня працавала нянькай маленькага Мішкі — яе за гэта кармілі. Зайшла туды — па хаце раскіданыя цацкі, люк у склеп быў адчынены і нікога не было. На стале стаялі жбаны з сапсаваным ўжо малаком і трохі хлеба. Фаня, тры дні нічога не еўшая, адрэзала кавалачак хлеба і пачала жаваць. У гэты момант да дома пад'ехала машына блакітнага колеру. З яе выйшлі трое: два нямецкіх афіцэры (адзін малады, другі ў гадах) і з імі шафёр, ён жа перакладчык. Дзяўчынка хацела схавацца ў склеп, але спалохалася мышэй і стала за шыфанерай. Немцы зайшлі ў дом і сталі на парозе. Адзін з іх нешта сказаў з моцным польскім акцэнтам, а кіроўца пераклаў: "Выходзь, хто ёсць." "А я і сказаць што-небудзь не магу», — успамінае Фаіна Сяргееўна. Немец ад парога даў аўтаматную чаргу па шыфанеры і акенцу, але Фаню цудам кулі не закранулі. Шафёр стаў прасіць: аддайце дзяўчынку мне, я бяздзетны, удачару яе. Немцы адказалі: «Калі не паранілі, аддамо».

— Ты адна тут? — спытаў шафёр.

— Я нікога не бачыла. Наша хата згарэла, а я была ў полі. Пасля немец даў каманду:

— Зачыніць склеп.

— А я не падыму крышку, — адказала Фаня

— А ты прыпаднімі яе, а я зачыню. Немцы баяліся, што ў склепе могуць хавацца партызаны. Стань на вечка. Ты параненая?

— Не ведаю.

— Толькі не ўздумай уцякаць, — сказаў шафёр, узяў за руку і вывеў з пакоя. Па баках дзвярэй стаялі тыя два немцы. «Страх у мяне прапаў, — кажа Фаіна Сяргееўна. — Адзенне на мне страшнае: лапці, балахончык, хустка нейкая." Немец з акцэнтам загадаў распрануцца. Я распранулася, а ён і кажа: «Сорак пяць гадоў пражыў, а такога цуда не бачыў: цэлую абойму стрэліў, а ты цэлая», — і сказаў, што больш страляць не будзе.

Немцы ўзялі нейкія талеркі і панеслі ў сваю машыну. Я ішла побач з шафёрам, а яны ззаду нас. Я схадзіла да папялішча сваёй хаты, узяла там нейкую посцілку і вярнулася. Пакуль ехалі ў Іллю (тады — цэнтр раёна), немцы распытвалі мяне пра сям'ю, а кіроўца перакладаў. У Іллі мяне аддалі ў дзіцячы дом, а праз дзень цётка Ганна з сяла Бязводнае забрала да сябе, пакінуўшы немцам  распіску. Праз месяц мяне пераправілі да іншай цёткі Кацярыны Супрановіч, у вёску Рабунь. Цётка была строгая, так што я шмат працавала, пасвіла кароў. А ў школу мяне не пусцілі. У 1949 годзе пайшла працаваць у калгас, і тры гады працы прыйшлося запісаць на цётку.» А пасля замуж выйшла, дзеткі нарадзіліся. Траіх мы з мужам Міхаіла, Наталлю, Таццяну паднялі на ногі, вывучылі. Унукаў дачакаліся. Нічога сабе, жывём. І кожны раз з удзячнасцю ўспамінаю таго шафёра Гандаровіча, які ад смерці выратаваў. Як пасля высветлілася ён быў сувязным партызанскага атрада "За Радзіму" брыгады імя Фрунзе. На вялікі жаль, яго пасля фашысты растралялі.

### *Мае Боркі сняцца па начах*

Ды каб яшчэ сэрца не балела ды ўспаміны не даймалі. Як прачнуся сярод ночы, так і прыходзяць да мяне мае Боркі. Як жывыя ўсе вяскоўцы стаяць. Можа, трывожацца? Бо на сённяшні дзень дарога да нашай вёскі, дзе стаіць помнік, зарасла. Як ні старайся — транспартам не даедзеш. Хіба што пешкі дабярэшся. Старыя ўжо мае ногі. Баюся, прыйдзе час, не дайду. У Борках на вясковым пагосце, Фаіна Сяргееўна пабывала ўпершыню толькі гадоў праз 15 па-


Кучко Фаіна з дачкой Таццянай

сля заканчэння вайны. Калі сіламі калгаснікаў на месцы хлява, дзе былі спаленыя яе аднавяскоўцы, быў усталяваны сяміметровы помнік, а на мармуровай пліце былі выбітыя прозвішчы і імёны загінуўшых боркаўцаў. А зараз там помнік развальваецца, праглынёны лесам, да якога нават дарогі ўжо няма. Напаследак, праводзячы нас з падворка, Фаіна Сяргееўна папрасіла нас, што калі не адтрымаецца нам адрамантаваць помнік і пабудавць да яго дарогу, то хаця бы памяталі пра тых, хто там пахаваны і ў якіх пакутах яны страцілі свае жыцці!

Вось такая, 11 год таму назад, атрымалася ў нас сустрэча з Фаінай Сяргееўнай, пра лёс якой журналістка “Рэгіянальнай газеты” Сліж Марына, у сваім артыкуле вельмі ўдала данесла да шырокага кола чытачоў. Праўда зараз ён утрымлівае некаторыя дадатковыя змены, бо з’явіліся новыя дагэтуль невядомыя гістарычныя факты. Артыкул меў вельмі вялікі рэзананс і сабраў шмат прыхільнікаў праэкта па адраджэнню мемарыяла ў Борках. Пасля той першай нашай сумеснай з Марынай сустрэчы з Фаінай Сяргееўнай, адбылося вельмі шмат розных падзей адносна Борак. Сумеснымі намаганнямі з рэдакцыяй “Рэгіянальнай газеты”, якая на сваіх старонках заклікала грамадства і арганізацыі да актыўнага ўдзелу па адраджэнню мемарыяла “БОРКІ”, з Хаценчыцкім сельсаветам, з Іллянскім лясніцтвам, з будаўнічна-дарожным участкам пад кіраўніцтвам Шупенькі і, канешне ж, з галоўнымі ўдзельнікамі рэстаўрацыйных работ самога помніка, гэта жыхароў Вілейскага і Маладзечненскага раёнаў, якія ўвесь летні свой вольны час і ўласныя сродкі аддалі на перабудову помніка. А перад гэтым усе разам правялі нядзельнік па выз-



Памятны знак

ва ўшанаванне памяці бязвінна загінулым жыхарам вёскі Боркі. Гэтая трагедыя адбылася 4 мая 1943г.

БОРКАЎЦАМ

Шлях перамогі

валенню помніка з ляснога палону. Паралельна будавалася дарожнікамі 800-метровы пад’езд-дарога ў Боркі да пагосту. Была названая вуліца ў Лукаўцы Любчанска-Боркаўская.

На аўтатрасе Мінск-Мядзел быў усталяваны паўнавартасны ўказальнік на ЛЮБЧУ, БОРКІ. Пасля чаго Фаіна Сяргееўна падчас асвячэння адноўленага помніка сказала наступнае: “Мне ўсё жыццё было боязна за тое, што я пamру раней пакуль адрамантуецца помнік і пабудуецца дарога да яго. Кожны раз, калі ў сне бачыла сваіх вяскоўцаў, не ведала, як з імі размаўляць і што ім адказаць на тое, чаму я не выканала зямную місію дадзеную мне Богам, пабудаваць дарогу да іх магілкі? Але зараз, дзякуючы неабыякавым, чулым людзям, мне памерці ўжо страху няма.” У 2020 годзе, не дажыўшы да свайго дзевяностагоддзя аднаго года, Фаіна Сяргееўна Анасовіч (Кучко) сышла ў свет іншы са спакойнай душой перад загінуўшымі ў страшэнным полымі, сваімі роднымі і аднавяскоўцамі.

# *ЛЮБЧАНСКАЯ ТРАГЕДЫЯ*




Здавалася б, пра фашызм чалавецтва ведае ўсё. А вайна ўзяла, і зноў пастукалася ў нашы сэрцы. На гэты раз народная памяць ажыла на Вілейшчыне, дзе падчас Вялікай Айчыннай было спалена 76 вёсак. Клюева, Янава, Рабцава, Любча і Боркі, знішчаныя разам з жыхарамі, так і не адрадзіліся. Не было каму будавацца, нараджаць і гадаваць дзяцей.

Калі сумная гісторыя Борак была больш-менш вядомая дзякуючы Фаіне Анасовіч (Кучко), тады яшчэ 11-гадовай дзяўчынцы, што засталася ў жывых, то Любчанская трагедыя ўвесь гэты час заставалася па-за кадрам. Мясцовыя жыхары расказвалі пра дваіх мужчын, якім быццам бы пашчасціла ў той трагічны майскі дзень вырвацца з палаючага тока, але хто гэтыя людзі, і як склаўся іх пасляваенны лёс, не маглі расказаць ні музеі, ні архівы. Маўляў, дзе толькі не шукалі, сляды згубіліся. На днях, рыхтуючы чарговы артыкул для сваёй кнігі,я вырашыў вярнуцца да гэтай тэмы. І, пагутарыўшы з жыхарамі блізляжачых ад былой Любчы вёсак, раптам “дастаў” з забыцця прозвішчы людзей, якім наканавана было перахітрыць у той трагічны дзень смерць. На жаль іх, Міхаіла Ваўчка і Івана Трацінкі, сярод жывых ужо няма. Таму дзень

4 мая 1943 года адновім апіраючыся на расказы жыхароў прылеглых да Любчы вёсак.

Я ніяк не магу зразумець, чаму на працягу амаль васьмі дзясяткаў гадоў са дня трагедыі,ніхто не здолеў навесці даведкі па тых людзях. А як сёння высветлілася іх увогуле не патрэбна было і расшукваць, бо яны жылі ўсё жыццё сярод нас. Кожны дзень мы з імі дзесьці сустракаліся, віталіся. А яны ў меру сваёй мужнасці і сціпласці пражылі ўсё жыццё ціхенька, не скардзячыся на свой трагічны лёс і не казыраючы сваім гераізмам праяўленым у барацьбе з лютым ворагам. Так, так менавіта ГЕРАІЗМАМ.

Бо яны, вырваўшыся з вогненнага палону 4 мая 1943 года, з незалечанымі ранамі паспелі і папартызаніць, а ў ліпені 1944 года без ніякіх адгаворак і скарг (а маглі бы) пайшлі на фронт змагацца з ненавісным ворагам. Пайшлі не задумваючыся, каб толькі адпомсціць тым праклятым нелюдзям-фашыстам, якія загубілі іх родных і блізкіх у страшэнных пакутах. І помсцілі на поўніцу, без страху, мужна і заўжды ў першых радах і пацвярджэнне таму іх шматлікія ўзнагароды. Абодва з перамогай вярнуліся ў свой родны куток, дзе жыўцом былі спаленыя іх родныя, суседзі, адна-


Трацінка Іван Сцяпанавіч

вяскоўцы. Толькі ў родную сваю Любчу вярнуцца не атрымалася, таму што адбудоўваць вёску не было ўжо каму, згінулі ўсе. Акрамя толькі іх дваіх: ТРАЦІНКІ Івана Сцяпанавіча, 1911 г.н. і ВАЎЧКА Міхаіла Мікалаевіча. Пагэтаму яны пачалі ствараць сем'і і будавацца ў суседніх Малявічах. Малявічы іх прынялі як сваіх родных. Вяскоўцы ведалі іх трагічнае мінулае і таму ставіліся да Івана і Міхаіла са спагадай і з павагай за іх мужнасць. У душы да іх людзі самі не імкнуліся лезці з пытаннямі пра іх ваеннае ліхалецце. Іван з Міхаілам па жыцці не былі моцна гаваркімі,жылі больш моўчкі. А ваенную тэму ўвогуле імкнуліся пазбягаць. Пагэтаму мне не атрымалася даведацца столькі, колькі хацелася б. Але самае галоўнае, тое, што раскрывае ўсю загадкавасць трагедыі даведаўся ад тых, каму атрымалася пачуць звесткі, як кажуць з першых рук.

Як я ўжо згадваў вышэй, Трацінка з Ваўчком не былі шматслоўнымі, асабліва Ваўчок. Вяскоўцы нават не цалкам упэўненыя, што гэта менавіта ён тады быў разам з Трацінкам. Як стала вядома ад жыхароў Малявіч Трацінка Іван вельмі не любіў успамінаць той жудасны дзень. Але ўсё ж хоць караценькую інфармацыю, атрымаць удалося. Тады, 4 мая 1943 года, калі немцы і, галоўным чынам, літоўскія паліцаі наляцелі на Любчу, вёска ўжо не спала. Хтосьці пасвіў жывёлу, шмат ужо хто працаваў на сваіх шнурах, гаспадыні завіхаліся па гаспадарцы. Карнікі запаланілі ўсю вясковую вуліцу. Ад іх паступіў загад пад пагрозай растрэлу, каб усе сяляне кідалі сяўбу і тэрмінова вярталіся ў вёску для пераліку насельніцтва. Каб не падстаўляць свае сем'і, усе вымушаны былі падпарадкавацца загаду. Калі жыхары ўсе сабраліся, карнікі аддзялілі ад ўсёй людской масы мужчын і пагналі ў бок Борак, за рэчачку, дзе на водшыбе ад сядзібы Станкевіча Адама стаяў яго ток. Спачатку вяскоўцы не зразумелі такой дзяльбы і толькі, калі каты пачалі заганяць мужчын у ток, у вёсцы пачуўся істэрычны жаночы крык.

Ад тока было добра бачна, як у вёсцы паліцаі з немцамі распачалі гвалтоўныя дзеянні супраць маладых жанчын і дзяўчат. Вясковую вуліцу напаўняў жаночы крык ў перамешку з рогатам нацыстаў і іх прыхвасняў. Задаволіўшы свае звярыныя самцовыя інстынкты, тыя нелюдзі ўсіх старых і жанчын з дзяцьмі, загналі ў пчалярню Станкевіча. А мужчын тым часам, як ужо згадавалася вышэй,



ПАСВЕДЧАННЕ АБ НАРАДЖЭННІ
СВИДЕТЕЛЬСТВО О РОЖДЕНИИ
Гр.
Гр. Иван Степанович
(імя і імя па бацьку — имя и отчество)
нарадзіўся (лася) 7. IX - 1911 года
родился (лась)
седьмого сентября
(прописью и цифрами год, месяц и число)
тысяча девятьсот
одиннадцатого го
Месца нараджэння дзіцяці: горад, сяло
Место рождения ребенка: город, село
раён Вилейский
район
вобласць Минская
область
аб чым у кнізе запісаў актаў грамадзянскага стану аб нараджэнні
о чем в книге записей актов гражданского состояния о рождении
1911 года октября месяца 9 чысла
года месяца числа
зроблен адпаведны запіс за № 53
произведена соответствующая запись за

карнікі зачынілі ў таку Станкевіча. Пасля абодва будынкі з усіх бакоў аблілі бензінам і падпалілі. Натоўп мужчын адразу паспрабаваў ламануцца ў дзверы, але тыя не паддаваліся. Карнікі па дзвярах адкрылі страляніну з вінтовак.

Адны зняволеныя валіліся на зямлю скошаныя варожай куляй, а астатнія працягвалі ламаць дзверы. Іван і яшчэ некалькі чалавек у гэты момант здолелі ў сцяне адарваць дошку з супрацьлеглага боку ад дзвярэй. Дзюрка выходзіла ў бок лесу, якраз шлях да якога прыкрываў густы дым ад палаючага току. Іван, не марудзячы ні секунды, шмыгануў праз дзюрку і па ходу дымавой завесы, што было моцы ірвануў падалей ад смеці. Азірнуўся назад толькі тады, як апынуўся на ўзлеску, а над галавой прасвісцелі кулі, што і прымусіла яго з ходу па-

валіцца на зямлю. І толькі тады Іван заўважыў, што за ім беглі яшчэ двое мужчын. Адзін з іх ужо ляжаў з ім побач Ваўчок Міхаіл. А вось хто быў трэці, не разпазналі? Чалавеку заставалася пераадолець метраў 80, каб апынуцца ў лесе. Але так собіла, што вецер раптам павярнуў дым убок, і карнікі, заўва-



жыўшы бегляка, далі па ім чаргу з кулямёта, якая і зрабіла сваю чорную справу. Не распазналі чалавека яшчэ і таму, што ён увесь быў моцна абгарэлы, вопратка на ім вісела кавалкамі і дымілася. Крышачку аддыхаўшыся, Іван з Міхаілам даліся праз лес далей у бок балота. Праз вярсту выйшлі на той бок лесу, дзе сустрэлі боркаўскіх пастухоў са статкам кароў. Папярэдзіўшы іх пра смяротную небяспеку, параілі ім уцякаць, бо і іх чакае смерць немінуемая. І самі хуценька падаліся праз балота на другі бок рэчкі Іллі, на Глыбачане, дзе стаялі партызаны “Катоўцы”. Тыя “Катоўцы”, якія днямі паміж Боркамі і Любчай у немцаў абоз адбілі з нарабаваным дабром у сялян. Дабраўшыся ў Глыбачане, Іван з Міхаілам партызанаў так і не сустрэлі. Мясцовыя жыхары казалі, што тыя быццам бы сышлі на Палік, услед за ўсімі астатнімі. Але так яно ці не — невядома. Хлопцы разумелі, што вяртацца ім няма куды, пагэтаму блукалі па Глыбачанах, Зацеміні ды па лясах мыкаліся, залечваючы раны травой. Апёкі гаіліся вельмі марудна, але гэта ім не перашкодзіла ў лютым 1944 года далучыцца да партызанаў, у ліку якіх і дачакаліся

прыходу савецкай арміі, у рады якой адразу уліліся. У складзе 950 стралковага палка, 262 стралковай дывізіі Іван дайшоў да Берліна, да самага рэйхстага. Але на гэтым яго франтавы шлях не скончыўся. Яго вайсковая частка была перакінутая на Далёкі Усход. А калі 8-га верасня 1945 года, СССР абвясціў вайну Японіі, Іван Трацінка прыняў самы непасрэдны ўдзел у разгроме самураяў. За мужнасць і адвагу праяўленую на франтах вайны, Іван Сцяпанавіч быў узнагароджаны баявымі медалямі; "За адвагу", За перамогу над Германіяй у ВАВ 1941-1945 гг" і "За перамогу над Японіяй".

***Место рождения: Белорусская ССР, Молодечненская обл., Ильянский р-н, д. Любчи***

***Место призыва: Ильянский РВК, Белорусская ССР, Вилейская обл., Ильянский р-н. Дата поступления на службу: 1944***

***Воинское звание: рядовой, красноармеец***

***Воинская часть: 950 стрелковый полк 262 стрелковой дивизии***

***Награды: Медаль «За отвагу», медаль «За победу над***



10. Стрелка 2 стрелкового батальона рядового ТРОЩЕНКО Ивана Степановича за то, что он в боях с немецкими захватчиками проявил мужество, и отвагу, в боях 17.3.45 года был ранен.

1911 года рождения белорусс, беспартийный, призван в Красную Армию 6.2.44 года Ильянским РВК Молодечненской области. Домашний адрес=

И.О. КОМАНДИРА 950 СТРЕЛКОВОГО ОРДЕНА СУВОРОВА ПОЛКА ГВ. МАЙОР (ЯШИН)

НАЧАЛЬНИК ШТАБА ПОЛКА Гв. МАЙОР (МАРОШИН)

Отп. в 4-х экз.
Экз. № 1-3 в ОК 262 сд.
Экз. № 4 в дело
12.12.45 года. СК

***Германией в Великой Отечественной войне 1941–1945 гг.», медаль «За победу над Японией»***

***Картотека награждений: Медаль «За победу над Германией в Великой Отечественной войне 1941–1945 гг.», 09.05.1945***

***Медаль «За победу над Японией», 30.09.1945***

У сярэдзіне верасня, пасля перамогі над японцамі,Іван вярнуўся ў Малявічы, у якіх, прыбіўшыся да мясцовай жанчыны ў прымы, стварыў сям’ю. Залечваючы свае душэўныя і франтавыя раны, Іван Сцяпанавіч выхаваў двух сыноў Уладзіміра, Івана і дачку Ларысу. Уладзімір усё жыццё адпрацаваў у саўгасе “Лукавец” ветдоктарам, зараз на пенсіі жыве недзе на Гродзеншчыне ў дзяцей. Іван, пасля службы ў савецкім войску на Далёкай Поўначы, там жа і застаўся.

Дачка Ларыса нідзе не з’язджала, прысвяціла сваё працоўнае жыццё бібліятэкарскай справе, а пасля скарачэння працавала ў калгасе, жыла ў бацькоўскай хаце, да самай сваёй



Станкевіч Адам з жонкай 1930г

смерці. Зараз там жыве яе муж Юрый Дзмітрыевіч Ахотнік. А Ваўчок Міхаіл жаніўся, як і сам, на ўдзельніцы вайны Соф'і Антонаўне. І ніхто з гэтых сямей ніколі нават і не спрабавалі дамагацца якой-небудзь карыслівай увагі ды ільгот да сябе. Пражылі жыццё сціпла, не выдзяляючыся сярод іншых, не страчваючы высокадухоўнага чалавечага вобліку.

Лічу, што гэтыя мужныя Людзі, патрыёты і абаронцы краіны заслугоўваюць таго, каб пра іх пісалі і памяталі не толькі мы, але і нашых нашчадкаў нашчадкі! Вось такая трагічная гісторыя раскрываецца хоць праз 80 год. Але хай будзе лепш са спазненнем, чым ніколі.



***Можна меркаваць, што на фота моладзь Любчы.***



***Не выключэнне, што гэта дачка Станкевіча з Любчы.***



***Не выключэнне, што гэта сын Станкевіча з Любчы.***


Барысевіч Уладзімір Канст.

*Я вельмі ўдзячны нашаму жывому архіву, сведкам тых часоў, якія падказалі правільны накірунак для разгортвання чарговай старонкі нашай гісторыі. І ў самую першую чаргу, гэта 95-ці гадоваму жыхару вёскі Сакалоўка (былыя Чарвякі) Барысевічу Уладзіміру Канстанцінавічу. Без яго памяці наўрад ці была бы калі раскрыта больш поўная карціна Любчанскай трагедыі. А таксама шчыра дзякую жыхару Малявіч, пенсіянеру Шушкевічу Васілію Мікалаевічу, які таксама перадаў мне адпаведныя тэме прыжыццёвыя ўспаміны самога Трацінкі Івана Сцяпанавіча. Зяцю Івана Трацінкі, Юрыю Дзмітрыевічу Ахотніку, за захаванне памяці, фота і дакументаў, свайго цесця, патрыёта нашай Беларусі. Асобная мая ўдзячнасць, навуковаму супрацоўніку Вілейскага Дзяржаўнага краязнаўчага музея, Коласавай Вользе Аляксандраўне. Дзякуючы яе кансультацыям і падмацаваннем архіўнымі дадзенымі тэкставага зместу, кніга атрымалася вельмі цікавай і пазнавальнай.*


Шушкевіч Васілій Мікалаевіч



***Галоўны рэдактар, Бабей Л.Л.***



***Навуковы кансультант, Коласава В.А.***



***Мастак-рэдактар, Квяткоўскі М.Я.***

## *ЗМЕСТ*

Пра аўтара . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
Ад аўтара . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 4
Былы маёнтак Ганута і забытыя яе абаронцы . . . . . . . . . . . 5
Забытыя героі вайны . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 11
Іх не магчыма забыць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 24
Два трагічныя лёсы зліліся ў адзін . . . . . . . . . . . . . . . . . 43
Магілка малавядомага партызана . . . . . . . . . . . . . . . . . 102
Ён аддаў сваё жыццё, каб сёння мы жылі . . . . . . . . . . . 107
Шыпкі і яе людзі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 139
Ізноў пра Шыпкі і яе жыхароў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 151
Жукаўка (Звада) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 161
Генацыд беларусаў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 166
Любчанская трагедыя . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 176

